# І ПРЫЗВАННЕ, І ЛЁС

## Жыццё і дзейнасць вучонага-педагога прафесара Фамы Антонавіча Бельскага

Мінск
Рэдакцыя часопіса «Роднае слова»
2012

УДК 37(476)(092)+929 Бельскі
ББК 74 (4Беи)
И11

Укладанне і каментарыі
*доктара філалагічных навук А. І. Бельскага*

И11 **І прызванне,** і лёс: жыццё і дзейнасць вучонага-педагога прафесара Фамы Антонавіча Бельскага / уклад. і камент. А. І. Бельскага ; прадм. У. Т. Кабуша. — Мінск : Рэдакцыя часопіса «Роднае слова», 2012. — 139 с.
ISBN-978-985-90254-4-0

Зборнік склалі артыкулы пра жыццё і творчы шлях Фамы Антонавіча Бельскага (1890—1952), які працаваў у вышэйшых навучальных установах Украіны, Беларусі, Расіі і Узбекістана. Прасочваецца станаўленне асобы таленавітага педагога і вучонага, характарызуецца дзейнасць прафесара як арганізатара адукацыі і навукі, асэнсоўваюцца яго навуковыя падыходы і погляды.

Выданне прымеркавана да 120-годдзя з дня нараджэння і 60-годдзя з дня смерці вучонага.

Адрасуецца даследчыкам гісторыі адукацыі і педагагічнай думкі, выкладчыкам, метадыстам, краязнаўцам, работнікам бібліятэчных устаноў.

**УДК 37(476)(092)+929 Бельскі**
**ББК 74 (4Беи)**

**ISBN-978-985-90254-4-0**



# Слово
# об учёном-педагоге Ф. А. Бельском
## *(предисловие)*

В педагогике на всех этапах её развития особая роль принадлежала личности учёного, имеющего свои оригинальные взгляды, идеи, разработки. Личностное начало определяет не только мировоззренческие представления и направленность научного мышления, но и сущность духовного, нравственного мира человека, его поведения в конкретных общественных условиях, той или иной проблемной ситуации. Всегда важно учитывать профессионально-значимые качества учёного и его лично-стно-биографические обстоятельства деятельности. В этом смысле профессор Фома Антонович Бельский (1890—1952) представляет собой несомненно незаурядную, яркую личность в педагогической науке первой половины XX века. Анализ его деятельности и творчества убеждает в том, что он имел основательный научный опыт, базирующийся на передовых достижениях отечественной и зарубежной педагогики, собственные суждения, убеждения и ценностные ориентации.

Особенно рельефно его взгляды и позиция как учёного-педагога выявились в сформулированных научных подходах к развитию образования на этапе становления советской школы. Ф. А. Бельский считал, что для успешного обучения и воспитания необходимы следующие важные условия: развитие индивидуальных способностей детей, создание учебных учреждений для одарённых и талантливых учащихся, выявление в ученической среде организаторов с ярко выраженными лидерскими качествами, переход в школьном коллективе к формам ученического самоуправления, разработка критериев измерения усвоения и оценки знаний, организация патриотического воспитания на основе краеведческого содержания и др. Он видел образовательно-воспитательное пространство как единое целое, где педагогическая деятельность направлена на развитие потенциала отдельной личности, рассматривал его как комплексную систему, в которой всё предельно сопряжено, взаимозависимо. Безусловно, учёный, бывший воспитанник старой гимназической школы, исходил из стратегии и основополагающих принципов гуманистической педагогики, которая отрицает авторитарные методы обучения и воспитания, утверждает необходимость создания благоприятных условий для раскрытия одарённости ребёнка, его способностей и внутреннего духовного мира.

Предложенный вниманию читателей сборник, в первую очередь изложенные в нём сведения историко-биографического характера, даёт довольно полное, целостное представление о профессоре Ф. А. Бельском как учёном и преподавателе самого высшего уровня, содержит хронологическую информацию о его жизни и деятельности, анализ научных работ и исследований, включает оценки вклада учёного в развитие образования и педагогической науки. Компетентное мнение о творческом наследии высказали белорусские и украинские авторы, они показали, и этот момент обращает особое внимание, что Фома Антонович — педагог-иссле-

дователь со своей научной позицией, сложившимися представлениями и взглядами, которые не всегда согласовались с постулатами, положениями официальной науки. Он позволил иметь собственную, к тому же критическую, точку зрения на общепринятый в то время метод политехнизации и высказал её публично на высоком научном собрании. Конечно, для этого нужны были, как говорят, внутренний стержень, смелость, принципиальность, твёрдая уверенность в своих убеждениях и взглядах. А время начала сталинских репрессий, как известно, было смутное и ужасное: режим начал насильно искоренять инакомыслие и уничтожать думающую интеллигенцию. В случившемся нестандартном событии в жизни профессора Бельского, которое явилось результатом его критического отношения к происходящему в образовании, и проявилась в полной мере его значимость как личности, имеющей подлинное, глубоко нравственное начало. В этом событии и связанных с ним волнениях, тревогах, переживаниях, безусловно, кроется и его драма как учёного и человека, безвременно ушедшего в мир иной.

Фома Бельский, несмотря на осложнения и трудности в своей жизни, в те 1930-е гг. всё же, к счастью, смог уцелеть, выстоять и найти возможность, чтобы и дальше заниматься любимым делом, быть полезным людям, трудиться во имя настоящего и лучшего будущего. Он плодотворно работал в вузах Украины, России, Беларуси и Узбекистана, был активным организатором учебно-педагогического процесса. И везде учёный оставил о себе заметный след и добрую память.

Особенно хотелось бы отметить тот факт, что профессор Ф. А. Бельский — участник Великой Отечественной войны. В то военное время он вышел из подавленного состояния и как бы воспрял духом, стал работать ещё более активно и успешно, к нему пришли творческое вдохновение и новые замыслы. Весьма красноречиво называется одна из его статей — «Фронту культуры и просвещения нужны высококвалифицированные кадры учителей» (1943). Действительно, только культурный и образованный человек может противостоять различным вызовам времени. А такого человека создаёт, воспитывает учитель, школа как самый важный институт общества. От профессионального, гражданского уровня педагога в значительной степени зависит духовно-нравственное состояние молодёжи, прогресс и будущее страны.

По словам составителя этого сборника, Фома Антонович Бельский — первый значимый и известный учёный из местечка Тимковичи, первый деятель науки в XX веке из числа уроженцев Копыльского района. Очевидно, это так. Ведь он окончил знаменитый Киевский университет в 1913 г., а профессором стал ещё в далёком 1925 г. Фигура учёного-педагога общезначима для ряда стран, в том числе и для Беларуси, где он родился и некоторое время работал. Безусловно, на родине могут гордиться своим талантливым земляком. В то же время он может быть примером для многих молодых учёных и всех тех, кто встал на педагогическое поприще, избрал путь воспитания и подготовки к жизни молодого поколения.

*Владимир КАБУШ*, доктор педагогических наук, профессор, академик Академии педагогических и социальных наук (г. Москва)



# Бельскі Фама Антонавіч
## *(з «Беларускай энцыклапедыі»)*

БЕЛЬСКІ Фама Антонавіч (31.10.1890, в. Цімкавічы Капыльскага р-на Мінскай вобл. — 2.3.1952, Кіеў), бел. і ўкр. вучоны ў галіне педагогікі і псіхалогіі. Праф. (1925). Скончыў Кіеўскі ўн-т (1913). З 1913 выкладаў у гімназіях на Украіне, загадваў Златапальскай прац. школай. З 1921 на педкурсах у г. Наваміргарадзе, Ін-це нар. адук. у м. Златапаль б. Кіеўск. губ. З 1925 у Данецкім, з 1929 Херсонскім ін-тах нар. адукацыі, Чаркаскім ін-це сац. выхавання. З 1932 заг. кафедры педагогікі Краснадарскага і адначасова Кубанскага с.-г. ін-таў, пазней заг. школьна-пед. аддзялення, в. а. дырэктара Краснадарскага пед. ін-та, заг. кафедры педагогікі Омскага с.-г. ін-та. У 1935—1936 заг. кафедры педагогікі і псіхалогіі Магілёўскага пед. ін-та. З 1936 у Ферганскім і Какандскім пед. і настаўніцкім ін-тах. У 1940—1945 загадваў кафедрай педагогікі Чарнігаўскага і Бухарскага пед. ін-таў. З 1946 у Крымскім пед. і Ленінградскім абл. настаўніцкіх ін-тах. З 1951 заг. кафедры педагогікі Кіеўскага ін-та фіз. культуры. Навук. працы па метадалогіі і гісторыі педагогікі, праблемах кіравання школай, стварэння школ для адораных дзяцей, пытаннях арганізацыі навуч. працэсу ў сярэдняй школе і ВНУ, распрацоўкі крытэрыяў ацэнкі ведаў навучэнцаў, маральнага выхавання вучняў старэйшага школьнага ўзросту і інш. Аўтар даследаванняў «Вымярэнне паспяховасці навучэнцаў па стандартызаваных тэстах», «Арганізацыя навуковай работы» (абодва 1926), «Арганізацыя школ для адораных дзяцей», «Арганізацыя школ для звышадораных навучэнцаў» (абодва 1927), «Вывучэнне здольнасцей дзяцей» (1928), «Нарматыўныя элементы педагогікі пры выкладанні яе ў педагагічных ВНУ» (1929), «Вялікі рускі педагог К. Д. Ушынскі» (1946) і інш.

*Тв.*: Виявлення організаторів у групі та вимірювання організованості групи. Луганськ, 1928; Педагогіка як наука. Луганськ, 1929.

*Літ.*: Прафесар Фама Антонавіч Бельскі: бібліягр. паказальнік; Профессор Фома Антонович Бельский: библиогр. указатель. Мінск, 2002.

*Алесь БЕЛЬСКІ*

Анатоль БЕЛЬСКІ

# Прафесар з Цімкавіч

Багатая і шчодрая педагагічная ніва Капыльшчыны. На ёй выраслі, узмужнелі сотні выдатных настаўнікаў, талент і майстэрства якіх шырока прызнаны ў нашай рэспубліцы. Імёны многіх назаўсёды застануцца ў гісторыі народнай асветы раёна.

Вялікі ўплыў на фарміраванне творчага аблічча настаўніка робіць вышэйшая школа. Яна, як вядома, дае будучаму педагогу глыбокае разуменне сутнасці розных навук і, у першую чаргу, закладвае надзейны, трывалы падмурак ведаў па выбранай спецыяльнасці, па педагогіцы і псіхалогіі. Педагогіка як навука ўзбройвае настаўніка шматлікімі метадамі, прыёмамі, сакрэтамі ў нялёгкай справе навучання і выхавання асобы, дапамагае выпрацаваць свой уласны творчы почырк.

Адзін з тых, хто знаходзіўся ў кагорце вучоных, якія закладвалі асновы сучаснай тэорыі і гісторыі педагогікі, — прафесар Фама Антонавіч Бельскі (1890—1952). Усё сваё жыццё ён аддаў справе развіцця народнай асветы.

Нарадзіўся Ф. Бельскі ў вёсцы Цімкавічы ў сям'і селяніна. Рана ў хлапчука абудзілася цікавасць да кнігі. Міхаіл Ларывонавіч Андрукові ч успамінаў, што гэта захапленне малога Фамы было самым моцным. Пасвіўшы на выгане каня, хлопчык часта забываў пра жывёлу, бо галава яго была перапоўнена вобразамі герояў любімых кніг. Чытаючы цікавую кніжку, ён, здавалася, забываў пра ўсё на свеце. Пасля вучобы ў Цімкавіцкім народным вучылішчы Фама падаўся ў Слуцкую гімназію. Скончыў яе вельмі паспяхова. Прага да ведаў была неадольнай, і ён не спыняецца на дасягнутым. Праз пэўны час юнак становіцца студэнтам Кіеўскага ўніверсітэта, які закончыў у 1913 годзе з дыпломам першай ступені. З таго часу і пачынаецца яго выкладчыцкая дзейнасць ва ўкраінскай гімназіі ў Златапалі.

Неўзабаве — Вялікі Кастрычнік. Малады спецыяліст сэрцам успрыняў рэвалюцыйныя падзеі. З вялікім натхненнем ён выкладае рускую мову, славеснасць і псіхалогію ў Аляксандраўскай гімназіі. Пачынаючы з 1921 года на працягу 30 гадоў Фама Антонавіч аддаваў вышэйшай школе ўсе свае веды, энергію і энтузіязм. Ён працуе лектарам педагогікі і рускай літаратуры трохгадовых педагагічных курсаў, інстытутаў народнай адукацыі, у тым ліку Данецкага. У 1925 годзе Фама Антонавіч Бельскі становіцца прафесарам педагогікі названага інстытута, у 1929 г. — прафесарам Херсонскага інстытута народнай адукацыі. Вучоны садзейнічаў развіццю навукова-педагагічнай думкі ў розных рэспубліках. Яму аказваўся высокі давер: весці за сабой іншых. Ён узначальваў кафедры педагогікі Краснадарскага, Магілёўскага, Чарнігаўскага, Бухарскага педінстытутаў, Кубанскага сельскагаспадарчага і Кіеўскага дзяржаўнага інстытута фізкультуры. Прафесар Бельскі выкладаў у Ферганскім, Какандскім і Ленінградскім інстытутах. Ім напісаны дзясяткі прац, сярод якіх найбольшую цікавасць уяўляюць «Педагогіка як навука», «Арганізацыя навуковай работы», «Выяўленне арганізатараў у групе і вызначэнне арганізаванасці групы», «Да пытання аб політэхнізацыі школы», «Вялікі рускі педагог К. Д. Ушынскі» і іншыя.

У гады Вялікай Айчыннай вайны прафесар Бельскі ўзначальваў кафедру педагогікі Бухарскага педінстытута. Ішоў трэці год крывавага ліхалецця, а зруйнаваная, змучаная ворагам краіна думала пра заўтрашні дзень навукі і культуры. У глыбокім тыле працягвалі сваю дзейнасць дзясяткі ВНУ... Прафесар Бельскі самаадданa працуе, добра ўсведамляючы, што дзе б ні знаходзіўся чалавек — ён павінен сумленна рабіць сваю справу, прыносіць як мага больш карысці Радзіме. Ад актыўнай, мэтанакіраванай дзейнасці настаўніка ў многім залежыць непераможнасць чалавечай асобы, яе маральная чысціня і сумленне. Такая думка рухала Ф. А. Бельскім пры напісанні артыкула «Фронту культуры і асветы патрэбны высокакваліфікаваныя кадры настаўнікаў», які быў змешчаны ў другім нумары газеты «Чырвоная Бухара» за 1943 год. Вучоны быў узнагароджаны медалём «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне».

Думкі, выказаныя ў яго навуковых артыкулах, і сёння вельмі актуальныя, надзённыя. Пра гэта сведчыць хаця б артыкул «Выяўленне арганізатараў у групе і вызначэнне арганізаванасці групы» (1928). Работа вызначаецца глыбінёй

тэарэтычных абгрунтаванняў і вывадаў, цікавым ілюстрацыйным і дыдактычным матэрыялам. Вучоны разглядае станоўчыя і негатыўныя бакі ў арганізацыі школьнага самакіравання. У прыватнасці, ён зазначае: «Школьнае самакіраванне абудзіла ініцыятыву вучняў, спрыяе іх уласнай разумовай працы, удзелу ў супольна-грамадскай дзейнасці…».

Цікавыя погляды выказаны ў грунтоўных работах, назвы якіх гавораць самі за сябе: «Мэтанакіраванасць у самаадукацыі настаўніцтва», «Арганізацыя школ для адораных дзяцей», «Вывучэнне здольнасцей дзяцей», «Педагагічны музей, яго арганізацыя і культурна-асветная дзейнасць» і ў іншых артыкулах, змешчаных на старонках часопіса «Савецкая школа» (на ўкраінскай мове).

Прафесара Бельскага цікавіў шэраг праблем выкладання і выхавання ў вышэйшай школе. Артыкулы «Педагагічны воблік савецкага настаўніка», «Нарматыўныя элементы педагогікі пры выкладанні яе ў педагагічных ВНУ», «Педагагічная практыка і яе правядзенне», «Арганізацыя і правядзенне заліковай сесіі» прасякнуты шчырым клопатам пра будучага настаўніка. У іх — рацыянальныя думкі пра фарміраванне і ўдасканаленне асобы педагога.

Сёння нам добра вядомы імёны многіх педагогаў: Шаталава, Ільіна, Аманашвілі, Волкава і іншых. У іх дзейнасці цесна спалучаны тэорыя і практыка, яны самі актыўна ўдзельнічаюць у працэсе навучання і выхавання. Якраз вучоных-педагогаў такой закваскі высока цаніў Ф. А. Бельскі, заклікаў навуку да самага цеснага кантакту са школай. Яго навуковыя работы і даследаванні заўсёды грунтаваліся на практычным матэрыяле шматлікіх школьных устаноў. Думаецца, у нашы дні варта ўзнавіць і асэнсаваць па-новаму ўсё лепшае, чаго дасягнула педагогіка даваенных гадоў. Ідучы па шляху вывучэння багатай педагагічнай спадчыны, больш яскрава ўяўляеш набыткі сучаснай педагогікі. Справе прагрэсу педагагічнай навукі і прысвяціў сваё жыццё сапраўдны педагог прафесар Фама Антонавіч Бельскі.

Анатоль БЕЛЬСКІ

## «З усімі правамі і перавагамі…»

Ён марыў вярнуцца на радзіму, прайсці па вуліцы свайго маленства, пабыць ля вечнага прыстанішча бацькоў на цімкавіцкіх могілках. Хвалюючыя і трывожныя думкі-згадкі пра роднае мястэчка, пра бацькоў і братоў не пакідалі яго сэрца ўсё жыццё. Так, менавіта трывожная памяць жыла ў ім, бо Фама Антонавіч Бельскі нарадзіўся ў сям'і заможнага селяніна, але на ўсе гады зацяжной сталінскай «зімы» ён быў змушаны маўчаць пра свае «карані», прыналежнасць да шляхетнага роду. Страх сталіншчыны, тагачасная рэальнасць даносаў, беспадстаўных абвінавачванняў і рэпрэсій прымусілі прафесара Бельскага жыць неспакойна-балючай думкай пра сустрэчу з радзімай.

Да нядаўняга часу наша айчынная гісторыя прыніжала лёсавызначальную ролю інтэлігенцыі ў жыцці народа. Прыналежнасць да дваранскага саслоўя, да сялянскай эліты лічылася найвялікшай заганай біяграфіі чалавека. Згадаем хаця б, як няславіліся гістарычныя творы пісьменніка У. Караткевіча, які ўпершыню ў беларускай літаратуры паказаў адукаваных прадстаўнікоў народа як лепшых людзей і сыноў-патрыётаў роднага краю. Прафесар Бельскі менавіта з той інтэлігенцыі, якая ўсведамляла сваю кроўную знітаванасць з народам і аддала яму ўсе свае духоўныя сілы, творчую энергію, розум.

Нарадзіўся ён у 1890 годзе, быў першынцам у сям'і. Маці хлапчука памерла ў маладым узросце, а бацька Антон Сямёнавіч праз колькі часу ажаніўся з другой. Фама быў вялікім аўтарытэтам у вачах сваіх малодшых сясцёр і братоў: начытаны, кемлівы, па-даросламу разважлівы і мудры. Бацька бачыў здольнасці сына да вучобы і таму дапамагаў яму матэрыяльна, ствараў умовы для духоўнага развіцця. Сын паспяхова скончыў Слуцкую гімназію, а потым паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта (тады называўся Імператарскі ўніверсітэт святога Уладзіміра). Вышэйшую навучальную ўстанову ён скончыў з выдатнымі ведамі, пра што сведчаць адзнакі ў яго дыпломе.

У гэтым дакуменце, у прыватнасці, адзначаецца, што выпускнік Бельскі «ўдастоены дыплома першай ступені з усімі правамі і перавагамі...». Паглядзім, як экзаменаваўся студэнт у тыя гады. Вось пералік галоўных іспытаў Фамы Бельскага ў гісторыка-філалагічнай камісіі, якія ён вытрымаў з выключнай паспяховасцю: першы пісьмовы іспыт, другі пісьмовы іспыт, па стараславянскай мове разам з палеаграфіяй, па рускай мове з дыялекталогіяй, па рускай славеснасці, па адной з паўднёвых і заходніх моў — з гісторыяй славянскіх літаратур.

Фама Бельскі атрымаў грунтоўную філалагічную адукацыю. Пасля заканчэння ўніверсітэта пачынаецца яго праца на ніве народнай асветы. Сем гадоў выкладання ва ўкраінскіх гімназіях сталі часам выспявання педагагічнага майстэрства, перыядам выпрацоўкі творчых падыходаў да вырашэння метадычных і выхаваўчых задач у навучанні. У 1917 годзе з'яўляецца яго першая друкаваная работа «Аб вывучэнні крытыкі», змешчаная ў «Працах усерасійскага з'езда выкладчыкаў рускай мовы» (Масква).

Пачынаючы з 1921 года на працягу 30 гадоў Фама Антонавіч працаваў у вышэйшай школе. У розных ВНУ краіны яму даводзілася ўзначальваць кафедры педагогікі ці працаваць на прафесарскай пасадзе. Прафесар Бельскі выкладаў у Данецкім, Херсонскім, Краснадарскім, Чарнігаўскім, Бухарскім, Какандскім, Ленінградскім і іншых інстытутах. Прычынай яго частых пераездаў былі і неўладкаванасць быту, і боязь магчымага арышту, і падзеі Вялікай Айчыннай... І ўсё ж, нягледзячы на неспрыяльныя абставіны ў жыцці, Ф. А. Бельскі паспеў напісаць шэраг грунтоўных работ: «Педагогіка як навука», «Арганізацыя навуковай работы», «Выяўленне арганізатараў у групе і вызначэнне арганізаванасці групы», «Вялікі рускі педагог К. Д. Ушынскі» і інш.

Прафесар Бельскі мог бы зрабіць значна больш, але тое, што ён не рэалізаваў сябе да канца, што яго талент марнаваўся ў бясконцых цяжкасцях, пад ідэалагічным прэсінгам сталінскай машыны — трагедыя і боль вучонага. Але нават у такіх умовах ён рупіўся як сапраўдны сейбіт. Пра гэта згадвае У. Д. Зянько — адзін са студэнтаў прафесара Бельскага, які працяглы час працаваў дырэктарам Вялікараёўскай сярэдняй школы нашага раёна: «Лекцыі Фамы Антонавіча карысталіся поспехам, бо чытаў ён іх натхнёна, міжволі захапляў усіх студэнтаў, імкнучыся абудзіць у нас самастойныя думкі, развагі». Такім Ф. А. Бельскі запомніўся і іншым студэнтам Магілёўскага педінстытута ў 1935—1936 гг. 1937 год пачынаўся для прафесара ў Ферганскім педінстытуце. Няцяжка здагадацца — чаму, бо словы «чорны воран» і «хапун» ужо не сыходзілі з вуснаў многіх людзей. Яму ўдалося пазбегнуць арышту, але ўнутраная дысгармонія, маральная надломленасць таксама прынеслі цяжкія і балючыя пакуты. «Ці ходзіць цягнік да Цімкавіч? Прыеду, абавязкова прыеду. Душа ў радасці і тамленні гэтай хвілінай», — пісаў ён на радзіму незадоўга да сваёй смерці.

Не спыняўся ён у грунтоўным вывучэнні славянскіх і іншых замежных моў, ведаў царкоўнаславянскую, грэчаскую, лацінскую, украінскую, французскую, нямецкую... І, безумоўна, сваю родную, беларускую. Заставаўся вялікім кніжнікам, меў добрую бібліятэку. І, вядома, пісаў навуковыя артыкулы. Думкі, выказаныя ў яго працах, і сёння часам надзвычай актуальныя, гучаць па-сучаснаму свежа. Сведчанне гэтаму — хаця б артыкул «Выяўленне арганізатараў у групе і вызначэнне арганізаванасці групы» (1928). Ён слушна зазначае: «Школьнае самакіраванне абудзіла ініцыятыву вучняў, спрые іх уласнай разумовай працы, удзелу ў супольна-грамадскай дзейнасці...». Ф. А. Бельскі добра разумеў неабходнасць і перспектыву стварэння шматлікіх устаноў для таленавітых дзяцей. Цікавыя погляды ім выказаны ў артыкулах «Арганізацыя школ для адораных дзяцей», «Арганізацыя школ для звышадораных навучэнцаў». Сёння мы ўжо бачым бясплённасць абавязковага, ледзь не прымусовага дзесяцігадовага навучання і той тэндэнцыі, якая вяла ледзь не да ўсеагульнай вышэйшай адукацыі. Вучоны-педагог Бельскі настойліва клапаціўся пра арганізацыю школьных устаноў новага тыпу, выяўленне таленавітых і здольных вучняў, імкнуўся адшукаць крытэрыі ацэнкі іхняй дзейнасці.

Фама Антонавіч Бельскі ўздымаў шэраг праблем выкладання і выхавання ў вышэйшай педагагічнай школе. Ад актыўнай, мэтанакіраванай дзейнасці настаўніка ў многім залежаць станоўчыя якасці чалавечай асобы, яе маральная чысціня, сумленне і, у канчатковым выніку, непераможнасць духу.

Такая ідэя рухала Ф. А. Бельскім у 1943 годзе пры напісанні артыкула «Фронту культуры і асветы патрэбны высокакваліфікаваныя кадры настаўнікаў». Вучоны быў узнагароджаны медалём «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне».

...Ён марыў убачыць сваё мястэчка, якое перажыло акупацыю фашыстаў. Але пасля знясільваючай і невылечнай хваробы Ф. А. Бельскі памёр. Ішоў 1952 год. Яшчэ жыў і красаваўся ў зеніце славы «бацька народаў». Наперадзе быў XX з'езд партыі, а Фама Антонавіч ужо знайшоў вечны прытулак удалечыні ад роднай зямлі...

Алесь БЕЛЬСКІ

# Сніў сны пра Беларусь

## *«Ці ходзіць цягнік да Цімкавіч?..»*

На схіле лета сцежка памяці прывяла мяне трэці раз на Байкавыя могілкі ў Кіеве. Тут, у засені старых клёнаў, ясакараў і каштанаў, вечным сном спачываюць мае сваякі з бацькавага роду. Першым адышоў у лона кіеўскай зямлі мой дзядзька, прафесар Фама Антонавіч Бельскі, потым у апошні шлях праводзілі яго родную сястру Яўгенію Антонаўну, настаўніцу і выхавальніцу ўкраінскай дзятвы, а зусім нядаўна, восенню 1998 года, тут захавалі і прах майго стрыечнага брата — вядомага лінгвіста-паліглота, доктара філалогіі і прафесара Георгія Пракопавіча Яталя. Сумна і журботна пачувалася ў той маўкліва-вусцішнай мясціне Кіева: і гэтых, дарагіх і блізкіх мне, людзей не давядзецца ніколі пабачыць, па-сваяцку сустрэцца з імі і пагутарыць. Час, на вялікі жаль, сурова і бязлітасна расстаўляе свае вехі, знакі бяды і смерці. Нам, жывым, нічога не застаецца, апроч як мірыцца з Божай наканаванасцю і памятаць пра тых, хто вопайшоў на вечны спачын.

Згадаць прафесара Фаму Антонавіча Бельскага хацелася б таму, што на сваёй радзіме імя яго малавядомае, нават забытае. Ужо мінула больш за стагоддзе з дня нараджэння гэтага вучонага-педагога з Беларусі, чыё жыццё і дзейнасць прыпалі на першую палову XX стагоддзя — час вельмі складаны і цяжкі. Прыйшоў ён на наш зямны свет напрыканцы кастрычніка 1890 года, нарадзіўся ў мястэчку Цімкавічы Капыльскага раёна. Бацька яго быў заможны гаспадар, займаўся сельскай гаспадаркай, вёў гандаль і лічыўся цудоўным майстрам-ткачом. У святы ён любіў услых чытаць Біблію і іншыя духоўныя кнігі. Гэты дбайны працаўнік і чалавек шчырай душы любіў прымаўку: «Каго пан Бог любіць, таму кніжак дае, а хто яго трывае, той шчаслівы бывае». У хаце Бельскіх часта запыняліся купцы з Варшавы, Вільні і іншых гарадоў. Бацька Фамы ўмеў выслухаць сваіх суразмоўцаў і весці шляхетную ды змястоўную гутарку. Зрэшты, ён добра гаварыў па-польску, быў сынам выпускніка Віленскага ўніверсітэта і асабістага Ганаровага грамадзяніна Расійскай імперыі Сільвестра Бельскага (у 1853 годзе такіх Ганаровых грамадзян у гарадах Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай губерняў налічвалася 550 чалавек — усяго 0,1 % гараджан). Фаму, тады яшчэ вучня Цімкавіцкага народнага вучылішча, захаплялі сваімі ведамі адукаваныя госці-купцы. Ён шмат чытаў (сям'я мела ладную бібліятэку), рос хлапчуком па-даросламу ўдумлівым і назіральным, быў сапраўдным аўтарытэтам у вачах сваіх сясцёр, а потым, калі дасягнуў вышынь вучонасці, і сваіх малодшых братоў Антона і Івана. Павагу і ўдзячнасць да бацькі і маці Варвары Фамінічны сын пранёс у сваім сэрцы праз усё жыццё. Ніколі ён не «тыкнуў» сваім бацькам, называў іх з любоўю і пашаноўна — толькі на «Вы». Незадоўга да смерці Фама Антонавіч усё яшчэ марыў, што пабачыць родныя мясціны, наведае апошні прыстанак маці і бацькі на цімкавіцкіх могілках. У сваіх лістах да малодшага брата часта пытаў пра тое, ці ходзіць да Цімкавіч цягнік, прызнаваўся, як у шчымлівай радасці і тамленні чакае хвіліну сустрэчы з радзімай. Цімкавічы не адпускалі ў снах і клікалі да сябе даўно, але прыехаць сюды, у Беларусь, не адважваўся і нават баяўся. Бо добра ведаў, як сталінскі «чорны воран» лютаваў у прыгранiччы ў 30-я гады, як цудам уратавалася ад высылкі з дзецьмі другая жонка яго бацькі — Фядора Паўлаўна. Фама Антонавіч пасля невылечнай і пакутлівай хваробы памёр у 1952 годзе — тады, калі яшчэ па краіне

незмаўкальным гулам каціласяімя Сталіна — «бацькі і правадыра ўсіх народаў».

На магілу дзядзькі мы з жонкай прывезлі торбачку цімкавіцкай зямліцы. У ціхай і намоленай царкве на Байкавых могілках разам з вернікамі паміналі сваіх родных і блізкіх. Памятаю, што тады думалася пра нявызнаны і такі кароткі зямны шлях — шлях, які ў маладыя гады заваблівае і кліча сваёй бясконцай перспектывай, потым круціць чалавека ў жыццёвым колавароце, каб аднойчы падвесці да мяжы нябыту. А там — вечны сон. Я зычыў Фаму Антонавічу светлых сноў пра родныя Цімкавічы, бо цягнік да іх ішоў праз яго сэрца доўгія гады.

## *«Лекцыі чытаў з натхненнем...»*

У 1909 годзе, пасля заканчэння Слуцкай гімназіі з сярэбраным медалём, Фама Бельскі паступіў у Кіеўскі ўніверсітэт (тады Імператарскі ўніверсітэт св. Уладзіміра) на гісторыка-філалагічны факультэт. Закончыў славутую навучальную ўстанову паспяхова ў 1913 годзе, атрымаў дыплом першай ступені «з усімі правамі і перавагамі». Пасля вучобы ён на некалькі дзён прыехаў у Цімкавічы, паўстаў у прыгожым віцмундзіры і ва ўсім бляску маладосці, парадаваў сваіх родных і блізкіх. Фама Антонавіч быў накіраваны на працу ў г. Златапаль, што на Украіне. У Златапальскай гімназіі ён выкладаў рускую мову, прыгожае пісьменства і псіхалогію. Неўзабаве пачаў карыстацца папулярнасцю і любоўю сваіх выхаванцаў ды іх бацькоў. Працаваў з вялікім імпэтам: арганізаваў літаратурны гурток, які ставіў п’есы, вёў заняткі па мастацкай дэкламацыі і інш. У гады Першай сусветнай вайны быў мабілізаваны на фронт, аднак пра тое, як ваяваў «за царя и Отечество», ён у савецкі час не згадваў, бо падобныя звесткі маглі б яму каштаваць жыцця. З 1920 года Фама Антонавіч паспяхова чытаў лекцыі па педагогіцы і рускай літаратуры на трохгадовых педкурсах у Наваміргарадзе, Інстытуце народнай адукацыі ў Златапалі і Данецкім інстытуце народнай адукацыі (г. Луганск). Працуючы ў Луганску, збіраўся на пэўны час выехаць за мяжу. Пра тую паездку, што так і не адбылася, гаворыць яго пляменніца кандыдат медыцынскіх навук Тамара Пракопаўна



Яталь: «...Захавалася вельмі добрае фота дзядзькі Фамы для замежнага пашпарта. Але чамусьці паслалі туды нейкага іншага выкладчыка. На той момант гэта было, канешне, вельмі прыкра. Аднак у святле наступных падзей, калі асоб, якія траплялі за мяжу, арыштоўвалі і высылалі, напэўна, гэткі зыход быў шчасцем».

У 1925 годзе Фаму Антонавічу прысвоілі званне прафесара педагагічных навук. Вышэйшай школе вучоны аддаў звыш трыццаці год свайго жыцця. Прафесарам педагогікі ён працаваў у 20-я — на пачатку 30-х гадоў у Данецкім і Херсонскім інстытутах народнай адукацыі. Выхаванец старой школы, прапагандыст элітарнай адукацыі, ён яшчэ цвёрда трымаўся сваіх поглядаў і перакананняў, калі А. С. Макаранка, Н. К. Крупская і многія педагогі савецкай фармацыі скіроўвалі тагачасную школу ў іншае рэчышча. Пляменніца Т. П. Яталь згадвае: «У 1932 годзе дзядзька, па яго словах, няўдала выступіў на вучоным савеце інстытута аб метадзе політэхнізацыі. Гэта было інкрымінавана яму ў сур’ёзную віну, абяцалі пазбавіць права выкладання ў ВНУ і г. д. Цётцы, жонцы Фамы Антонавіча, удалося забраць у аддзеле кадраў працоўныя кніжкі, бо трэба было як мага хутчэй пакідаць Херсон». І ўсё ж у тым жа 1932 годзе прафесар Ф. А. Бельскі ўзначаліў кафедры педагогікі Краснадарскага педінстытута і Кубанскага сельскагаспадарчага інстытута. Але «херсонскі след» праз колькі год усё ж усплыў, прыйшлося зноў ратавацца. Выбар быў зроблены: трэба вяртацца на радзіму. Бацькаўшчына прыцягвала, бы магніт, хацелася быць бліжэй да сваіх Цімкавіч. У 1935 годзе прафесар Бельскі пачаў загадваць кафедрай педагогікі і псіхалогіі Магілёўскага педінстытута. Як цудоўнага і глыбокага лектара прыгадваў свайго выкладчыка былы студэнт Фамы Антонавіча, потым дырэктар Вялікараёўскай СШ Капыльскага раёна У. Д. Зянько: «Лекцыі Фама Антонавіч чытаў з сапраўдным натхненнем, міжволі захапляў усіх студэнтаў — запрашаў уважліва слухаць і думаць, менавіта думаць. Мы ўпершыню даведаліся, што кожны з навучэнцаў мае своеасаблівы характар, таму настаўніку, прыйшоўшы на ўрок, трэба акурат бачыць і ўлічваць гэта, не глядзець на клас як асяродак аднолькавых вучняў. Працуючы з класам, важна бачыць і ведаць кожнага вучня з яго здольнасцямі, магчымасцямі,

і бачыць не толькі недахопы, але галоўнае — станоўчыя якасці, яго захапленні» (з успамінаў, запісаных у 1987 годзе).

Доўга на радзіме Фама Антонавіч не затрымаўся. Надыходзіў 1937 год — усё часцей бясследна знікалі людзі, чуліся прысуды «ворагам народа», станавілася цяжка дыхаць у атмасферы ўсеагульнай падазронасці і страху. Сям'я Бельскіх у чарговы раз пакуе рэчы і выпраўляецца ў Сярэднюю Азію, за тысячы кіламетраў ад Беларусі. Да 1940 года Фама Антонавіч працаваў прафесарам педагогікі і псіхалогіі Ферганскага і Какандскага пединстытутаў (Узбекістан). Тут жа на асветніцкай ніве рупілася і яго жонка Кацярына Міхайлаўна — выкладала студэнтам нямецкую мову. Са студзеня 1939 года Фама Антонавіч стаў акадэмічным пенсіянерам-прафесарам і з гэтага часу пачаў марыць пра пераезд на Украіну. Гэтая мара ўсё ж збылася: неўзабаве апынуўся ў Чарнігаве, дзе яго ўзялі на працу ў пединстытут прафесарам педагогікі і загадчыкам кафедры. На новым месцы сям'я ўладкавала свой побыт. Аднак грымнула вайна, і на Чарнігаў пасыпаліся фашысцкія бомбы. З ахопленага полымем горада, страціўшы ўсю маёмасць і палову важных дакументаў, ратаваліся ў бежанстве і гэтыя двое немаладых людзей, цярпелі ваеннае ліха і нягоды. Лёс аказаўся міласэрным і прывёў іх зноў у Сярэднюю Азію, а дакладней — ва Узбекістан. Да 1946 года прафесар Ф. А. Бельскі рупна і самаадданa працаваў у Бухарскім пединстытуце, кіраваў навукова-педагагічнай дзейнасцю адной з профільных кафедраў. У 1943 годзе, на трэцім годзе вайны, напісаў і апублікаваў артыкул «Фронту культуры і асветы патрэбны высокакваліфікаваныя кадры настаўнікаў». Ён быў перакананы, што настаўнік — аснова ўсіх пачаткаў, чалавек, які ўласным прыкладам і ведамі здольны выхаваць патрыятычную і глыбока культурную, інтэлектуальную асобу. Вучоны быў узнагароджаны медалём «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне» і ганарыўся гэтай адзнакай сваёй сціплай педагагічнай дзейнасці. У пасляваенныя гады здароўе Фамы Антонавіча пагоршылася, асабліва дрэнна на самаадчуванне ўплываў спякотны, задушлівы клімат. Сям'я Бельскіх зноў апынулася ў пошуках прытулку, перш пераехала ў Крым, затым у Ленінград. У 1951 годзе Фама Антонавіч пахаваў спадарожніцу свайго жыцця — любую і верную жонку. Не меў свайго жытла, дабіраўся да працы ў Ленінградскі абласны настаўніцкі інстытут толькі ў адзін бок дзве ці дзве з паловай гадзіны. Неўзабаве па яго прыехала сястра Яўгенія і забрала да сябе ў Кіеў. Апошняе яго месца працы — загадчык кафедры педагогікі Кіеўскага дзяржаўнага інстытута фізкультуры. «...Тут нечакана Фаму Антонавічу пашэнціла: малады, энергічны дырэктар Кіеўскага інстытута фізічнай культуры Шарсцюк узяў дзядзьку на працу... — распавядае пра той перыяд жыцця і працы пляменніца Т. П. Яталь. — Ён ставіўся да дзядзькі вельмі ўважліва і добра, наведаў яго лекцыі і быў дужа задаволены. Але дзядзька прыехаў у Кіеў ужо хворы...» І далей працягвае: «Пасля аперацыі мама настойвала, каб ён пакінуў працу... Але дзядзька ўпарціўся. Калі ў яго былі лекцыі, мама на стаянцы таксі на Бесарабцы брала машыну, адвозіла яго ў інстытут. Пасля заканчэння лекцый зноў на таксі прывозіла дамоў». Безумоўна, ён жадаў да апошняга быць патрэбным блізкім, хацеў хоць нечым дапамагаць ім. Але галоўнае — па прызванні ён быў апантаным педагогам, выдатным лектарам, улюбёным у студэнцтва, свой прадмет. Фама Антонавіч умеў весці за сабой калег, натхняць іх, увасабляў высакароднасць і інтэлігентнасць, нёс людзям дабрыню і цяпло свайго сэрца.

## *«Педагог павінен быць лекарам...»*

Навукова-педагагічная спадчына прафесара Ф. А. Бельскага адносна невялікая. Лепшае, што напісана ім, было створана ў 20-я гады падчас працы ў гарадах Луганску і Херсоне. Першая яго друкаваная праца была філолага-метадычнага характару — «Аб вывучэнні крытыкі» — і з'явілася ў Маскве ў 1917 годзе. Аднак сфера яго навуковых і выкладчыцкіх інтарэсаў з цягам часу набыла дакладна акрэслены характар — педагогіка, агульная і ўзроставая псіхалогія. У першай палове 20-х гадоў ён апублікаваў артыкулы «Навукова-педагагічныя экскурсіі...», «Педагагічная кансультацыя, методыка яе правядзення» і некаторыя іншыя. Сапраўдны плён прынёс актыўны ўдзел вучонага ў Навуковым таварыстве на Данеччыне, якое наладзіла сувязь з украінскай

Акадэміяй навук. Поруч з прафесарамі С. Р. Грушэўскім, У. С. Бураўцовым і іншымі вучонымі Ф. А. Бельскі вёў дзейсную навукова-арганізацыйную і даследчую працу, быў летапісцам навуковых здабыткаў і поспехаў гэтага згуртавання, пра што, зрэшты, і сведчаць яго артыкулы «Да пытання пра арганізацыю Навуковага таварыства на Данеччыне», «З гісторыі дзейнасці Навуковага таварыства на Данеччыне». У другой палове 20-х гадоў Фама Антонавіч надрукаваў свае асноўныя працы, найбольшую цікавасць з якіх уяўляюць «Педагогіка як навука», «Арганізацыя навуковай работы», «Выяўленне арганізатараў у групе і вызначэнне арганізаванасці групы», «Вывучэнне здольнасцей дзяцей», «Вывучэнне паспяховасці навучэнцаў», «Мінулае нашага краю» і інш. Асабліва прыкметныя дзве публікацыі ў часопісе «Радянська школа» («Савецкая школа») за 1927 год — «Арганізацыя школ для адораных дзяцей» і «Арганізацыя школ для звышадораных навучэнцаў». Ён ва ўмовах арыентацыі на працоўна-прафесійную адукацыю ўздымае праблему стварэння асобных школ для выхавання і навучання дзяцей, якія вылучаюцца сваёй таленавітасцю, багаццем псіхічных працэсаў і поспехамі ў засваенні ведаў. Вучоны адзначаў, што павінна быць прадумана адпаведная методыка працы з такімі дзецьмі і падабраны найбольш падрыхтаваныя для педагагічнай дзейнасці выкладчыкі. Сёння надзвычай добра відаць плён арганізацыі ва Украіне і ў Беларусі элітных навучальных устаноў новага тыпу — ліцэяў і гімназій для адораных дзяцей. Думкі, выказаныя ў яго працах, не страцілі сваёй актуальнасці і значнасці. Артыкул «Выяўленне арганізатараў у групе...» (1928) вызначаецца тэарэтычнай заглыбленасцю, арыгінальнасцю высноў, насычаны цікавым ілюстрацыйным матэрыялам. Вучоны, аналізуючы станоўчыя і негатыўныя моманты ў школьным самакіраванні, у прыватнасці, адзначае, што «школьнае самакіраванне прывучыла вучняў да думкі, што будаўніцтва школьнага жыцця — гэта справа не толькі загадчыка школы, настаўнікаў, школьнай рады, але і справа саміх вучняў», яно «абудзіла ініцыятыву вучняў», спрыяе «ўдзелу ў супольна-грамадскай дзейнасці» і г. д. Прафесар Бельскі імкнецца гэты эксперымент у дзейнасці школы ахарактарызаваць з пункту гледжання навуковай педагогікі і псіхалогіі, даць практычныя парады з улікам рознага тыпу школ, рознага складу навучэнцаў, засцерагчы ад перакосаў і пралікаў.

Вучоны, пастаянна працуючы са студэнцкай аўдыторыяй, не мог не закранаць пытанні і праблемы, звязаныя са спецыфікай навучання і выхавання ў вышэйшай школе. Артыкулы «Арганізацыя семінараў павышанага тыпу», «Нарматыўныя элементы педагогікі пры выкладанні яе ў педагагічных ВНУ», «Мэтаімкнёнасць у самаадукацыі настаўніцтва», «Педагагічная практыка студэнцтва і методыка яе правядзення», «Арганізацыя і правядзенне залiковай сесіі» і іншыя напісаны з клопатам пра належны прафесійны і культурны ўзровень настаўніка, у іх — рацыянальныя думкі пра арганізацыю навучальнага працэсу, удасканаленне асобы педагога.

Адным з вялікіх аўтарытэтаў для прафесара Бельскага быў К. Д. Ушынскі. Пра гэта красамоўна гаворыць яго артыкул, напісаны неўзабаве пасля вайны, у 1946 годзе, і прысвечаны гэтаму вялікаму педагогу.

У апошнія гады Фаму Антонавічу працавалася цяжка, бо перашкаджалі жыццёвая неўладкаванасць і наступствы хваробы. Некалькі артыкулаў засталіся неапублікаванымі («Выхаванне трываласці і ініцыятывы ў вучняў старэйшага школьнага ўзросту», «Прагрэсіўныя ідэі ў педагогіцы І. І. Бецкага» і інш.). Не здолеў ён давесці да канца і падручнік па педагогіцы, працу над якім пачаў у 20-я гады (пра гэта сведчыць брашура «Педагогіка як навука»). Ды на тое была і аб'ектыўная прычына: вульгарызавалася навука, насаджаліся ідэалагічныя каноны і штампы, таму, як прызнаваўся, не бачыў сэнсу паспяваць за павевамі часу і кан'юнктурнымі зменамі, якія не маюць нічога агульнага з навукай. Праўда, і ён пазней быў вымушаны сплаціць даніну тагачасным ідэалагічным патрабаванням.

Прафесар Ф. А. Бельскі лічыў, што педагог павінен быць таленавітым лекарам і тэхнікам, валодаць дарам любові і цэлай сістэмай педагагічных ведаў. У высокаадукаванай настаўніцкай інтэлігенцыі ён, як і многія іншыя вучоныя-педагогі, бачыў запаруку вялікай духоўнасці грамадства.

Алесь БЕЛЬСКІ

# Інтэлігентнасць — скарб душы

За савецкім часам мы звыкліся з агульнараспаўсюджанай думкай наконт таго, што рабочы клас — самы перадавы, самы рэвалюцыйны, самы свядомы. Гэтае азначэнне «самы» культывавалася ў грамадстве надзвычай магутна, убівалася ў галаву чалавека, пачынаючы са школы, ад самага пачатку існавання савецкай улады. Але «крамольныя» сумненні не-не ды і наведвалі душу: чаму ж рабочы клас больш свядомы і перадавы, чым інтэлігенцыя? Вядучую, нават лёсавызначальную ролю інтэлігенцыі ў жыцці народа камуністычная ідэалогія і тагачасная сістэма ўлады паспелі настолькі прынізіць, што ў многіх людзей, якія выйшлі з рабоча-сялянскага асяродку, склаліся да адукаванай часткі народа ваяўніча-пагардлівыя адносіны: згадаем нападкі рабочай эліты на беларускіх пісьменнікаў, фізічнае выломванне рук і маральную расправу з інтэлігентамі падчас мітынгаў і дэманстрацый.

Гісторыя ведае шмат трагічных падзей і момантаў у жыцці беларускай інтэлігенцыі, калі яе мэтаскіравана супрацьпастаўлялі рабочым і сялянам. Ідэалагічная машына сталіншчыны бязлітаснараструшчвала мозг, інтэлектуальную эліту народа — яго нацыянальна адданую і сумленную інтэлігенцыю, яго маральных ахоўнікаў і прапаведнікаў. Але інтэлігенцыя — гэта не падчарка народа, яна нараджаецца ў яго нетрах, сілкуецца яго сокамі, духам, культурай. Інтэлігенцыя — гэта «я» народа, найперш яго нацыянальна свядомае «я», моц творчага самавыяўлення.

Яшчэ зусім нядаўна лічылася нясціплым казаць пра шляхетнасць свайго паходжання, пра тое, што ты родам з сям'і патомных інтэлігентаў. Прыналежнасць да дваранскага саслоўя, інтэлігенцыі, сялянскай эліты расцэньвалася з адмоўных класавых пазіцый. Таму і абвінавачвалі пісьменнікаў у прыналежнасці да «буржуазных нацыяналістаў», «рэакцыйнага кулацтва» і да т. п. Ідэалагічныя рэтушоры пачалі падфарбоўваць біяграфіі класікаў. Невыпадкова нашага Янку Купалу малявалі ў лапцях, зацята гаварылі пра яго беднае сялянскае паходжанне.



Сёння, здаецца, гаворка пра свой радавод стала вельмі актуальнай і нават папулярнай, але, што грэх утойваць, успрымаецца яна часам як выхвалянне, праява нясціпласці. І гэта засмучае. Бо родавая памяць — галоўны чыннік існавання любой нацыі, наогул людской цывілізацыі. Без шанавання сям'і, памяці продкаў, роднай зямлі, дзе ты нарадзіўся і ўзгадаваны, немагчыма лічыць сябе культурным чалавекам. І гэта добра зразумелі на Захадзе, дзе ў многіх краінах, пачынаючы са школы, у аснову адукацыі і выхавання пакладзены ўніверсальны прынцып уладкавання свету: я — сям'я — народ — радзіма — чалавецтва.

У 1930-я гады ўдумлівыя, адукаваныя людзі добра бачылі, што робіцца ў краіне. Яны ведалі: пра сваё паходжанне лепш маўчаць, нельга варушыць мінулае продкаў, бо гэта можа адгукнуцца суровым абвінавачваннем. Мой дзядзька, прафесар педагогікі Фама Антонавіч Бельскі (1890—1952), на ўсе гады лютай і зацяжной сталінскай «зімы» быў адарваны ад сваіх родных Цімкавіч і толькі марыў пра сустрэчу са сваякамі, магіламі бацькоў. Тагачасная радзіма палохала шпіёнаманіяй і рэпрэсіямі — у памежжы, можа, як ні ў якім іншым месцы, заўзята выкрывалі польскіх і нямецкіх «шпіёнаў», ледзь не штодня арыштоўвалі «ворагаў народа». А хіба мог мой дзядзька гаварыць пра тое, што яго дзед — выпускнік Віленскага ўніверсітэта, што быў у складзе царскай арміі на фронце, што муж сястры Серафімы і яго лепшы сябар — царскі прыстаў?.. Памятаеце, як у п'есе Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошнім» Гарлахвацкі робіць намёк Тулягу, што ён «чалавек нявысветлены» і падобны да «дзянікінскага палкоўніка». У тагачаснай атмасферы страху лёгка было трымаць інтэлігенцыю «ў чорным целе», прымусіць яе «ведаць сваё месца».

Сёння, як думаецца, мы павінны надзвычай добра адчуць і зразумець неабходнасць выхавання сучаснай школай асобы інтэлігента, а калі браць шырэй — інтэлігентнасці ў чалавеку. Пачуццё свабоды і годнасці, высокая этычная культура — вось «стрыжань» асобы «чалавека прыгожага». Гэта, аднак, не азначае, што сённяшні вучань заўтра павінен атрымаць вышэйшую адукацыю. Мы ўжо добра ведаем, да чаго прывяла ўсеагульная політэхнізацыя школы ці спроба ажыццявіць у краіне ўсеагульную абавязковую сярэднюю адукацыю.

Масавасць у набыцці вышэйшай адукацыі не здыме праблемы якасці навучання і, у першую чаргу, выхавання. Адукаванасць — яшчэ не значыць маральнасць, высокая нацыянальная свядомасць.

Інтэлігентнасць, на жаль, не заўсёды праяўляецца ў чалавеку, які мае дыплом аб заканчэнні ВНУ. Інтэлігентнасць — гэта перш-наперш узровень духоўнасці, агульнакультурнага далягляду асобы, гэта яе погляды, прынцыпы і перакананні, стыль жыцця і паводзін. Узор сапраўднага рускага інтэлігента — Дзмітрый Ліхачоў. Беларускія пісьменнікі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Максім Гарэцкі, Вацлаў Ластоўскі, Максім Танк, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Янка Брыль — нацыянальныя інтэлігенты з вялікай літары, людзі інтэлігентныя ў высокім разуменні гэтага слова. «Я» кожнага з іх духоўна ўвабрала і прадвызначае лёс агульнанацыянальнага «мы». Таму ў наш сённяшні час асаблівую значнасць і важкасць набывае голас і слова інтэлігенцыі.

Сапраўдны інтэлігент уяўляецца мне асобай творчай, чалавекам, які мае незалежна-свабоднае мысленне, свой уласны позірк на рэчаіснасць, улічвае плюралізм меркаванняў, не заціснуты абручамі догмаў, схем, стэрэатыпаў. Паўтаруся, але перакананы, што інтэлігентнасць трэба абуджаць і выхоўваць з ранніх школьных гадоў. Грамадства без высакародных рыцараў духу не можа быць паўнавартасным. Мала быць носьбітам ідэалаў, але трэба ўмець іх адстойваць і несці, як светач, насустрач будучыні.

Інтэлігентаў да 1917 года я назваў бы класічнымі інтэлігентамі: і па адукацыі, і па выхаванні, і па шырыні светапогляду, які меў выразную маральна-гуманістычную скіраванасць. Яны ў свой час праходзілі праз гімназіі, семінарыі, універсітэты, паступова набываючы на ўсіх этапах навучання філалагічна-гуманітарны грунт. Але найперш асновы ўнутранай культуры і інтэлігентнасці закладваліся ў сям'і, якая была, ёсць і будзе заставацца важным асяродкам фарміравання асобы.

Пра неабходнасць мэтаскіраванага развіцця духоўна-творчага патэнцыялу дзяцей Ф. А. Бельскі гаварыў тады, калі савецкая школа брала курс на політэхнізацыю адукацыі. Ён лічыў, што без выхавання эліты не будзе «культурнай рэвалюцыі». Вучоны-педагог клапаціўся пра сур'ёзную арганізацыю працы з таленавітымі і адоранымі вучнямі, падкрэсліваў ролю настаўніка ў выяўленні і развіцці «індывідуальных асаблівасцей і творчых здольнасцей дзіцяці» шляхам «умелага і сістэмнага раскрыцця волі, розуму і таленту дзіцяці».

Фама Антонавіч добра ўсведамляў перспектыву адкрыцця навучальных устаноў для юных талентаў. Неабходнасць дыферэнцаванага, індывідуальна арыентаванага навучання дзяцей, іх выхавання ў адпаведным агульнакультурным асяродку прафесар Бельскі навукова абгрунтавана даводзіць у артыкулах «Арганізацыя школ для адораных дзяцей», «Арганізацыя школ для звышадораных навучэнцаў» (абодва 1927). Вучоны-педагог «вылушчваў» рацыянальныя зярняткі з вопыту «старой» дакастрычніцкай школы, знаходзіў каштоўнае і вартае для пераймання ў адукацыйнай практыцы савецкага часу.

Адоранасць і таленавітасць дзіцяці, бясспрэчна, можа разгарнуцца толькі ў спрыяльным асяродку, пры спецыфічных умовах. «Быць такім, як усе», — прынцып, які нівеліруе індывідуальнасць, творчую асобу. Калектыўна-масавыя ўстаноўкі і памкненні найчасцей не спрыяюць выяўленню ўласнага «я». Хоць, безумоўна, чалавек з юных гадоў павінен адчуваць сябе сярод іншых людзей, успрымаць часткай калектыву і грамады. Многае трэба ўмець дараваць вучням неардынарным, таленавітым, зразумець часам іх максімалізм і не прыніжаць іх самастойнасці думкі, права на сваё «я». Сёння адчыняюць дзверы ліцэі і гімназіі — навучальныя ўстановы новага тыпу, і ў гэтым бачыцца добры знак сучаснасці. З'явілася надзея на істотныя перамены ў выхаванні будучай інтэлігенцыі, эліты грамадства. Рост духоўнасці напрамую залежыць ад асабістай культуры і адукаванасці кожнага грамадзяніна краіны.

Беларускі інтэлігент пачынаецца з усведамлення свайго нацыянальнага «я», прыналежнасці да роднага краю і яго прыроды, слаўнай мінуўшчыны, народнай культуры і этыкі. Адрадзіць нацыянальна арыентаваную свядомасць інтэлігенцыі, яе патрыятычны дух можа толькі школа нацыянальная, галоўны «нерв» існавання якой — беларуская мова, гісторыя,

культура. Без ведання і павагі да мінулага, глыбокай любові да радзімы немагчыма выхаванне асобы грамадзяніна. Такім пафасам прасякнуты артыкул прафесара Ф. Бельскага «Мінулае роднага краю» (1928).

На ўроках роднай мовы і літаратуры перад настаўнікам з'яўляюцца шырокія магчымасці выхавання ў чалавеку патрыятычнага светапогляду, фарміравання беларускай душы і беларускага характару, а гэта, як думаецца, і дапамагае адчуваць ды ўсведамляць чалавеку сваё адметнае, непаўторнае «я» ў агульналюдскай супольнасці, у культурнай прасторы сусветнай цывілізацыі. Хіба можа ўзрасці нацыянальна свядомы інтэлігент, увогуле шчыры беларус без любові да матчынай мовы і роднай зямлі, без народнай песні ў душы, без шанавання генеалагічнага дрэва свайго роду, без ведання гісторыі і духоўных традыцый Бацькаўшчыны? У той жа час беларус, інтэлігент-беларус у першую чаргу, не павінен пачуваць сябе ізалявана ў славянскай супольнасці, у «агульнапланетным аспекце» (выраз У. Вярнадскага). Нам трэба намагацца спазнаць свет вялікі праз яго разнастайнасць і прэзентаваць у ім сваё, роднае, беларускае. Да гэтага імкнуліся нашы славутыя пісьменнікі-класікі.

Мова, культура ўвогуле яднаюць чалавека з чалавекам, краіну з краінай. Ці кожны з сучасных інтэлігентаў можа пахваліцца глыбокім веданнем моў і культуры славянскіх суседзяў і народаў свету? Пэўна, што не. Бо і сваё нацыянальнае «я» ў душы досыць часта маўчыць ці проста заснула моцнай зімовай спячкай. І віна нашай школы ў гэтым ёсць — як сярэдняй, так і вышэйшай. Многае тут залежыць ад навучальных праграм, у якіх у разумных межах павінна быць прэзентавана нацыянальна-патрыятычная тэматыка, літаратура і культура суседніх краін.

Што ж робіць чалавека сапраўдным носьбітам культуры? Відаць, тут не трэба адкрываць Амерыку, бо адказ ужо знойдзены цывілізаваным грамадствам: выхаванне ў сям'і і школе, родная і замежныя мовы, родная і замежныя літаратуры, сусветнае мастацтва... Настаўнік у першую чаргу павінен быць markup рознабакова адукаваным, мець грунтоўна-універсальны багаж ведаў — ведаў пра родны край, свой народ, пра сябе і чалавецтва. Што грэх утойваць, калі ўніверсітэты і інстытуты выпускаюць маладасведчаных і малапісьменных



спецыялістаў, у тым ліку і настаўнікаў-філолагаў. Адбываецца дэвальвацыя на розных узроўнях: як адукацыйным, так і культурна-выхаваўчым. Слабы вучань, які апынуўся ў сценах ВНУ, робіцца ў выніку гэткім жа выпускніком у вышэйшай школе, «сярэдні» педагог не здатны наладзіць адукацыйна-выхаваўчы працэс на належным узроўні... Так узнікае замкнёнае, зачараванае кола. Таму неабходна карэнным чынам мяняць усю сістэму прафадбору. І чым хутчэй, тым лепш.

Ці павінна быць ідэалогія ў школе? Праз камуністычную ідэалогію ў многім адбывалася прафанацыя адукацыі. Мяркую, што вам няцяжка згадаць, да чаго зводзіліся дзяржаўныя экзамены ў ВНУ савецкага часу: гісторыя КПСС ці марксісцка-ленінская філасофія; сюды, праўда, трэба дадаць дыпломную работу (даволі часта кампілятыўную, маласамастойную). Іншага кшталту і на іншым узроўні трымаў выніковыя іспыты выпускнік Кіеўскага ўніверсітэта ў 1913 годзе (тады называўся Імператарскі ўніверсітэт святога Уладзіміра). Гэтую ўстанову Ф. А. Бельскі закончыў з дыпломам першай ступені, атрымаўшы не толькі адпаведнае месца ў іерархічнай службовай лесвіцы, але і «правы і перавагі». Словам, ствараліся належныя стымулы, і таму была матывацыя да выдатнай вучобы. І не толькі ва ўніверсітэце. Так, выпускнік Слуцкай гімназіі, які атрымаў залаты медаль, меў права на залічэнне без экзаменаў у Маскоўскі ці Санкт-Пецярбургскі ўніверсітэт, а той, хто быў узнагароджаны сярэбраным медалём, мог падацца на вучобу ў Кіеўскі ўніверсітэт. Між іншым, Слуцкую гімназію Фама Бельскі скончыў з сярэбраным медалём.

А вось пералік галоўных іспытаў у гісторыка-філалагічнай камісіі, якія Ф. Бельскі вытрымаў вельмі паспяхова: першы пісьмовы іспыт, другі пісьмовы іспыт, па старaславянскай мове з палеаграфіяй, па рускай мове з дыялекталогіяй, па рускай славеснасці, па адной з паўднёвых і заходніх славянскіх моў з гісторыяй славянскіх літаратур. Што і казаць, выпускнік універсітэта св. Уладзіміра меў грунтоўную, якасную падрыхтоўку, а яна засноўвалася на высокім узроўні прафесійных патрабаванняў.

Сёння мінуў час насаджэння дагматыкі, «прамывання мазгоў», і таму ў вышэйшай школе трэба стварыць культ

ведаў, матывацыю да прафесійнага росту, у першую чаргу садзейнічаць станаўленню глыбока кампетэнтнага спецыяліста, цэласнай маральна-духоўнай асобы. Ф. А. Бельскі лічыў, што адукацыя павінна быць несупыннай, таму нельга спыняцца ў сваім развіцці, неабходна праз усё жыццё імкнуцца да самаўдасканалення (артыкул «Мэтаскіраванасць у самаадукацыі настаўніцтва»).

Цяпер нам вельмі важна інтэгравацца ў еўрапейскую і сусветную моўную і культурную прастору. Таму вывучэнне замежных моў — галоўны прыярытэт адукацыйнай палітыкі на сучасным этапе. Павінна адысці ў нябыт заганная паўсюдная з'ява, калі ў лістках па ўліку кадраў выпускнік ВНУ падкрэсліваў: «чытаю і перакладаю са слоўнікам». Беларус Фама Бельскі грунтоўна авалодаў украінскай мовай, пісаў і выкладаў на ёй. Добра ён ведаў родную беларускую мову (гэта заўсёды падкрэсліваў у лістках па ўліку кадраў), а таксама пастаянна вывучаў нямецкую, французскую і некаторыя іншыя мовы. У гэтым яму дапамагала жонка Кацярына Міхайлаўна, выкладчыца нямецкай мовы, выхаванка Інстытута высакародных паненак, у якім, дарэчы, дазвалялі гаварыць у пэўны дзень выключна на якой-небудзь адной мове — напрыклад, толькі па-французску. Мой стрыечны брат прафесар Георгій Яталь, які валодаў сямю мовамі, а чатыры з іх актыўна выкарыстоўваў у навучальным працэсе са студэнтамі і аспірантамі, пастаянна даводзіў моладзі, што глыбокае веданне замежнай мовы — гэта паказальнік не толькі адукаванасці, але і культуры чалавека, яго здольнасці да камунікацыі ў сучасным свеце. Яму вельмі блізкім было выказванне Гётэ: «Хто не ведае чужых моў, той нічога не ведае пра сваю ўласную». Зрэшты, яшчэ ў 1920-я гады было нямала юнакоў і дзяўчат, якія імкнуліся да выхаду на шырокі культурны прасцяг. Не трэба часам глядзець на нашых тагачасных пісьменнікаў як на нейкіх інфантыльных «дзяцей вёскі». Настойліва авалодвалі замежнымі мовамі і цікавіліся культурай іншых народаў У. Дубоўка, У. Жылка, Ю. Гаўрук, З. Астапенка, Ю. Таўбін і іншыя літаратары.

Такім чынам, малады чалавек, за плячыма якога засталася ВНУ, павінен быць на вышыні і па адукацыі, і па глыбокай унутранай культуры. Уся сістэма навучання і выхавання ў школе — ад сярэдняй да вышэйшай — будзе



прадуктыўнай і эфектыўнай тады, калі ў выніку перад намі паўстане Чалавек, Асоба, Грамадзянін Беларусі.

Інтэлігентнасць — гэта скарб чалавечай душы, вызначальная рыса духоўнага аблічча асобы, яе цэльнасці і цэласнасці. Філолаг, гуманітарый увогуле, як ніхто іншы, павінен засвоіць эстэтычнае і культурнае багацце свету, увасабляць прывабнае хараство пачуццяў і глыбока этычных дум. Настаўнік-славеснік — адна з цэнтральных постацей у школе, бо менавіта яму праз змест мастацкай літаратуры і сваё ўласнае слова належыць раскрыць вучням сэнс духоўнага існавання, сутнасць высакароднай, рыцарскай маральнасці.

Акурат настаўнік мовы і літаратуры вучыць адчуваць красу роднай мовы, разумець мудрасць жыцця, любіць прыроду і людзей. Ён здольны зрабіць сваіх выхаванцаў духоўна багатымі, вывесці іх у космас агульначалавечай маралі і культуры. Найвялікшыя яго тут дарадцы Дастаеўскі і Талстой, Шаўчэнка і Ажэшка, Фолкнер і Экзюперы, Купала і Гарэцкі, Караткевіч і Быкаў... Спыніць нівеліроўку духоўнасці можна тады, калі высока ўзняць «планку» інтэлігентнасці, высакародства, чалавечай сумленнасці. Без чысціні душы і прыстойнасці не могуць бруіць цудадзейныя і гаючыя крыніцы жыцця.

Слушна выказаўся В. Быкаў: «Народ без лідара сірата. Але і яго будучае небезнадзейнае, калі ён мае ўласную інтэлігенцыю». Перафразаваўшы вядомыя словы з песні, скажам: інтэлігентамі не нараджаюцца — інтэлігентамі становяцца. Пра гэта неабходна памятаць сёння, калі асаблівую актуальнасць набываюць пытанні агульнай культуры і маральнасці грамадства. Цяжкая і адказная ноша — быць інтэлігентам, бо ад цябе патрабуецца вельмі многае, але самае галоўнае — гэта выпраменьваць святло душы, валодаць празорлівасцю думкі, ствараць аўру гарманічнага існавання ў грамадзе.

Тамара ЯТЕЛЬ

# Мой дорогой дядя Фома
## *(воспоминания)*

> И вот прошло с тех пор целых тридцать лет. И многое, многое пережито было за эти годы, кажущиеся такими долгими, когда внимательно думаешь о них, перебираешь в памяти всё то волшебное, непонятное, непостижимое ни умом, ни сердцем, что называется прошлым.
>
> ***И. А. Бунин.*** *«Холодная осень».*

Фома Антонович Бельский родился в 1890 году в белорусском местечке Тимковичи.

Его прадед — Сильвестр Бельский, выпускник Виленского университета, личный Почётный гражданин Российской империи. Он был человеком известным и богатым. Уже будучи пожилым, Сильвестр влюбился в молодую красавицу Марианну. Через три года он умер, оставив жену с маленьким сыном.

Отец — Антон Сильвестрович (по некоторым документам — Семёнович) Бельский. Вместе с матерью по неизвестным причинам он приехал в Тимковичи (бывшее владение князей Радзивиллов), занимался прежде всего сельским хозяйством: посевами, уборкой, обмолотами. Односельчане о его работе в поле говорили так: «Анта (уличное прозвище) хочет докопаться до дедовского гноя». По воскресеньям он любил посещать окрестные сёла, заходил к знакомым крестьянам, советовал, как ухаживать за животными, советы его очень высоко ценились. По праздникам любил читать божественные книги. Имел хороший голос, пел церковные песнопения. Нужно отметить, что в течение жизни он трижды ранней весной ходил на прощу в Киев поклониться святыням. Дедушка хорошо знал польский язык; мама вспоминала, что в их доме бывали купцы из Варшавы, Вильно и ещё откудато, беседовали с дедушкой, привозили различные невиданные закуски, в числе которых была и медвежья шинка.



К жене и детям дедушка Антон относился очень хорошо, никогда в семье не было ссор, споров. Ещё он был замечательный мастер, умел ткать скатерти, полотенца и прясть полотна со сложными узорами, создавая как бы художественные произведения. Его работа отличалась не только красотой, но и большой тщательностью, аккуратностью обработки, при этом отсутствовали технические дефекты — утолщения, зацепки, близны, обрывы ниток. Поэтому скатерти были двухсторонними, т. е. имели одинаковый вид с обеих сторон. Если односельчанин хотел иметь хорошую вещь, он отдавал работу Бельскому.

Варвара Фоминична вела домашнее хозяйство: готовила пищу для семьи и животных — коровы, лошади, свиней, кур, стирала, пекла хлеб на дубовых листьях. Она славилась как хорошая хозяйка, у неё покупали молоко и творог соседи — евреи Файтели. Они же, обращаясь к соседке, спрашивали: «Может быть, Бельская, продашь нам такой колбасы, какую ты посылаешь сыну в город?» Варвара гордилась, что у неё, не в пример другим женщинам, есть свои деньги, она может, не обращаясь к мужу, купить что-то нужное в хозяйстве, например, посуду в бакалейной лавке. Жизнь была суровая, роскоши никогда не было. В будни Варвара Фоминична была очень экономной хозяйкой, но в праздники — необычайно щедрой. Пасха в семье отмечалась дважды: по-настоящему православная и как бы вполсилы, как полупраздник — католическая. Никогда Варвара (моя бабушка) не забывала бедных, знала их наперечёт, оделяла всех, невзирая на национальность. По соседству жила очень бедная женщина — еврейка Астарися. Бабушка помогала ей всячески. Когда Варвара Фоминична умерла, на её похоронах Астарися рыдала, повторяя: «Ушла, ушла моя благодетельница, кто же теперь подумает обо мне, одинокой сироте». Бабушка, по словам моей мамы Евгении Антоновны, была очень строгой к себе, не терпела грязь и нечистоплотность. Никогда не выходила на улицу непричёсанной, неаккуратно одетой, в грязной обуви. Встретив её, соседки удивлённо спрашивали: «Ты куда это так вырядилась, Бельская?» А у бабушки это было в обычае, иначе она не могла.

Варвара Фоминична возлагала на Фому большие надежды. Самая большая мечта была у неё — увидеть сына после

окончания университета. И эта мечта сбылась. Она взяла слово у дяди Фомы, что он не оставит младшую сестру Женю, поможет ей с образованием.

Ушла в мир иной Варвара Фоминична в 1914 году. Как и каждой матери, ей пришлось на своём веку многое пережить. Когда муж ушёл на заработки, от эпидемии умерло трое детей (вероятно, это была дифтерия или скарлатина). Не получая известий от мужа, молодая женщина в отчаянии хотела уйти в монастырь. Но когда муж вернулся, построили хату, родилось ещё четверо детей: Сима, Фома, Женя и Миша. Последний в возрасте одного года умер. Основная и главная забота была о детях. Родители и дети жили дружно, разногласий не было. Дети называли отца и мать на «Вы», иного обращения не существовало.

Случилось так, что в центре внимания оказался Томик, дядя Фома. Снова повторилась эпидемия детских заболеваний. Заболели Томик и Женя (моя будущая мама), которая, к счастью, быстро выздоровела. А вот дядя Фома болел очень тяжело и долго. Фельдшер — единственная медицина в селе — сказал: «Ты, Бельская, не слишком огорчайся, если сын умрёт, потому что если он останется живой — будет или глухой, или немой». Варвара Фоминична боролась за жизнь сына, дала обет — если всё обойдётся благополучно с ним — отправится к иконе Жировичской Божьей Матери, сделает пожертвования в монастырь. И когда дядя Фома выздоровел — не стал ни глухим, ни немым — весной мать взяла всех троих детей, села с ними на возок (она сама правила) и поехала в Жировичский монастырь, поклонилась Божьей Матери и сделала пожертвования и продуктами, и домотканым полотном, и деньгами. (Кстати, когда я писала эти воспоминания, было 20 мая. Я посмотрела в церковный календарь — оказалось, что это день поминовения Жировичской Божьей Матери. По старому стилю это 7 мая. Наверное, именно в это время и была совершена поездка бабушки в Жировичи.)

После болезни у Томика долго оставалась слабость, и перед бабушкой стал вопрос о будущем сына. Варвара Фоминична понимала, что при слабом здоровье работа в поле — это плохое будущее. У неё возникла мечта, которая в её положении крестьянки казалось несбыточной — отдать сына в учение в гимназию. Дедушка был категорически против



такого решения, говоря, что сын в семье один, некому будет работать на земле. Бабушка нашла поддержку в семье Войниловичей и у своей единственной близкой подруги, дальней родственницы Нади — она была женой священника, который преподавал в гимназии. Попасть в гимназию крестьянскому сыну в то время было очень трудно — всего 5 % норма приёма и стоимость обучения очень высокая. Помимо всего этого, нужна была и соответствующая непростая подготовка. Но Надя сама позанималась с Фомой, рекомендовала ему, как готовиться самостоятельно. Через некоторое время, в середине зимы, Надя пришла и велела очень срочно собираться в город, так как неожиданно открылась вакансия. Один из сельских учеников ушёл из гимназии. Варвара Фоминична с Томиком поехали в Слуцк. Он держал экзамен перед комиссией, выдержал его и был зачислен на учёбу (во 2-й или 3-й класс). Родственница Надя обнадёжила Варвару Фоминичну, сказав ей, что если Фома окончит учебный год как можно лучше, то на следующий год можно будет подать заявление о переводе из своекоштных, т. е. самостоятельно платящих за обучение, в казённокоштные. Фома преуспел в учёбе. Ему повезло: учился он и оканчивал гимназию как казённокоштный.

Фома Бельский окончил Слуцкую гимназию с серебряной медалью, приобретя этим самым право на поступление в Киевский университет (в то время Императорский университет св. Владимира). Лица, получившие золотые медали, имели право поступления в Московский университет. К тому же, по закону, существовавшему в царской России, дядя, будучи единственным сыном в крестьянской семье, был освобождён от службы в армии — так царское правительство заботилось о нуждах крестьянских хозяйств, их будущем. Поэтому сразу после окончания гимназии дядя был зачислен в университет. Это престижное учебное заведение он успешно окончил в 1913 году.

После университета Фома Антонович был направлен преподавателем словесности в мужскую гимназию в г. Златополь. Перед поездкой в Златополь он побывал в Тимковичах, повидался с матерью, близкими. Дядя приехал в великолепном вицмундире, предстал во всей красоте молодости, порадовал родню. Фома выслушал пожелания матери, получил её

материнское благословение. Варвара Фоминична была счастлива и полна гордости за успехи сына.

В Златопольской гимназии был сильный педагогический коллектив. В ней работали такие талантливые преподаватели, как Н. Зеров, В. Имшенецкий, К. Воинов, К. Коршун-Осмоловский, М. Чистяков, законоучитель А. Зеленецкий. Дядя Фома преподавал изящную словесность, вскоре приобрёл авторитет и популярность среди учеников, а также их родителей. Кроме преподавания, организовал литературный кружок. С учащимися он проводил занятия по художественной декламации, ставил пьесы и инсценировки. Молодой преподаватель работал с вдохновением, не жалея своего времени.

После смерти матери к Фоме Антоновичу в Златополь приехала сестра Евгения. Дядя Фома стал сразу же готовить её к сдаче экзаменов. 14 марта 1916 года, подвергшись полному испытанию при Златопольской мужской гимназии и выдержав его, моя мама была удостоена звания учительницы начальных училищ. В день экзаменов дядя Фома даже не заходил в гимназию, чтобы у членов комиссии была полная объективность в оценке знаний сестры. Он был очень принципиальным и щепетильным человеком, считал, что сестра должна выдержать экзамен по всей форме. В Златополе дядя Фома и мама квартировали в доме пани Негребецкой. Мама покупала продукты, готовила еду, вела хозяйство. В том же 1916 году дядя Фома помог маме (так можно предположить) попасть на Московские женские педагогические двухмесячные летние курсы им. Тихомирова, которые она успешно закончила.

Дядя Фома был человеком душевным, чутким и доброжелательным к людям. К дяде Фоме в Златополь на определённое время переехали сестра Серафима и её муж Мартин Марук, который был царским офицером. Здесь у них, начиная с 1916 года, бывал и мой отец Прокофий Данилович. Мама уже учительствовала. Позже дядя Мартин был призван на войну, дядя Фома тоже оказался на Кавказском фронте.

В 20-е годы в жизни Фомы Антоновича произошли разные события. Во-первых, дядя должен был ехать за границу. Сохранилось очень хорошее фото дяди Фомы для загранпаспорта. Но почему-то послали какого-то другого преподавателя. В то время это было, конечно, огорчительно. Но в



свете последующих событий, когда лиц, бывавших за границей, арестовывали и ссылали, может быть, такой исход был благом.

В июне 1923 года дядя Фома приезжал в Листопадово. Он был моим крёстным отцом, а крёстной матерью была Устинья Фёдоровна Григорьева. В день крестин мама испекла пироги с черешней (она как раз поспела в саду), запечённой со сметанным кремом. Угощение очень пришлось по вкусу приглашённым гостям.

Вскоре дядя женился на Екатерине Михайловне, которую мы называли тётя Китти. Она родилась в 1888 году в семье штабс-капитана. Закончила Институт благородных девиц. Тётя рассказывала, что в пансионе очень строго относились к изучению иностранных языков: в течение одного дня можно было общаться только на французском языке, в течение следующего — на немецком, и при этом ни единого русского слова. Если кто-то забывал о языковом режиме — следовало наказание в виде запрещения прогулки, лишения обеда и т. д. Классные дамы были всегда начеку. Тётя Китти хорошо знала французский и немецкий языки, работала в вузах. Екатерина Михайловна была строгим преподавателем, и в группах под её руководством студенты прилежно изучали учебные предметы. Тётя играла на пианино, характер у неё был очень настойчивый и жизнерадостный.

Фома Антонович был в учёном звании профессора с 1925 года. Вместе с женой они преподавали в Донецком институте народного образования, принимали активное участие в работе «Научного общества на Донетчине». Только в 1926—1927 гг. профессор Бельский опубликовал более десяти исследований и статей. Екатерина Михайловна также печатала свои работы, такие как «Тесты для испытания развития учащихся народной школы в Германии», «Бидельская школа и использование её 35-летнего опыта в практике наших школ» и некоторые др.

В 1929 году семья Бельских поселилась в Херсоне, купив двухэтажный домик. Правда, во время уплотнения жилья первый этаж, вернее, полуподвал, забрали: здесь поселился энкаведист Крупко. Наша семья приехала к дяде Фоме и тёте Китти в конце 1930 года. Мама работала воспитательницей в детском саду, отец за два года закончил четырёхгодичный

курс в институте. В 1932 году дядя, по его словам, неудачно выступил на учёном совете института о методе политехнизации. Это было инкриминировано ему в серьёзную вину, обещали лишить права преподавания в вузах и т. д. Тёте, жене Фомы Антоновича, хитростью удалось забрать в отделе кадров трудовые книжки, поскольку нужно было как можно быстрее уезжать из Херсона. Дом пришлось продать, маме брат помог снять маленький флигелёк. Дом у дяди был полная чаша: прекрасная мебель, три огромных, под самый потолок, застеклённых книжных шкафа, полные дорогих книг, два больших полированных письменных стола, пианино, большой дубовый обеденный стол с мягкими стульями, шифоньеры из красного дерева для одежды и т. д.

В 1932—1935 гг. Фома Антонович заведовал кафедрой в Краснодарском педагогическом институте. Затем некоторое время работал в Беларуси, возглавлял кафедру педагогики и психологии в Могилёвском пединституте. Ему выпало жить и трудиться в то смутное время, когда воцарились страх и беззаконие. Накануне 1937 года вместе с женой дядя переехал в Среднюю Азию. Они жили в Самарканде и Коканде, продолжали работать на просветительской ниве. К тому же здесь было более высокое материальное обеспечение, так как дядя и тётя получали двойные оклады: за лекционные часы и в связи с переводом.

Вскоре после того, как мой отец получил в Киеве квартиру (1939 г.), дядя также решил переехать в город, где учился в молодости. Но в Киеве ему найти работу не удалось, несмотря на все старания. Фома Антонович принял назначение в Чернигов, где для него и Екатерины Михайловны была и работа, и хорошая квартира. К сожалению, очень скоро началась война. Потеряв всё имущество, дядя Фома и тётя Китти выбирались из горящего Чернигова и чудом остались живы. Эти два уже немолодых человека, пережив трудности и лишения, возвратились в Среднюю Азию. Однако на прежнем месте устроиться не получилось и пришлось ехать в Бухару. Но там было значительно хуже, особенно в отношении климата. До 1946 года профессор Бельский работал заведующим кафедрой в Бухарском пединституте.

С самого начала войны связь между нашими семьями была прервана. После освобождения Киева Фома Антонович



снова пытался устроиться на работу в Киеве, но его, к сожалению, опять постигла неудача. Вместе с Екатериной Михайловной они переехали в Симферополь, а позже в Ленинград к дяде Коле (1947 г.). Жили в небольшой комнате. Тяжело было и с работой, так как на дорогу в институт Фома Антонович затрачивал 2—2,5 часа. Начальство всё время обещало квартиру, но в первую очередь квартиры доставались молодым и прытким, а дядя был уже фактически пенсионер.

После смерти тёти Китти в 1951 году мама поехала в Ленинград, забрала дядю Фому к нам. И здесь неожиданно Фоме Антоновичу повезло: молодой, энергичный директор Киевского института физической культуры Шерстюк взял дядю на работу и даже обещал к концу года комнату, а, может быть, даже и однокомнатную квартиру. Он относился к дяде очень внимательно и хорошо, посетил его лекции и был очень доволен им. Но дядя приехал в Киев уже больным, очень часто у него была рвота. Это случалось и в Ленинграде, обычно ставили диагноз катар желудка. В Киеве сделали рентгеноснимок желудка, и с этим снимком я обратилась к своему учителю — военному хирургу профессору И. Н. Ищенко. Он осмотрел Фому Антоновича, дядя произвёл на профессора очень хорошее впечатление, и тот сказал, что будет оперировать лично в центральной больнице Киева — Октябрьской. Но операция показала, что уже поздно, процесс зашёл слишком далеко: везде были метастазы. Профессор Ищенко ничего этого дяде не сказал, уверял его, что кое-что сделано и ему должно стать лучше. Мне же профессор Ищенко высказал своё сожаление, говорил о невозможности помочь чем-либо, кроме обезболивающих. До операции и после неё, пока дядя Фома лежал в больнице, я каждый день навещала его, пользуясь своим правом врача, проходя прямо в палату к нему.

После операции моя мама просила, настаивала, чтобы дядя оставил работу. Но он упорствовал. Когда у него были лекции, мама на стоянке такси на Бессарабке брала машину, отвозила его в институт. После окончания лекций снова на такси привозила домой.

Мама узнала, что в Яготине (это городок в 100 км от Киева) есть травник, который лечит больных в таком состоянии. Ещё с двумя женщинами она наняла машину и съездила в Яготин, привезла две бутылки лекарства. После приёма

несколько раз была рвота, но потом стало как будто лучше. Дядя Фома стал немного бодрее, активнее, у него улучшился аппетит. Мама для дяди специально готовила всё протёртое. После приёма лекарства дядя прожил относительно благополучно ещё полгода. А потом случилось неизбежное.

По распоряжению директора Шерстюка хоронил дядю институт физкультуры. На похоронах было много людей: преподавателей института, студентов, соседей. Похоронили Фому Антоновича на Байковом кладбище. Позже мы поставили оградку, памятник.

В дни рождения, смерти, поминальные дни мы, его племянники, поминали дядю Томика добрым словом. Всю жизнь Фома Антонович помогал своим близким настолько, насколько мог. Маме он трижды в год присылал деньги: к Новому году, Пасхе, дню её рождения. И нам, своим племянникам, также по случаю памятных дней — поступления в вуз, окончания учёбы и т. д. — делал подарки. Помогал он родственникам тёти Китти, семье своего брата Ивана в Беларуси. Разумеется, важное значение имела не сама денежная сумма, а факт присылки, знак внимания, знак памяти и заботы. До самой смерти дядя всегда помнил о своих близких, думал о них. Перед уходом из жизни дядя простился с сестрой и нами, его племянниками, умер в полном сознании.

Яўген БЕЛЬСКІ

## Мой род: лініі, пункціры, зігзагі лёсу
### *(урыўкі)*

Кожны чалавек мае свае карані, якія ўзыходзяць да старажытнасці. Гэтыя карані далучаюць нас да гісторыі. Я таксама маю свой род, які карэніцца, хутчэй за ўсё, у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

Некалі сваё фамільнае дрэва меў кожны шляхецкі род, бо ў эпоху Адраджэння на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ганаровае месца, апроч іншых навук, займала генеалогія — навука, якая вывучала гісторыю знатных родаў «па мячы ды кудзелі». <...>

*Сільвестр Бельскі* — мой прапрадзед, выпускнік Віленскага ўніверсітэта, асабісты Ганаровы грамадзянін Расійскай імперыі. Гэтае званне было ўведзена Кацярынай II для выбарных гараджан і мела свае прывілеі: вызваленне ад цялесных пакаранняў, права на загарадныя дамы і іншую маёмасць, права будаваць фабрыкі, заводы, караблі.

Па звестках сваякоў, мой прапрадзед Сільвестр жыў у Вільні і, ужо будучы чалавекам ва ўзросце, закахаўся ў маладую прыгажуню Марыяну. Рабіў ёй багатыя падарункі, букеты кветак загортваў у буйныя асігнацыі. Праз тры гады пасля жаніцьбы ён памёр, пакінуўшы маладую ўдаву з трохгадовым сынам Антонам.

*Антон Сільвестравіч Бельскі* (нар. у 1856 г.) жыў у мястэчку Цімкавічы. Сюды ён прыехаў са сваёй маці Марыянай. Прадзед ажаніўся з Варварай — вельмі добрай і працавітай дзяўчынай. Пасля жаніцьбы Антон з сям'ёй жыў у доме свайго айчыма. Ён марыў пабудаваць уласны дом, таму падаўся працаваць рэзчыкам (ён ведаў шмат рамёстваў), каб зарабіць грошы. У сям'і мой прадзед адсутнічаў тры гады. Да гэтага часу ў дзеда Антона і яго жонкі Варвары было ўжо трое дзяцей — Лена (памерла ў дзіцячым узросце) і яшчэ двое дзяцей (памерлі немаўлятамі). Калі ж ён вярнуўся з заробкаў, то нарадзіліся яшчэ чацвёра — Серафіма, Фама, Яўгенія і Міша.

Прадзед Антон быў вельмі працавіты. У яго хаце стаялі два ткацкія варштаты. Яны займалі амаль усё вольнае месца. На адным варштаце ткаў прадзед, на другім — яго маці (да самай смерці). Прадзед Антон быў сапраўдным майстрам ткацкай справы. Ён ткаў палотны, ручнікі, сурвэты з рознымі прывабнымі арнаментамі; той, хто ў вёсцы хацеў мець добрую рэч, аддаваў працу Бельскаму. Ткацкае рамяство ў мястэчку Цімкавічы, ды ўвогуле на былой Случчыне было вельмі пашыранае. Асабліва славіліся слуцкія сурвэты. Аднак сапраўдных майстроў ткацка-сурвэтнай справы было не так і багата. Адмысловым слуцкім сурвэтнікам лічыўся дзед Кузьмы Чорнага — Міхал Парыбак. Мой прадзед Антон валодаў таксама многімі сакрэтамі вырабу сурвэтаў ды іншых

ільняных рэчаў. Пра тое, што ўяўляў сабой прадзедаўскі варштат і яго палотны, можна прачытаць у артыкуле Кузьмы Чорнага «Слуцкія сурвэты»: «Сурвэты ткаліся з шэрых суравых нітак. Або аснова клалася шэрая, а ўток з беленых нітак або з белай крамнай бавоўны. Але, паводле спецыяльных жаданняў заказчыка, сурвэты рабіліся любых колераў і featured рознакаляровыя. Варштат быў даволі складаны і часткова механізаваны. Ён складаўся з мноства дробных дэталей, драўляных і жалезных. Кожная дэталь мела сваю назву: *шаўграт, шпаруты, чапёлкі, пругі...* Былі шліхтавальныя шчоткі: *мачулкі,* якімі змочвалася пража, і шліхты, якімі пража націралася».

Прадзед быў даволі заможны чалавек. Ён добра ведаў польскую мову, спяваў у святы песні па-польску. Да яго часта заязджалі купцы з Вільні або Варшавы, прывозілі падарункі. Цікавы такі факт: у Цімкавічах у 1918—1919 гг. стварылі тэатр. У ім ставілі рэвалюцыйную п'есу, і маладая дзяўчына Зіна Раманенка (у сталым веку яна стала дырэктарам Цімкавіцкай школы) прыходзіла да прадзеда Антона па фрак і хромавыя боты, каб акцёры маглі сыграць ролю пана. У 1914 г. памерла жонка майго прадзеда Варвара. Прадзед Антон доўга сумаваў па жонцы, але пасля ажаніўся з яе далёкай сваячкай Фядорай Паўлаўнай. У іх нарадзіліся два сыны — Антон і Іван (мой дзед).

Прадзед Антон памёр у 1930 г. і толькі таму не трапіў у высылку. Пры тагачаснай савецка-польскай мяжы лютаваў страшэнны сталінскі «хапун». Высылка пагражала і яго жонцы, але мая прабабуля адкупілася: Фядора Паўлаўна аддала ўсе нажыткі, каштоўнасці і грошы. <...>

Цяпер колькі слоў пра дзяцей майго прадзеда.

*Фама Антонавіч Бельскі*, які нарадзіўся ў 1890 г., пасля Серафімы, застаўся адзіным сынам Варвары. Калі Фама падрос, пачаліся дзіцячыя эпідэміі. Ён захварэў вельмі цяжка. Адзінай медыцынскай дапамогай на вёсцы быў фельчар. Ён сказаў, што Фама альбо памрэ, альбо стане глухі ці нямы, калі выжыве. Маці змагалася за жыццё сына, прасіла аб паратунку Бога і ўсіх Святых. Яна дала абяцанне, што калі сын паправіцца, то наведае з дзецьмі Жыровічы, каб ушанаваць ікону Жыровіцкай Божай Маці і зрабіць ахвяраванні манастыру. Здарыўся цуд — Фама адужаў хваробу.



Вясной прабабуля Варвара ўзяла дзяцей і паехала ў Жыровічы, ахвяравала манастыру грошы, харчы і каштоўнасці. Фама пасля хваробы доўга кволіўся, таму маці разважыла, што для сына са слабым здароўем праца ў полі — не самае лепшае будучае. Яна зрабіла амаль немагчымае: нягледзячы на невялікі дастатак, ёй удалося ўладкаваць сына ў Слуцкую гімназію. Фама вучыўся добра (закончыў гімназію са срэбным медалём) і ў 1909 г. атрымаў права на паступленне ў Кіеўскі ўніверсітэт (на той час Імператарскі ўніверсітэт св. Уладзіміра). Ён вучыўся апантана, закончыў універсітэт з выдатнымі поспехамі: у 1913 г. атрымаў дыплом I ступені «з усімі правамі і перавагамі». Пасля ўніверсітэта Фама Антонавіч быў накіраваны на працу ў мястэчка Златапаль Кіеўскай губерні. Там ён настаўнічаў.

У 1925 г. Фаму Антонавічу было прысвоена званне прафесара педагагічных навук. У гэты час ён працаваў у Данецкім інстытуце народнай адукацыі. Працуючы ў Луганску, збіраўся паехаць за мяжу, у Германію, але атрымалася так, што паехаў не ён, а нейкі іншы выкладчык. Напэўна, ён засмуціўся, пашкадаваў. Але ж вядома: нямала з тых, хто наведваўся за мяжу, у сталінскія часы былі залічаны да «шпіёнаў», «завербаваных агентаў замежнай разведкі». І лёс такіх людзей быў трагічны. З 1929 г. прафесар Бельскі пачаў працаваць у Херсонскім інстытуце народнай адукацыі. У 1932 г. Фама Антонавіч выступіў на вучоным савеце з крытыкай політэхнізацыі школы... Такая пазіцыя прафесара Бельскага не была ўхвалена калегамі. На «ворага політэхнізацыі» пасыпаліся розныя абвінавачванні, прагучала пагроза, што яго пазбавяць права выкладаць у ВНУ. Жонцы, Кацярыне Міхайлаўне, удалося цішком, вельмі хутка забраць працоўныя кніжкі, і сям'я Бельскіх пакінула Херсон. Неўзабаве Фама Антонавіч узначаліў кафедры педагогікі Краснадарскага педінстытута і Кубанскага сельскагаспадарчага інстытута, але тое выступленне ў Херсоне супраць політэхнізацыі адгукнулася, спарадзіла трывогу: прыйшлося зноў збіраць рэчы. Фама вырашыў вярнуцца на радзіму, прыехаў у Беларусь і ўладкаваўся на працу ў Магілёўскі педінстытут. Тут ён узначаліў кафедру педагогікі і псіхалогіі. Але і на радзіме заставацца доўга было небяспечна. Надыходзіў 1937 год, які прынёс нечуваны страх: знікалі людзі,

судзілі і расстрэльвалі «ворагаў народа». Фама Антонавіч з жонкай пакідае радзіму і выпраўляецца ў Сярэднюю Азію, дзе працаваў да 1940 г. прафесарам педагогікі і псіхалогіі Ферганскага і Какандскага пединстытутаў (Узбекістан). У 1939 г. ён стаў акадэмічным пенсіянерам-прафесарам і вярнуўся на Украіну, у Чарнігаў. Яго ўзялі на працу прафесарам педагогікі і прызначылі загадчыкам кафедры пединстытута. Аднак жыць і працаваць у Чарнігаве давялося нядоўга: нахлынула ваеннае ліха. Фама Антонавіч з жонкай, страціўшы ўсю маёмасць, важныя дакументы ў полымі вайны, зноў апынуліся ва Узбекістане. Да 1946 г. прафесар Бельскі працаваў у Бухарскім пединстытуце. Яго здароўе вельмі моцна пагоршылася, асабліва дрэнна ўплываў на самаадчуванне гарачы клімат. Бельскія едуць у Крым, затым у Ленінград.

Фама Антонавіч пахаваў сваю жонку, з якой зведаў усе нягоды і радасці жыцця. Сястра Яўгенія пасля пахавання Кацярыны Міхайлаўны запрасіла брата ў Кіеў, дзе ён атрымаў апошняе сваё месца працы — загадчыка кафедры педагогікі Кіеўскага дзяржаўнага інстытута фізкультуры. Фама Антонавіч Бельскі сканаў у пакутах у ноч з 1-га на 2-е сакавіка 1952 г. пасля цяжкай невылечнай хваробы. <...>

Калі нават сцісла прасачыць лініі і зігзагі лёсу майго роду, то можна пераканацца, што беларусам (ды і не толькі ім!) не надта добра і шчасліва жылося на сваёй зямлі ў ХХ стагоддзі. Жылі мае продкі і гадавалі дзяцей з думкай пра іх лепшую долю, заўтрашні светлы дзень. <...>

Можна зрабіць яшчэ адну выснову пра мой радавод, у якім ёсць і сялянскія, і шляхетныя карані. З роду Бельскіх выйшлі прадстаўнікі навукі, медыкі і настаўнікі. Сярод маіх продкаў былі і сапраўдныя хлебаробы, людзі працы, прафесійныя вайскоўцы... Лёс майго роду на працягу XIX і XX стагоддзяў быў цесна звязаны з агульнай гісторыяй народа.

Іван ІГНАТЧЫК

## Настаўнік настаўнікаў

Мінулае стагоддзе дало цэлую плеяду вучоных-педагогаў. Яны ўнеслі вялікі ўклад у выхаванне маладога пакалення. Сярод іх пачэснае месца займае наш зямляк, педагог, прафесар Фама Антонавіч Бельскі, 120-годдзе якога мы адзначалі сёлета напрыканцы кастрычніка.

Нарадзіўся будучы вучоны-педагог у 1890 годзе ў мястэчку Цімкавічы. Яго сям'я была мнагадзетнай, зведала шмат гора і нястачы: спачатку ад невядомай інфекцыі адразу памерла трое дзетак, пазней з чатырох засталося толькі трое — Сіма, Фама і Яўгенія (яшчэ адзін брат Міша памёр). Затым народзіцца Іван, сын якога Алесь не толькі працягне справу жыцця свайго дзядзькі Фамы, але і стане вядомым пісьменнікам.

Згодна з радаводам, Бельскія лічыліся шляхціцамі, нездарма дзед Фамы быў выпускніком Віленскага ўніверсітэта. Сільвестр, ці Сямён, Бельскі з'яўляўся асабістым Ганаровым грамадзянінам Расійскай імперыі, а такіх ушанаваных людзей на Беларусі было не так і многа. Бацька хлопчыка, Антон Сільвестравіч, таксама быў адукаваным чалавекам, умела вёў сельскую гаспадарку, займаўся гандлем, і да яго часта прыязджалі купцы з Вільні і Варшавы. Ён быў цудоўным майстрам ткацтва, ткаў на станку шэдэўры мастацтва. Асабліва прыцягвалі вока ўзорыстыя ручнікі. Такому мастаку сёння цаны не было б. Але ліхалецці і пажары загубілі створанае хараство.

Маці Фамы, Варвара Фамінічна, была спраўнай гаспадыняй. Вучыла дзяцей добрым манерам. Асабліва старалася ва ўсім дапамагчы сыну. Спачатку вучыла чытаць па буквары, а потым хлопца аддалі ў Цімкавіцкае народнае вучылішча. Тут працавалі драматычныя гурткі, у якіх Фама актыўна ўдзельнічаў, добра ўмеў дэкламаваць вершы. Як і кожная маці, Варвара Фамінічна жадала сыну дабра і марыла, што той у будучым закончыць універсітэт. Але на долю яе любімца выпалі выпрабаванні. Фама цяжка захварэў. Цімкавіцкі фельчар прарочыў яму хуткую смерць. Але Варвара Фамінічна

не здалася, запрэгла каня ў воз і з трыма дзеткамі трапіла аж у Жыровіцкі манастыр. Памалілася перад іконай Божай Маці, зрабіла ахвяраванні святыні. Цяжка сказаць, ці менавіта гэта дапамагло, але Фама акрыяў. Праз год ён стаў слухачом Слуцкай гімназіі. Вучыўся «на выдатна» і таму ўтрымліваўся за кошт казны. Дарэчы, і маці дапамагала сыну. Калі юнак прыязджаў на канікулы, вельмі любіў чытаць кнігі з хатняй бібліятэкі, а праз літаратуру захапляўся гісторыяй мястэчка і навакольных мясцін. Наведваў касцёл святога Міхаіла (згарэў у 1985 годзе — *І. І.*), пазнаёміўся з мастаком Францішкам Бруздовічам, які распісваў у той час інтэр'ер храма. Мастацтва выдатнага майстра заварожвала юнака, пашырала яго асабістыя творчыя далягляды.

У 1913 годзе Фама Антонавіч заканчвае Слуцкую гімназію з сярэбраным медалём і, дзякуючы прэстыжнай прывілеі, паступае ў Кіеўскі ўніверсітэт, які заканчвае таксама паспяхова. З дыпломам I ступені ўладкоўваецца ў Златапальскую гімназію.

Пачнецца Першая сусветная вайна, і выкладчык гімназіі апынецца ў акопах. Пра смерць самага блізкага чалавека — маці — даведаецца толькі тады, калі грымне рэвалюцыя. Марыць наведаць Цімкавічы, але шляхі да роднага дому перакрыты.

У 1920—1923 гг. Фама Антонавіч чытае лекцыі па педагогіцы ў Наваміргарадзе, Златапалі і Данецку. Таленавіты педагог быў усюды запатрабаваны. Ён цікавіўся перадавым замежным вопытам. «У 20-я гады... дзядзька павінен быў ехаць за мяжу... — расказвала пляменніца Фамы Антонавіча кандыдат медыцынскіх навук Тамара Пракопаўна Яталь. — Але затым чамусьці паслалі нейкага іншага выкладчыка».

Нейкі час Фаме Антонавічу шанцавала як у працы, так і ў навуцы. У 1925 годзе ён стаў прафесарам педагогікі. Давялося папрацаваць у Данецкім і Херсонскім інстытутах народнай адукацыі. Ён карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод калег, быў прыхільнікам элітарнай адукацыі, а яго выпускнікі станавіліся высакакласнымі спецыялістамі. Можа, таму гэтыя педагогі ажыццявілі задумы Бельскага і аднавілі гімназіі як форму навучання. У 1920-я гг. Фама Антонавіч зрабіў грунтоўныя даследаванні ў педагогіцы і псіхалогіі. Ва



ўмовах таталітарызму новыя метады і знаходкі ў педагагічнай дзейнасці расцэньваліся як варожыя. А хіба ж без такіх наватараў наша навука дасягнула б сённяшніх вышынь!

Як успамінала Тамара Яталь, дзядзька на вучоным савеце раскрытыкаваў метад політэхнізацыі і прапанаваў свой, больш канструктыўны, які ў сённяшніх умовах вельмі эфектыўны. За гэтае іншадумства яму пагражала пакаранне. Жонка вучонага Кацярына Міхайлаўна, якая была выкладчыкам гэтага ж інстытута, можна сказаць, выратавала мужа. Яна забрала з аддзела кадраў працоўныя кніжкі (сваю і Фамы Антонавіча), і сям'я хуценька пераехала на працу ў Краснадарскі педінстытут. Там Бельскі ўзначаліў кафедру педагогікі і псіхалогіі. Пазней дарогі прывялі вучонага ў родную Беларусь, дзе ён займаў такую ж пасаду ў Магілёўскім педінстытуце. Тут гонар слухаць лекцыі вядомага земляка выпаў У. Д. Зянько, пазней дырэктару Вялікараёўскай дзесяцігодкі, які ўспамінаў: «Фама Антонавіч вучыў нас да кожнага вучня мець асобны падыход, заўважаць не толькі недахопы, але і добрыя якасці і развіваць іх».

Вялікая Айчынная вайна і лёс закінуць сям'ю Бельскага ў Бухару, дзе вучоны ўзначаліць кафедру педінстытута, пазней, пасля заканчэння вайны, яму давядзецца папрацаваць і ў Ленінградзе. У 1951 годзе памерла любая жонка, і Фама Антонавіч пераязджае да сястры ў Кіеў. Там ён будзе чытаць лекцыі ў інстытуце фізкультуры.

Прафесар Бельскі быў адным з пачынальнікаў вывучэння мінулага Луганшчыны, краязнаўчага руху ва Украіне. Ён спрычыніўся да стварэння на Луганшчыне цэнтраў па даследаванні гісторыка-культурных і прыродных багаццяў краю. Чытаў даклады навуковым супрацоўнікам музеяў. У сваіх артыкулах Фама Антонавіч сцвярджаў, што без ведання гісторыі і культурнай спадчыны нельга выхаваць сапраўдную асобу.

Прафесар Бельскі — аўтар шматлікіх даследаванняў. Яго навуковыя працы прысвечаны праблемам метадалогіі і гісторыі педагогікі, праблемам кіравання школай, стварэння школ для адораных дзяцей, пытанням арганізацыі вучэбнага працэсу ў сярэдняй школе і ВНУ, распрацоўцы крытэрыяў ацэнкі ведаў навучэнцаў, маральнаму выхаванню вучняў старэйшага школьнага ўзросту, павышэнню кваліфікацыі

кадраў і інш. Важным можна назваць і даследаванне навуковай спадчыны аднаго з аўтарытэтаў педагогікі К. Д. Ушынскага, дзе Бельскі прааналізаваў яго ідэі, стыль і метады работы.

Набыткі сённяшняй педагогікі былі б намнога бяднейшымі без творчай дзейнасці аднаго з яе рупліўцаў — Фамы Антонавіча Бельскага. Ён быў узнагароджаны медалём «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.».

У Кіеве, на Байкавых могілках, у засені клёнаў даўно спачывае Фама Антонавіч Бельскі. А як яму хацелася ў родныя Цімкавічы, бо перад смерцю пытаў у брата Івана, ці ходзіць туды цягнік. Ходзіць! Але Фама Бельскі на радзіму ўжо не прыедзе.

На Капыльшчыне помняць пра свайго знакамітага земляка. Напярэдадні яго 120-гадовага юбілею ў Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Анатоля Астрэйкі была зроблена падборка матэрыялаў пра жыццёвы шлях і навуковую творчасць Фамы Антонавіча, якія, дарэчы, даслаў яго пляменнік доктар філалагічных навук, прафесар Алесь Іванавіч Бельскі.

Васіль ЦІШКЕВІЧ

## З гімназіі — у свет вялікі

Случчына славіцца таленавітымі людзьмі, сярод іх нямала тых, хто ў свой час закончыў найстарэйшую гімназію Беларусі — гімназію № 1 горада Слуцка. Адзін з яе выпускнікоў — Фама Антонавіч Бельскі — вучоны, педагог першай паловы XX стагоддзя.

Нарадзіўся Фама Антонавіч у мястэчку Цімкавічы Слуцкага павета (цяпер Капыльскі раён) 31 кастрычніка 1890 года. Яго дзед Сільвестр Бельскі — выпускнік Віленскага ўніверсітэта, асабісты Ганаровы грамадзянін Расійскай імперыі. У 1901 годзе хлопчык закончыў Цімкавіцкае народнае вучылішча. Бацькі марылі даць адзінаму сыну другую адукацыю. Трапіць на вучобу ў гімназію было справай нялёгкай, нават і прадстаўніку заможнага селяніна. Бабуля хлопчыка Марыяна звярнулася па дапамогу да Эдварда Вайніловіча, чалавека вядомага, аўтарытэтнага і ўплывовага ў Слуцку (бабуля Фамы не раз наведвала радавы маёнтак Вайніловіча ў Савічах, паколькі была з ім у сваяцкіх адносінах). Вайніловіч, былы выпускнік Слуцкай гімназіі, адгукнуўся на прапанову Марыяны Бельскай. З Фамой пэўны час займаліся Алімпія, жонка Вайніловіча, і сваячка Надзея, жонка законанастаўніка Слуцкай гімназіі. Хлопчык быў вельмі старанным і настойлівым, шмат часу ён рыхтаваўся самастойна. У 1902 годзе Фама Бельскі перад камісіяй годна вытрымаў уступны іспыт і быў залічаны ў другі клас гімназіі. Спачатку ён вучыўся на платнай аснове. Потым за добрую вучобу і выдатна здадзеныя экзамены яго перавялі на бясплатнае навучанне. З сярэбраным медалём закончыў Фама Слуцкую гімназію ў 1909 годзе.

Атрыманы медаль вызваліў Фаму Бельскага ад конкурсных іспытаў ва ўніверсітэт. Ён быў залічаны ў Кіеўскі ўніверсітэт святога Уладзіміра. Паспяхова закончыў гэтую навучальную ўстанову беларус з-пад Слуцка: дыплом першай ступені атрымаў як лепшы выпускнік. Падчас вучобы ва ўніверсітэце пазнаёміўся з будучымі вядомымі пісьменнікамі і філолагамі Міколам Зэравым, Якавам Галасаўкерам, Сцяпанам Саўчанкам і іншымі.

Пасля заканчэння ў 1913 годзе ўніверсітэта Фама Бельскі выкладаў у адной з прэстыжных гімназій Украіны ў мястэчку Златапаль былой Кіеўскай губерні. У сценах гэтай установы воляй лёсу яму пашанцавала працаваць поруч з Міколам Зэравым, будучым вядомым украінскім паэтам і перакладчыкам. Яны вялікую ўвагу надавалі працы з адоранымі дзецьмі, чыталі і друкавалі іх першыя літаратурныя творы. Златапальская гімназія, як і Слуцкая, дала свету нямала славутых людзей. У розны час тут вучыліся пісьменнікі Уладзімір Вінічэнка, Паўло Філіповіч і іншыя. У канцы 1916 года Фаму Бельскага запрасілі на Усерасійскі з’езд выкладчыкаў рускай мовы і славеснасці ў Маскву, дзе ён выступіў з навуковым дакладам «Аб вывучэнні крытыкі».

Пасля кастрычніка 1917 года Фама Бельскі пачаў шчыраваць на ніве народнай адукацыі. Працаваў ён у сярэдніх навучальных установах, а з 1920-га па 1921 год узначальваў Златапальскую працоўную школу. Пачынаючы з 1923 года

Ф. А. Бельскі шэсць гадоў выкладаў у Данецкім інстытуце народнай адукацыі (горад Луганск). У 1925 годзе Фама Антонавіч атрымаў вучонае званне прафесара. У гэты перыяд ён напісаў асноўныя педагагічныя артыкулы і даследаванні: «Арганізацыя навуковай работы» (1926), «Педагагічны музей, яго арганізацыя і культурна-асветная дзейнасць» (1926), «Тэсціраванне і ацэнка паспяховасці навучэнцаў» (1926), «Арганізацыя школ для адораных дзяцей» (1927), «Вывучэнне здольнасцей дзяцей» (1928), «Педагогіка як навука» (1929) і іншыя.

Педагагічныя ідэі і погляды прафесара Ф. А. Бельскага захавалі сваю актуальнасць, маюць відавочную значнасць і сёння: стварэнне асобных навучальных устаноў для таленавітых дзяцей, выяўленне лідараў у калектыве, адзіная сістэма ацэнкі і кантролю ведаў навучэнцаў, краязнаўчы падыход у навучанні і выхаванні школьнікаў, распрацоўка тэарэтычных асноў педагогікі. Дваццатыя гады мінулага стагоддзя сталі для Ф. А. Бельскага «зорным часам», калі спаўна раскрыўся яго творчы патэнцыял.

На працягу трыццаці гадоў Фама Антонавіч вёў актыўную навуковую і адукацыйную дзейнасць. Ён узначальваў кафедры педагогікі ў розных вышэйшых навучальных установах былога Савецкага Саюза — Херсонскім, Краснадарскім, Магілёўскім, Чарнігаўскім, Ферганскім педагагічных інстытутах. У Магілёўскім падінстытуце ён выкладаў з 1935 па 1936 гады. Бельскі арганізаваў кафедру педагогікі і псіхалогіі і стаў яе першым загадчыкам. У савецкі час прафесар Бельскі шмат зрабіў для арганізацыі і развіцця сістэмы педагагічнай адукацыі, падрыхтоўкі студэнтаў да будучай прафесійнай дзейнасці. Педагагічныя курсы яму даводзілася чытаць і ва ўстановах негуманітарнага профілю — Кубанскім і Омскім сельскагаспадарчых інстытутах. Апошняе працоўнае месца Ф. А. Бельскага — Кіеўскі інстытут фізічнай культуры, загадчык кафедры педагогікі. Памёр Фама Антонавіч у 1952 годзе, пахаваны ў Кіеве.

Як стала вядома ад жыхара вёскі Маяк Уладзіміра Бельскага, пляменніка вучонага, рыхтуецца да выпуску кніга артыкулаў і ўспамінаў «І прызванне, і лёс: жыццё і дзейнасць вучонага-педагога прафесара Ф. А. Бельскага». Над ёй працуюць беларускія і ўкраінскія вучоныя Таццяна Анпілогава, Тамара Яталь, Алена Снапкова, Іна Нагрыбельная, Таццяна Пучынская, Алена Белая, Аляксей Філімонаў і іншыя. Ініцыятарам гэтага творчага праекта стаў малодшы пляменнік вучонага, доктар філалагічных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Алесь Бельскі. Што ж, будзем чакаць кнігу пра Фаму Антонавіча Бельскага — аднаго з прыкметных дзеячаў педагагічнай навукі.

А шлях яго ў вялікі свет пачынаўся са Слуцка, з нашай славутай гімназіі.



Алесь БЕЛЬСКІ

## Іх яднала літаратура і творчасць

Ад сваёй стрыечнай сястры Тамары Яталь, якая жыве ў Кіеве, даведаўся, што наш родны дзядзька Фама Бельскі працаваў некалькі гадоў поруч са знакамітым украінскім паэтам, літаратуразнаўцам і перакладчыкам Міколам Зэравым у Златапалі. Яны выкладалі ў Златапальскай мужчынскай і жаночай гімназіях. Больш за тое, Фама Бельскі і Мікола Зэраў былі ў добрым сяброўстве, іх аб'ядноўвалі агульныя справы, клопаты, памкненні.

У бібліяграфічным даведніку «Прафесар Фама Антонавіч Бельскі» (2002) Т. Яталь піша: «У Златапальскай гімназіі быў моцны педагагічны калектыў. У ім працавалі такія таленавітыя выкладчыкі, як М. Зэраў, В. Імшынецкі, К. Воінаў, К. Коршун-Асмалоўскі, М. Чысцякоў, законанастаўнік А. Зелянецкі. Дзядзька Фама выкладаў славеснасць, хутка набыў аўтарытэт і папулярнасць сярод навучэнцаў, а таксама іх бацькоў» («Мой дарагі дзядзька Фама»).

Мікола Зэраў і Фама Бельскі былі аднагодкамі, кожны з іх належаў да элітнай сям'і. Мікола нарадзіўся вясною 1890 года ў Зенькаве на Палтаўшчыне, Фама — у кастрычніку таго ж года ў мястэчку Цімкавічы былога Слуцкага павета (цяпер Капыльскі раён). Бацька Зэрава — настаўнік, загадчык гарадской школы, пазней інспектар народных школ, маці, Марыя Якаўлеўна, належала да казацкага роду, які

меў усе доказы на шляхецтва. Бацька Фамы быў сынам выпускніка Віленскага ўніверсітэта, асабістага Ганаровага грамадзяніна Расійскай імперыі Сільвестра Бельскага. Да яго наведваліся купцы з Вільні, Варшавы і іншых гарадоў, у цімкавіцкай хаце Бельскіх пастаянна гучала некалькі моў.

Украінца Міколу Зэрава і беларуса Фаму Бельскага лёс упершыню звёў у сценах Кіеўскага ўніверсітэта (на той час Імператарскага ўніверсітэта св. Уладзіміра). Абодва паступілі на гісторыка-філалагічны факультэт, дзе і адбылося іх знаёмства, пачаліся прыязныя сяброўскія стасункі, якія з цягам часу толькі ўмацоўваліся. Трэба сказаць, што Кіеўскі ўніверсітэт таго часу быў адным з вядучых адукацыйных цэнтраў Расіі. Сярод імператарскіх універсітэтаў ён уваходзіў у тройку лепшых вышэйшых навучальных устаноў (пасля Маскоўскага і Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэтаў), гэты статус ён захаваў і ў савецкі час. Кіеўскі ўніверсітэт праславіўся многімі таленавітымі выпускнікамі ў розных сферах дзейнасці. Дастаткова назваць хаця б паасобныя імёны: гісторыка Міхайлы Грушэўскага, філосафа Мікалая Бярдзяева, батаніка Дзмітрыя Зэрава (малодшы брат Міколы), педагога Паўла Блонскага, пісьменніка Міхаіла Булгакава, тэатразнаўца Стэфана Макульскага, літаратуразнаўцаў Мікалая Гудзія, Валянціна Асмуса... А сярод іх і тыя, хто нарадзіўся ў Беларусі: гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі (родам з Рэчыцы), матэматык, астраном і геафізік Ота Шміт (нарадзіўся ў Магілёве)...

У пераліку знакамітых студэнтаў і выкладчыкаў універсітэта і ён, Мікола Зэраў. Студэнцкі час падараваў яму знаёмства і сяброўства з многімі таленавітымі маладымі людзьмі, якія ў будучым сцвердзіліся ў розных галінах навукі, адукацыі і культуры. Гэта паэт і перакладчык Міхайла Драй-Хмара, лексікограф і мовазнавец Пятро Гарэцкі, гісторык і архівіст Віктар Раманоўскі, гісторык літаратуры, перакладчык і пісьменнік Якаў Галасаўкер, літаратуразнавец і лінгвіст Сцяпан Саўчанка... Усіх іх добра ведаў і Фама Бельскі, які апынуўся ў асяродку гэтай філалагічнай сябрыны, прытым з Галасаўкерам, Саўчанкам і іншымі будучымі вядомымі філолагамі ды педагогамі ён вучыўся на адным курсе. Як і Міколу Зэрава, Якава Галасаўкера, яго займала антычная гісторыя і літаратура, вывучэнне старых моў. Да



таго ж яны былі вялікімі кніжнікамі, літаральна палявалі за кожнай навінкай літаратуры, асабліва што тычылася антычнай класікі, энцыклапедый, слоўнікаў. Культуру і мастацтва слова яны спазнавалі праз багаты духоўны свет кнігі. Гэта і вытлумачвае іх высокую адукаванасць, вялікую эрудыцыю. Нездарма Міколу Зэрава пазней крытыка назаве «кніжным паэтам». Для Ф. Бельскага, як і для Зэрава, кніга зрабілася спадарожніцай на ўсё жыццё. Для Фамы — ад часу знаёмства з «Жывапіснай Расіяй» у Слуцкай гімназіі і працы ў бібліятэцы Эдварда Вайніловіча ў маёнтку Савічы, што месціўся побліз Цімкавіч. Зрэшты, і ў бацькоўскай хаце мелася багатая бібліятэка. Між іншым, кніжніца прафесара Ф. Бельскага налічвала звыш дзвюх тысяч асобнікаў, аднак большасць яго збору згінула ў полымі Вялікай Айчыннай вайны ў Чарнігаве, засталася толькі невялікая рэшта кніжных рарытэтаў. Чым яшчэ запомніліся студэнцкія гады для Міколы Зэрава, Фамы Бельскага, іхніх агульных сяброў, дык гэта сустрэчамі з кіеўскай даўнінай, архітэктурай, прагулкамі па вуліцах і плошчах.

Фама Бельскі скончыў Кіеўскі ўніверсітэт з дыпломам першай ступені ў 1913 годзе і атрымаў прызначэнне на працу ў Златапаль — невялікае мястэчка на памежжы Кіеўшчыны і Херсоншчыны. Бельскі і Зэраў развіталіся надоўга, здавалася нават, што назаўсёды.

Аднак праз год яны сустрэліся ў Златапалі (між іншым, цяпер гэтага горада няма, ён у складзе Наваміргарада). Сюды ў жніўні 1914 года па загадзе папячыцеля Кіеўскай навучальнай акругі М. Зэраў быў накіраваны на працу. У Златапальскай мужчынскай гімназіі ён пачаў выкладаць гісторыю і лаціну. А Ф. Бельскі выкладаў рускую мову і літаратуру, ужо паспеў набыць педагагічны аўтарытэт. Апрача абавязковых заняткаў з навучэнцамі ён вёў заняткі па мастацкай дэкламацыі, ставіў п’есы і інсцэніроўкі. Ф. Бельскі наладзіў працу літаратурнага гуртка. Аляксандр Філіповіч, былы вучань Зэрава і Бельскага, успамінаў: «Выкладчык літаратуры ў нашай гімназіі Фама Антонавіч Бельскі заснаваў на пачатку 1915 года гуртох “Аматараў славеснасці”, мэтай якога было паглыбленае вывучэнне літаратуры шляхам наладжвання г. зв. літаратурных судоў (з іх прыгадаю два над вядомымі персанажамі расійскай літаратуры: Анегіным

і Пячорыным), спектакляў і чытання рэфератаў на літаратурныя тэмы. У яго склад уваходзілі навучэнцы, якія мелі схільнасць да літаратурнай творчасці (было іх каля 25 чалавек), а з выкладчыкаў, апроч кіраўніка гуртка, толькі адзін быў яго сябрам — М. К. Зэраў. Трэба дадаць: ён быў ганаровым сябрам. Другім ганаровым сябрам быў паэт князь Лапухін. Мікола Канстанцінавіч вельмі дапамагаў гуртковцам у працы сваімі каштоўнымі парадамі, а калі-нікалі прысутнічаў на рэфератах і браў слова ў дыскусіі. Гурток выдаваў свой "орган" — невялічкія друкаваныя зборнікі "На шляху да мастацтва". У гэтых зборніках юныя аматары паэзіі друкавалі свае першыя творы, а кіраўнік гуртка падаваў справаздачу за пэўны перыяд працы. У адным з такіх зборнічкаў, якія цудам ацалелі ў мяне, Мікола Канстанцінавіч змясціў свой расійскі пераклад аднаго верша Леконта дэ Ліля "Poemes antigues" пад назвай "Антычны медаль"... Пераклад гэты пазначаны датай: 14 верасня 1917 года» («Народне слово», 1991, 25 ліп.). Дарэчы, успаміны гэтыя належаць брату вядомага ўкраінскага паэта, перакладчыка і крытыка Паўла Філіповіча, які быў сябрам, літаратурным паплечнікам М. Зэрава.

У Златапалі Зэраў і Бельскі сустракаліся амаль штодня. Апантаныя працай і літаратурай, яны хутка набіраліся жыццёвага, педагагічнага і творчага вопыту. Зэраў умеў сябраваць, ён лёгка сыходзіўся з людзьмі. Фама таксама быў чалавекам душэўным, таварыскім, добразычлівым. Ён меў шчасце і гонар адным з першых слухаць пераклады Зэрава са старых моў, з французскай паэзіі. Разам яны падтрымлівалі творча адораных гімназістаў, шмат з імі працавалі. Але надышоў той дзень — Мікола і Фама зноў развіталіся. Прычынай гэтаму стала Першая сусветная вайна. Уладзімір Панчанка, доктар філалогіі, прафесар Нацыянальнага ўніверсітэта «Кіева-Магілянская акадэмія», які падрабязна вывучыў акалічнасці жыцця і творчасці М. Зэрава ў Златапалі, піша: «Замест суботніх баляў, на якіх гаспадары раней прымалі навучэнак з суседняй жаночай гімназіі, — канцэрты для параненых байцоў, дабрачынныя захады па зборы сродкаў у разнастайныя фонды, што ствараліся для патрэб фронту... Міколу Зэрава таксама маглі мабілізаваць... Але — абышлося...» («Мікола Зэраў: тры леты ў Златапалі»). Ф. Бельскаму выпала



ўзяць у рукі зброю, ён апынуўся на Каўказскім фронце. Аднак як настаўніка яго дэмабілізавалі. Калі вярнуўся на працу ў Златапаль, М. Зэрава там ужо не заспеў...

Златапальскі перыяд стаўся вельмі істотным як у жыцці М. Зэрава, так і Ф. Бельскага. Гэтыя яшчэ вельмі маладыя людзі былі ў палоне летуценняў, задум і памкненняў. Апынуўшыся на перыферыі, яны, аднак, не страцілі імпэту, іх не зацягнулі ў свае цянёты спакусы лёгкага, бесклапотнага жыцця. У Зэраве канчаткова перамог паэт, ён шмат перакладаў, рыхтаваў анталогію рымскай паэзіі. Зрэшты, пачынаў М. Зэраў з друкавання артыкулаў і рэцэнзій у педагагічным часопісе «Світло», газеце «Рада». Фама Бельскі скіраваўся да навукова-даследчай працы, ён браў удзел ва Усерасійскім з'ездзе выкладчыкаў рускай мовы і славеснасці ў Маскве (снежань 1916 — студзень 1917) і выступіў з дакладам «Аб вывучэнні крытыкі». Паступова ён пераключыўся на ўкраіназнаўчую тэматыку.

Фама Бельскі яшчэ ў студэнцкія гады пад уплывам М. Зэрава, М. Драй-Хмары і іншых кіеўскіх сяброў захапіўся ўкраіністыкай. Ён пачаў грунтоўна вывучаць украінскую мову, якой з цягам часу авалодаў глыбока, дасканала, таму гаварыў і пісаў на ёй нязмушана і лёгка. Ф. Бельскі працаваў прафесарам і загадчыкам кафедраў у шэрагу вышэйшых навучальных устаноў Украіны, лекцыі з поспехам чытаў на ўкраінскай мове. У 1920-я гады свае лепшыя працы па педагогіцы ён напісаў па-ўкраінску: «Педагогіка як навука», «Выяўленне арганізатараў у групе і вызначэнне арганізаванасці групы», «Вывучэнне здольнасцей дзяцей», «Арганізацыя школ для адораных дзяцей», «Мінулае нашага краю» і інш. Прафесар Ф. Бельскі быў адным з пачынальнікаў краязнаўства на Данеччыне і Украіне наогул, актыўна прычыніўся да гуртавання культурна-навуковых сіл Данбаса і арганізацыі сістэмных украіназнаўчых даследаванняў у гэтым рэгіёне. Ён уключыўся ў працу па стварэнні і арганізацыі дзейнасці «Навуковага таварыства на Данеччыне». «Пачало сваю дзейнасць як канчаткова сфарміраваная арганізацыя 20 верасня 1926 года. Важкі ўклад у арганізацыю таварыства зрабілі праф. Ф. А. Бельскі, С. Р. Грушэўскі», — адзначае І. Ключнева ў артыкуле «Краязнаўства на Луганшчыне (20—30-я гг.)».

Зразумела, Кіеў застаўся ў мінулым і вабіў да сябе… М. Зэраў вярнуўся туды праз тры гады, акунуўся ў вір бурлівага літаратурнага жыцця, стаў знакамітым паэтам-неакласікам і прафесарам… Ф. Бельскі прыехаў у Кіеў незадоўга да смерці. Апошняе месца яго працы — загадчык кафедры педагогікі Кіеўскага інстытута фізічнай культуры. Спачывае ён вечным сном на Байкавых могілках.

А дзе магіла М. Зэрава — дакладна невядома. Яго расстралялі сталінскія карнікі ў лясным урочышчы Сандармох, што ў Карэліі. Жыццё ўкраінскага паэта абарвалася 3 лістапада 1937 года. Напярэдадні трагічнага, сумнага 1937-га Ф. Бельскі таксама ратаваўся ад рэпрэсіўнай сталінскай машыны. У 1932 годзе прафесар выступіў на вучоным савеце Херсонскага інстытута народнай адукацыі з крытыкай метаду політэхнізацыі. Гэтае выступленне было расцэнена як варожае, Бельскага вырашылі пазбавіць права выкладаць у інстытуце, пагражалі іншымі наступствамі. Давялося ратавацца цягам многіх гадоў, паколькі херсонскі «след» усплываў зноў і зноў. У атмасферы падазронасці і страху нядрэмным, пільным было вока спецслужбаў. У 1935—1936 гг. Ф. Бельскі працаваў у Магілёўскім пэдінстытуце. Напярэдадні 1937 года, калі на радзіме распачынаўся сталінскі «хапун», ён выправіўся з жонкай у Сярэднюю Азію. Аднак, на жаль, Сталіна і сталінскую ўладу ён не перажыў, памёр у 1952 годзе.

Фама Бельскі даведаўся пра арышт М. Зэрава ад сваёй сястры Яўгеніі Антонаўны. Таму, зразумела, былога калегі і сябра маладосці сустрэць у Кіеве ён ніяк не мог, пра яго лёс, як і многіх іншых ахвяр сталінскага часу, толькі здагадваўся. На доўгія гады імя М. Зэрава было аддадзена забыццю. Перад адыходам у вечнасць, гаворачы з сястрою, цяжка хворы Фама Антонавіч згадаў Міколу Зэрава, абмовіўся: «Паэт несмяротны, ён, як анёл, вяртаецца…» Пачынаўся 1952 год, на начным небе заззяла святло зоркі Хрыстовай… Вусны майго дзядзькі ціха прашапталі прарочыя словы царкоўнага песняспеву: «Воскресение Твое, Христе Спасе, Ангели поют на небесех… Воистину Воскресе!..»

Алесь БЕЛЬСКІ

# І прызванне, і лёс

## *Жыццё і дзейнасць вучонага-педагога прафесара Ф. А. Бельскага*

Яшчэ, здаецца, нядаўна імя вучонага-педагога Фамы Антонавіча Бельскага было малавядомае ў Беларусі. На пачатку 90-х гг. мінулага стагоддзя артыкул пра яго жыццё і творчую дзейнасць у «Настаўніцкай газеце» быў надрукаваны ў рубрыцы «Вернуты з забыцця» [6, с. 3]. Аднак за апошнія два дзесяцігоддзі яго імя набыло вядомасць, з'явілася ў шэрагу беларускіх энцыклапедый, даведнікаў [5, с. 350—351; 16, с. 513] і іншых выданнях. Творчай дзейнасці і спадчыне вучонага прысвечаны біябібліяграфічны даведнік «Прафесар Фама Антонавіч Бельскі = Профессор Фома Антонович Бельский», выдадзены ў 2002 годзе ў Мінску [17]. Артыкулы пра Ф. А. Бельскага надрукаваны ў навуковых зборніках, часопісе «Беларуская мова і літаратура ў школе» («Роднае слова»), газетах «Голас Радзімы», «Літаратура і мастацтва», «Краязнаўчай газеце», «Чырвонай змене» і інш. Імя вучонага згадваецца на інтэрнэт-сайтах Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова, Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, Херсонскага дзяржаўнага ўніверсітэта, Луганскага гарадскога галавы і гарадскога савета, газеты «Народне слово» (Украіна) і інш. Творчая спадчына Ф. А. Бельскага вывучалася і працягвае асэнсоўвацца ў розных аспектах, пра што сведчаць матэрыялы надрукаваных навуковых прац ва Украіне і ў Беларусі: І. М. Ключневай «Краеведение на Луганщине (20—30-е гг.)» (1997), Т. Ю. Анпілогавай «Культурно-освітня діяльність гуманітарної інтелігенції Луганщини в період нової економічної політики» (2005), «Роль інтелігенції у вихованні молоді та зародженні піонерського руху в Донбасі в 20-ті роки XX ст.» (2006), «Діяльність науково-дослідних кафедр і секцій наукових працівників на Луганщині в 20-і роки XX ст.» (2009), А. У. Пугач «Проблеми підготовки вчителя до професійної діяльності в українській педагогічній періодиці (20-ті —

пачаток 30-х років XX ст.)» (2008), А. І. Бельскага, Я. А. Бельскага «Прафесар Ф. А. Бельскі як адзін з пачынальнікаў краязнаўства ва Украіне (дзейнасць і погляды)» (2008) [14; 1; 2; 3; 18; 8] і інш. У адным з энцыклапедычных выданняў апошняга часу справядліва адзначаецца, што Ф. А. Бельскі — «вядомы навуковец», «аўтар шматлікіх прац па дзіцячай педагогіцы» [4, с. 176]. І яшчэ. У кастрычніку 2010 года ў Капыльскай раённай бібліятэцы імя А. Астрэйкі адбылася выстава да 120-годдзя з дня нараджэння гэтага таленавітага вучонага ў галіне дыдактыкі і псіхалогіі. Дарэчы, Ф. А. Бельскі — першы прафесар педагогікі (1925) з Капыльскага раёна. У гэтай сувязі ўзнікае патрэба запыніцца на асноўных этапах дзейнасці вучонага, яго педагагічных ідэях і поглядах, якія, думаецца, не страцілі сваёй актуальнасці і на пачатку XXI стагоддзя.

Нарадзіўся Фама Антонавіч Бельскі 31 кастрычніка 1890 года ў мястэчку Цімкавічы былога Слуцкага павета (цяпер Капыльскі раён). Паходзіў ён з элітнай сям'і. Бацька Фамы быў сынам выпускніка Віленскага ўніверсітэта, асабістага Ганаровага грамадзяніна Расійскай імперыі Сільвестра Бельскага. Бацька вёў гандаль, таму да яго часта наведваліся купцы з Вільні, Варшавы і іншых гарадоў. У хаце Бельскіх пастаянна гучала некалькі моў. Сям'я мела сваю бібліятэку, у якой былі каштоўныя выданні. Духоўнае абуджэнне Фамы акурат пачалося з цікавасці да кніг і іх чытання на розных мовах.

Скончыў Цімкавіцкае народнае вучылішча (1898—1901). Паваротным, лёсавызначальным для адоранага хлопчыка стаў дзень паступлення ў славутую Слуцкую гімназію (1902), у якой у розныя гады вучыліся вядомыя ў будучым літаратары Э. Даўкша, А. Плуг, А. Абуховіч, вучоныя Г. Кулакоўскі, В. Цэраскі, С. Ачапоўскі і інш. Сярод выбітных навучэнцаў ды выпускнікоў гімназіі і Фама Бельскі. У час навучання ў Слуцку ён адкрыў для сябе шмат новага, цікавага, істотна пашырыў веды і эрудыцыю. Гімназію скончыў у 1909 годзе з сярэбраным медалём, што давала яму права на паступленне ў адзін з расійскіх універсітэтаў.

Фама Бельскі выбраў Кіеў, паехаў вучыцца ў Імператарскі ўніверсітэт св. Уладзіміра. Студэнцкія гады вучобы былі плённымі і выніковымі. Кіеўскі ўніверсітэт ён скончыў з дыпломам I ступені (1913), атрымаўшы спецыяльнасць



«руская мова, літаратура, педагогіка, псіхалогія». На гісторыка-філалагічным факультэце ён апынуўся сярод маладых творчых людзей, быў добра знаёмы і сябраваў з М. Зэравым, М. Драй-Хмарам, С. Саўчанкам, Я. Галасаўкерам, П. Гарэцкім і іншымі будучымі вядомымі вучонымі ды педагогамі. Безумоўна, студэнцкі асяродак фарміраваў яго асобу. Пад уплывам М. Зэрава, М. Драй-Хмары і іншых кіеўскіх сяброў ён захапіўся ўкраіністыкай. Ф. Бельскі пачаў грунтоўна вывучаць украінскую мову, якой з цягам часу аваладаў дасканала, таму гаварыў ды пісаў на ёй свабодна і лёгка. Гэтак жа грунтоўна ведаў родную беларускую мову. За сваё жыццё яму давялося працаваць у вышэйшых навучальных установах Украіны, Расіі, Беларусі і Узбекістана, пры гэтым лекцыі ён з поспехам чытаў на розных мовах — украінскай, рускай і беларускай. У 1920-я гады свае лепшыя працы па педагогіцы Ф. А. Бельскі напісаў па-ўкраінску, хаця ёсць у яго навуковыя публікацыі на рускай мове. Нагогул, на прыкладзе Ф. А. Бельскага можна цудоўна пераканацца, як у жыцці і лёсе аднаго вучонага арганічна, непасрэдна з'ядналіся тры культуры і мовы славянскіх народаў.

Пасля заканчэння ўніверсітэта Ф. Бельскі пачынае працаваць у Златапальскай мужчынскай гімназіі Кіеўскай губерні (выкладаў таксама ў жаночай і змешанай гімназіях). У яе сценах, між іншым, вучыліся многія будучыя вядомыя людзі: пісьменнік, палітычны дзеяч Уладзімір Вінічэнка, акадэмік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Ігар Там і інш. У Златапальскай гімназіі быў моцны педагагічны калектыў. Ф. Бельскі выкладаў рускую мову, славеснасць і псіхалогію. Апрача гэтага, з навучэнцамі ён вёў заняткі па мастацкай дэкламацыі, ставіў п'есы і інсцэніроўкі. У жніўні 1914 года ў Златапаль прыехаў працаваць М. Зэраў, які ў гімназіі пачаў выкладаць гісторыю і лацінскую мову. Былы вучань Зэрава і Бельскага А. Філіповіч прыгадваў: «Выкладчык літаратуры ў нашай гімназіі Фама Антонавіч Бельскі заснаваў на пачатку 1915 года гурток "Аматараў славеснасці", мэтай якога было паглыбленае вывучэнне літаратуры шляхам наладжвання г. зв. літаратурных судоў (з іх прыгадаю два над вядомымі персанажамі расійскай літаратуры: Анегіным і Пячорыным), спектакляў і чытання рэфератаў на літаратурныя тэмы. У яго склад уваходзілі навучэнцы, якія мелі

схільнасць да літаратурнай творчасці (было іх каля 25 чалавек), а з выкладчыкаў, апроч кіраўніка гуртка, толькі адзін быў яго сябрам — М. К. Зэраў... Мікола Канстанцінавіч вельмі дапамагаў гурткоўцам у працы сваімі каштоўнымі парадамі, а калі-нікалі прысутнічаў на рэфератах і браў слова ў дыскусіі. Гурток выдаваў свой “орган” — невялічкія друкаваныя зборнікі “На шляху да мастацтва”. У гэтых зборніках юныя аматары паэзіі друкавалі свае першыя творы, а кіраўнік гуртка падаваў справаздачу за пэўны перыяд працы...» [19]. У златапальскі перыяд Ф. Бельскі і М. Зэраў адбыліся як педагогі, яны шмат працавалі з адоранымі навучэнцамі, да таго ж сяброўства паміж імі яшчэ больш умацавалася. Калегі-сябры часта абмяркоўвалі літаратурныя творы, праблемы асветы і адукацыі. Зэраў чытаў Фаму свае пераклады з рымскай і французскай паэзіі. Праз некаторы час М. Зэраў стане вядомым паэтам і перакладчыкам, прафесарам літаратуры, а Ф. Бельскі — прафесарам педагогікі [падрабязней гл.: 7, с. 12]. У Златапальскай гімназіі Фама Антонавіч пачынае вывучаць псіхалагічныя асаблівасці навучэнцаў, распрацоўваць пытанні методыкі выкладання літаратуры. У снежні 1916 — студзені 1917 гг. ён браў удзел ва Усерасійскім з’ездзе выкладчыкаў рускай мовы і славеснасці ў Маскве, дзе выступіў з дакладам «Аб вывучэнні крытыкі». У гімназічных установах Ф. Бельскі працаваў да 1920 года. Праўда, быў невялікі перапынак у сувязі з прызывам на Каўказскі фронт падчас Першай сусветнай вайны, аднак як настаўніка яго хутка дэмабілізавалі. У 1920—1921 гг. Фама Антонавіч загадваў Златапальскай працоўнай школай. За гэты час ён зацвердзіўся ў сваёй прафесіі, набыў каштоўны педагагічны вопыт і досвед у іншай практычнай дзейнасці, пераканаўся ў тым, што педагогіка — яго прызванне, лёс і будучыня.

У 1921 годзе Ф. Бельскага запрашаюць лектарам педагогікі ў Інстытут народнай адукацыі ў Златапалі (цяпер горада з такой назвай няма, ён у складзе Наваміргарада). Гэта была новая прыступка ў прафесійнай кар’еры. У 1923 годзе Фама Антонавіч пераязджае ў г. Луганск, дзе яго бяруць на працу ў Данецкі інстытут народнай адукацыі: спачатку выкладчыкам, а пасля ён прызначаецца прафесарам педагогікі. Ф. Бельскаму выпаў гонар працаваць у першай вышэйшай



навучальнай установе Данбаса. У 1925 годзе Дзяржаўным навукова-метадычным камітэтам Наркамасветы Украінскай ССР яму было прысвоена званне прафесара педагагічных навук. У манаграфіі «Історичні краєзнавчі розвідки» (2010) А. Клімаў адзначае, што прафесар Бельскі ўдзельнічаў у падрыхтоўцы першага выпуску 32 спецыялістаў, які адбыўся ў 1926 г., ён разам з іншымі педагогамі забяспечыў іх якасную тэарэтычную і метадычную падрыхтоўку [15, с. 222].

Прафесар Ф. Бельскі непасрэдна далучыўся да гуртавання культурна-навуковых сіл Данбаса і арганізацыі сістэмных украіназнаўчых даследаванняў у гэтым рэгіёне. Пра гэта можна даведацца з яго артыкулаў «Арганізацыя навуковай працы» (1926), «З гісторыі дзейнасці Навуковага таварыства на Данеччыне» (1928) і некаторых іншых. Звесткі пра дзейнасць Ф. Бельскага і іншых вучоных у той перыяд змяшчае газета «Луганська правда». Ён актыўна ўключыўся ў працу па стварэнні і арганізацыі дзейнасці «Навуковага таварыства на Данеччыне». «Пачало сваю дзейнасць як канчаткова сфарміраваная арганізацыя 20 верасня 1926 года. Важкі ўклад у арганізацыю таварыства зрабілі праф. Ф. А. Бельскі, С. Г. Грушэўскі» [14], — адзначае І. М. Ключнева. Таварыства наладзіла цеснае супрацоўніцтва з Усеўкраінскай акадэміяй навук (ВУАН) і тагачаснымі дзяржаўнымі ўстановамі. Савет таварыства ў 1928 годзе складаўся з васьмі вучоных, у яго ўваходзіў прафесар Ф. Бельскі (сакратар). Фама Антонавіч удзельнічаў у працы педагагічнай і ўкраіназнаўчай секцый. У 1926—1927 гг. выступіў з 7 навуковымі дакладамі: «Песталоцы і сучасныя праблемы савецкай педагогікі», «Арганізацыя школ для звышадораных», «Школьнае самакіраванне і вымярэнне арганізаванасці школьных калектываў» і інш. Большасць педагагічных артыкулаў ён надрукаваў у часопісах «Освіта Донбасу» і «Радянська школа» (на ўкраінскай мове). Працы «Педагогіка як навука» (1927), «Выяўленне арганізатараў у групе і вызначэнне арганізаванасці групы» (1928) выйшлі асобнымі выданнямі. Дзейнасць прафесара Бельскага ў Луганску была шматгранная і надзвычай плённай. Яму належыць ідэя стварэння і канцэпцыя першага ў рэгіёне педагагічнага музея пры Данецкім інстытуце народнай асветы (ДІНА). «У 1926 годзе ў будынку інстытута былі праведзены

капітальныя рамонтныя работы. На другім паверсе адкрыты педагагічны музей. Яго загадчыкам быў прызначаны прафесар Фама Антонавіч Бельскі. У перспектывах на 1927—1928 навучальны год меркавалася пераўтварыць педагагічны музей у музей акруговага значэння» [11]. Т. Ю. Анпілогава, даследчыца дзейнасці гуманітарнай інтэлігенцыі Данбаса ў перыяд 1920-х гг., адзначае, што мэтай гэтага музея «было пашырэнне педагагічных ідэй», і далей піша: «Экспазіцыі былі прадстаўлены партрэтамі выдатных педагогаў, ілюстрацыямі да школьнай працы, дапаможнікамі з розных дысцыплін, рознымі педагагічнымі аддзеламі і выставаю педагагічнай літаратуры. Штат складаўся з загадчыка, прафесара педагагічных дысцыплін Ф. А. Бельскага і лаборанта Ф. М. Красільнікава. Сярод гурткоў, якія дзейнічалі пры ДІНА, быў гурток дзіцячага руху, які ўзначальваў выкладчык інстытута прафесар Ф. А. Бельскі» [3, с. 16]. Яшчэ адзін кірунак дзейнасці вучонага — краязнаўства. Ён прычыніўся да арганізацыі навуковай і краязнаўчай працы «Сацыяльнага музея Данбаса» [14]. У артыкуле «Мінулае роднага краю» Ф. А. Бельскі ўздымае «пытанне аб педагагічным значэнні краязнаўчай працы для выхавання ў вучняў любові да роднага краю» [17, с. 22]. Прафесар Бельскі лічыцца адным з пачынальнікаў краязнаўчага руху на Данеччыне і Украіне савецкага часу [падрабязней гл.: 8]. Жыццёвай і творчай энергіі Фамы Антонавіча хапала на рэалізацыю самых розных задум і планаў.

Выкладчыцкай працы ў вышэйшай школе Ф. А. Бельскі аддаў 30 гадоў. За гэты час зацвердзіў сябе як таленавіты лектар і вучоны-педагог, выдатны арганізатар навукі. Яму даручалі і давяралі ўзначальваць кафедры ў многіх вышэйшых навучальных установах Украіны і былога Савецкага Саюза. Спачатку ён працаваў прафесарам Херсонскага інстытута народнай адукацыі (з 1929 г.), а затым кіраваў кафедрай дыдактыкі гэтага ж інстытута. «Першыя навучальныя планы ХІНА былі распрацаваны і зацверджаны на пасяджэнні кіраўніцтва ў складзе дырэктара інстытута, гісторыка, прафесара Грэвізірскага К. Ю., прафесара Бельскага Ф. А., выкладчыка Кацінскага М. В. і інш.» [12]. У 1932—1935 гг. Ф. А. Бельскі — загадчык кафедры Краснадарскага педагагічнага інстытута, тут жа пэўны час загадваў школьна-



педагагічным аддзяленнем, вучэбна-метадычным сектарам, тры гады быў намеснікам дырэктара па вучэбнай частцы, часова выконваў абавязкі дырэктара гэтага ж інстытута. Прафесар Бельскі адначасова ўзначальваў кафедру педагогікі ў Кубанскім сельскагаспадарчым інстытуце, а ў 1935 годзе быў прызначаны загадчыкам кафедры педагогікі Омскага сельгасінстытута (Расія). У тым жа 1935 годзе разам з жонкай Кацярынай Міхайлаўнай ён прыязджае ў Беларусь і пачынае працаваць у Магілёўскім педагагічным інстытуце. І тут яму даручаюць адказную працу і новую пасаду. Ф. А. Бельскі стаў адным з актыўных стваральнікаў і першым загадчыкам кафедры педагогікі і псіхалогіі Магілёўскага падінстытута. Былы студэнт, а пазней дырэктар Вялікараёўскай сярэдняй школы Капыльскага раёна У. Д. Зянько добра запомніў лекцыі прафесара Бельскага. У прыватнасці, ён згадваў: «У 1936 годзе, калі я вучыўся ў Магілёўскім педінстытуце, у нас чытаў курс псіхалогіі прафесар Бельскі Фама Антонавіч… Прадмет гэты быў для нас цалкам новы, і ўсе мы з вялікай цікавасцю слухалі прафесара. Лекцыі Фама Антонавіч чытаў натхнёна, міжволі запрашаў усіх студэнтаў уважліва слухаць і думаць, менавіта думаць. Мы ўпершыню даведаліся, што кожны з вучняў мае своеасаблівы характар, і настаўніку, прыйшоўшы ў клас, трэба менавіта бачыць і ўлічваць гэта… Працуючы з класам, важна бачыць і ведаць кожнага навучэнца, яго здольнасці, магчымасці, і бачыць не толькі недахопы, але галоўнае — станоўчыя якасці, яго захапленні» (з успамінаў, запісаных 4.05.1987 г.).

Той даваенны час быў неспакойны, трывожны, у грамадстве ўсталявалася атмасфера страху і падазронасці, пачаліся рэпрэсіі. А прафесару Бельскаму было чаго баяцца. Па-першае, у 1932 годзе ён выступіў на вучоным савеце Херсонскага інстытута народнай асветы з крытыкай метаду політэхнізацыі. Гэтае выступленне было расцэнена як варожае, пагражалі звольніць, пазбавіць права выкладаць і іншымі непрыемнасцямі. Давялося ратавацца. Жонцы Фамы Антонавіча ўдалося неяк забраць дакументы ў аддзеле кадраў, і сям’я Бельскіх адразу пакінула Херсон. Асобаю Фамы Антонавіча пачалі цікавіцца, высвятляць, чаму і навошта ён прыехаў у Магілёў. Па-другое, Цімкавічы, дзе жылі яго родныя, былі зонай асаблівай увагі і памежнага кантролю: там

ледзь не штодня выкрывалі польскіх шпіёнаў, дыверсантаў і «ворагаў народа». Паехаць туды Фама Антонавіч не адважыўся, паколькі было зразумела: адзін лішні рух ці адзін чыйсьці сігнал — і можна чакаць арышту. Прыкладаў таму нямала. Пасля адной з такіх паездак у родныя Цімкавічы быў арыштаваны пісьменнік Кузьма Чорны. Доўга затрымлівацца ў Беларусі не выпадала, і сям'я Бельскіх падалася ў далёкі Узбекістан, дзе Фама Антонавіч некалькі гадоў працаваў прафесарам педагогікі і псіхалогіі Ферганскага і Какандскага педагагічнага і настаўніцкага інстытутаў (1936—1940). Як пазначана ў асабовым лістку па ўліку кадраў, Ф. А. Бельскі з 1 студзеня 1939 г. — акадэмічны пенсіянер-прафесар. Фама Антонавіч з жонкай (яна выкладала студэнтам нямецкую мову) увесь час марылі пра вяртанне ва Украіну ці ў Беларусь. Сухі, спякотны клімат дрэнна адбіўся на самаадчуванні, трэба было папраўляць здароўе. Гэтая мара здзейснілася: у 1940 годзе Бельскія прыехалі ў Чарнігаў, дзе яны атрымалі працу, уладкавалі свой побыт. Фама Антонавіч стаў загадчыкам кафедры педагогікі Чарнігаўскага перінстытута. Здавалася, надышла спрыяльная пара для жыцця і прафесійнага занятку.

Аднак праз год раптоўна пачалася Вялікая Айчынная вайна, і на Чарнігаў пасыпаліся фашысцкія бомбы. Сям'я Бельскіх ратавалася ў бежанстве. Лёс зноў прывёў іх у Сярэднюю Азію, а дакладней — ва Узбекістан. З 1941 па 1946 год Ф. А. Бельскі працаваў прафесарам педагогікі, псіхалогіі ў Бухарскім педінстытуце, загадваў профільнай кафедрай. Трэцяга снежня 1942 года ён выступіў на пасяджэнні вучонага савета з дакладам «Дасягненні савецкай педагогікі за 25 гадоў савецкай улады». У 1943 годзе надрукаваў артыкул «Фронту культуры і асветы патрэбны высокакваліфікаваныя кадры настаўнікаў». З даведкі Бухарскага саюза работнікаў вышэйшай школы, выдадзенай прафесару Бельскаму, можна даведацца, што ён у тым жа 1943 годзе выканаў значную грамадскую працу, у прыватнасці, выступіў з лекцыямі для настаўнікаў і параненых салдатаў. У 1945 годзе вучоны быў узнагароджаны медалём «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.».

Пасляваенныя гады былі цяжкім перыядам для абсалютнай большасці савецкіх людзей. Не выключэннем стаў і лёс



прафесара Ф. А. Бельскага. Разам з жонкай яны апынуліся ў пошуках працы і прытулку. У 1951 годзе ён пахаваў верную спадарожніцу свайго жыцця Кацярыну Міхайлаўну. Не меў свайго жытла, дабіраўся да працы ў Ленінградскі абласны настаўніцкі інстытут толькі ў адзін бок дзве ці дзве з паловай гадзіны. У тым жа годзе пераехаў у Кіеў да сястры Яўгеніі Антонаўны. «...Тут нечакана Фаму Антонавічу пашанцавала: малады, энергічны дырэктар Інстытута фізкультуры Шарсцюк узяў дзядзьку на працу, — апавядае пра той апошні перыяд жыцця і дзейнасці вучонага яго пляменніца Т. П. Яталь, кандыдат медыцынскіх навук. — Ён ставіўся да дзядзькі вельмі ўважліва і добра, наведаў яго лекцыі і быў вельмі задаволены. Але дзядзька прыехаў у Кіеў ужо хворы... Пасля аперацыі мама прасіла, настойвала, каб ён пакінуў працу... Але дзядзька ўпарціўся. Калі ў яго былі лекцыі, мама на стаянцы таксі на Бесарабцы брала машыну, адвозіла яго ў інстытут. Пасля заканчэння лекцый зноў на таксі прывозіла дамоў» [17, с. 35]. Усё сваё жыццё Фама Антонавіч быў апантаны педагагічнай працай, не ўяўляў свайго лёсу па-за студэнцкай аўдыторыяй. Да апошняга дня ён хацеў быць патрэбным людзям. Заключны запіс у яго працоўнай кніжцы — загадчык кафедры педагогікі Кіеўскага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры. Не стала Ф. А. Бельскага 2 сакавіка 1952 года. Пахаваны ён на Байкавых могілках у Кіеве.

У 1920-я гг. існавалі розныя канцэпцыі педагогікі, пры гэтым прысутнічала і крытычная яе ацэнка, сцвярджалася нават, што «яна не можа прэтэндаваць на званне навукі» [цыт. паводле: 10, с. 3]. У гэтай сувязі актуалізавалася пытанне абгрунтавання метадалогіі педагогікі, вызначэнне яе ўзроўняў. Так з'явілася праца Ф. Бельскага «Педагогіка як навука» (1927), у якой аўтар, абапіраючыся на замежны і айчынны вопыт (Д. Дзюі, С. Хола, Э. Нэймана, В. Лая, Л. Нартапа, П. Блонскага, А. Пінкевіча, Б. Камароўскага, І. Эвергетава і інш.), падае асноўныя тэарэтычныя палажэнні і прынцыпы, якія складаюць метадалагічную аснову педагагічнай навукі. Ён адзначаў, што «сістэма ведаў і метадаў педагогікі як у тэарэтычных, так і практычных галінах цяпер жа настолькі афармілася, што па асноўных пытаннях вучэбна-выхаваўчага працэсу мы валодаем такімі данымі, якія

ставяць педагогіку на цвёрды навуковы грунт, і цэлыя навуковыя інстытуты займаюцца праблемамі навуковай педагогікі» [10, с. 4]. Ф. Бельскі лічыў, што авалоданне належнай метадалагічнай культурай дае магчымасць паспяхова арганізаваць навукова-даследчую і практычную дзейнасць.

У новых умовах савецкай школы вучоны імкнуўся развіваць ідэю дыферэнцыяцыі, варыятыўнасці адукацыі. Пра гэта сведчаць яго працы «Арганізацыя школ для адораных дзяцей», «Арганізацыя школ для звышадораных навучэнцаў» (абедзве — 1927). Ён падымаў пытанне пра арганізацыю і навучанне таленавітых дзяцей на аснове выяўлення іх індывідуальных здольнасцей і характарыстык. Сам выпускнік старой гімназічнай школы, ён спадзяваўся, што для ажыццяўлення ў Савецкім Саюзе так званай культурнай рэвалюцыі спатрэбяцца ўстановы новага тыпу, дзе па спецыяльных праграмах і методыках будзе наладжаны працэс навучання і выхавання. Ён быў перакананы, «што паскорыць рэалізацыю гэтай культурнай рэвалюцыі ў найбольшай ступені дапамогуць адораныя людзі, якія атрымалі за школьнай партай стымулы да развіцця сваіх асаблівых здольнасцей...» [17, с. 21]. Сучасны педагагічны вопыт і практыка пацвердзілі слушнасць меркаванняў вучонага, яго думкі пра неабходнасць стварэння ўстаноў асобага тыпу для дзяцей з высокім інтэлектуальным і творчым патэнцыялам. Сапраўды, трэба развіваць і выхоўваць юныя таленты, будучую культурную эліту грамадства.

У 1920-я гг. выпрацоўваліся асновы арганізацыі дзейнасці савецкай школы. Ф. Бельскі імкнуўся плённа скарыстаць прагрэсіўныя педагагічныя ідэі Д. Дзюі, М. Мантэсоры і іншых дыдактаў пра дэмакратызацыю школы, унутранае развіццё асобы дзіцяці праз раскрыццё здольнасцей, творчых задаткаў. Ён засяродзіў увагу на здольнасцях і магчымасцях дзяцей, працы навучэнцаў у групе і калектыве, пры гэтым праводзіў педагагічныя эксперыменты, якія пацвярджаў данымі, атрыманымі ў выніку сістэматычных назіранняў. Прыклад гэтаму — даследаванні Ф. Бельскага «Вывучэнне здольнасцей дзяцей», «Выяўленне арганізатараў у групе і вызначэнне арганізаванасці групы» (абодва — 1928) і інш. Развіццё асобы ён звязваў са стымуляваннем унутраных матывацый, з абуджэннем пачуцця самастойнасці, ініцыятывы, задавальненнем індывідуальных патрэб, наладжваннем цесных сувязей з жыццём грамадства, працай у калектыве. Яго артыкулы вызначаюцца тэарэтычнай заглыбленасцю, арыгінальнасцю высноў, падмацаваны матэрыяламі эксперыментальна-вопытнай працы. Вучоны, аналізуючы станоўчыя і негатыўныя моманты ў школьным кіраванні, у прыватнасці, адзначае, што «школьнае самакіраванне прывучыла вучняў да думкі, што будаўніцтва школьнага жыцця — гэта справа не толькі загадчыка школы, настаўнікаў, школьнай рады, але й справа саміх вучняў», яно «абудзіла ініцыятыву вучняў», спрыяе «ўдзелу ў супольна-грамадскай дзейнасці» [9, с. 39]. Прафесар Бельскі імкнуўся гэты эксперымент у дзейнасці школы ахарактарызаваць з пункту гледжання навуковай педагогікі і псіхалогіі, ён дае практычныя парады з улікам рознага тыпу школ, рознага складу навучэнцаў, засцерагае ад магчымых пралікаў і памылак.



Шэраг прац вучонага прысвечаны праблемам арганізацыі пазнавальнай дзейнасці навучэнцаў, выпрацоўкі методыкі працы па засваенні вучэбнага матэрыялу, крытэрыяў ацэнкі ведаў: «Тэсціраванне і ацэнка паспяховасці навучэнцаў», «Вымярэнне паспяховасці навучэнцаў па стандартызаваных тэстах», «Тэсты Кортыса і спосабы выкарыстання іх» (усе — 1926), «Да пытання аб кантрольным стандарце авалодання тэхнікай вылічэння» (1927). Вучоны ўпершыню падымаў «пытанне аб стварэнні сістэмы ўліку паспяховасці па стандартызаваных для навучэнцаў усіх рэспублік Савецкага Саюза білетах, што і было ажыццёўлена не ў 1926 годзе... а значна пазней — у 1945/46 н. г. і 1946/47 н. г.» [17, с. 19]. Педагагічныя пошукі прафесара Бельскага былі самым непасрэдным чынам звязаны са школай, яе надзённымі запатрабаваннямі, працэсам навучання і выхавання.

Працуючы ў вышэйшых педагагічных установах, ён паспяхова вырашаў пытанні і праблемы, звязаныя з рэальнай адукацыйнай практыкай. У сваіх артыкулах ён клапаціўся пра падрыхтоўку будучых настаўнікаў да прафесійнай дзейнасці, даваў ім каштоўныя метадычныя рэкамендацыі і парады: «Навукова-педагагічныя экскурсіі Данецкага інстытута народнай адукацыі» (1924), «Педагагічная кансультацыя» (1925), «Мэтаімкнёнасць у самаадукацыі настаўніцтва», «Арганізацыя семінараў павышанага тыпу» (абодва — 1927),

«Нарматыўныя элементы педагогікі пры выкладанні яе ў педагагічных ВНУ» (1929), «Педагагічная практыка студэнцтва і методыка яе правядзення» (1931) і інш. Педагагічная канцэпцыя Ф. Бельскага грунтуецца на вылучэнні прыярытэтнай, асноватворнай ролі настаўніка, усведамленні яго дзейнасці як грамадска значнай. Ён акцэнтаваў увагу на неабходнасці грунтоўнага прафесійнага росту і ўдасканалення педагогаў, арганізацыі прадуктыўнага вучэбнага працэсу, атрыманні спецыяльных ведаў пра псіхафізіялагічныя асаблівасці дзяцей, умовы іх развіцця і выхавання [падрабязней гл.: 17].

Як ужо адзначалася, прафесар Ф. А. Бельскі асабліваe значэнне надаваў музейнай справе. У 1926 годзе ён надрукаваў артыкул «Педагагічны музей, яго арганізацыя і культурна-асветная дзейнасць» (1926). Вучоны абгрунтаваў неабходнасць стварэння музеяў такога тыпу для настаўнікаў, вучняў і «любога грамадзяніна, які цікавіцца пытаннямі выхавання, адукацыі, навучання» [17, с. 18], распрацаваў прынцыпы адбору экспанатаў і методыку іх дэманстрацыі з улікам інтарэсаў наведвальнікаў. Педагагічны музей ён разглядаў як культурна-адукацыйны асяродак, «гістарыёграф асветы ў горадзе, вобласці, краі, рэспубліцы» [17, с. 18]. Па сутнасці прафесар Бельскі ў тыя 1920-я гг. знаходзіўся ля вытокаў станаўлення музейнай педагогікі — новай навуковай дысцыпліны на сумежжы музеязнаўства, педагогікі і псіхалогіі.

Найвялікшым аўтарытэтам у педагогіцы для Фамы Антонавіча быў К. Д. Ушынскі. Гэтай славутай асобе ён прысвяціў не адно публічнае выступленне. Сімвалічна, што апошняй друкаванай працай Ф. А. Бельскага стаў артыкул «Вялікі рускі педагог К. Д. Ушынскі» (1946), які вучоны ў сваім творчым даробку вылучаў як лепшы.

Такім чынам, ідэі і погляды, увасобленыя ў працах вучонага, не страцілі актуальнасці ў наш час: вызначэнне сутнасці метадалогіі педагогікі, стварэнне школ для адораных дзяцей, рэгіянальны (краязнаўчы) аспект у навучанні і выхаванні, вывучэнне здольнасцей дзяцей і развіццё асобы, школьнае самакіраванне, распрацоўка навуковых асноў музейнай педагогікі, падрыхтоўка настаўнікаў да прафесійнай дзейнасці і інш. Псіхолага-педагагічныя даследаванні



Ф. А. Бельскага мелі ў значнай ступені наватарскі характар і перспектыву, тэарэтычнае і практычнае значэнне, яны і сёння ўяўляюць несумненную каштоўнасць для гісторыі педагагічнай навукі з мэтай усведамлення і асэнсавання яе эвалюцыі, кірункаў, асаблівасцей развіцця.

Заслугоўваюць увагі іншыя аспекты жыцця і дзейнасці Ф. А. Бельскага. Так, у гімназічныя гады ён часта працаваў у бібліятэцы Эдварда Вайніловіча ў маёнтку Савічы, што побліз Цімкавіч, а таксама збіраў краязнаўчы матэрыял, вёў запісы фальклору. Ён непасрэдна прычыніўся да лёсу будучага ўкраінскага міколага П. Д. Яталя, які зрабіў у навуцы адкрыццё сусветнага ўзроўню [13, с. 7]. Фама Антонавіч з чуласцю ставіўся да сваіх родных і блізкіх людзей, заўсёды памятаў пра іх. Куды б ні закідваў час і лёс, самай дарагой мясцінай на свеце для яго заставаўся родны край, любыя сэрцу Цімкавічы. Там пахаваны бацькі Фамы Антонавіча, адсюль пачынаўся яго шлях у вялікі свет і навуку.

Вучоны-дыдакт Ф. А. Бельскі прысвяціў сваё жыццё высакароднай справе народнай адукацыі, захаваў вернасць гэтай справе і свайму педагагічнаму прызванню. Ён быў не толькі педагогам, навуковым дзеячам, але і асветнікам у высокім разуменні гэтага слова. Сваімі працамі прафесар Ф. А. Бельскі садзейнічаў развіццю навукова-педагагічнай думкі першай паловы XX стагоддзя.

### Літаратура


1. *Анпілогова, Т. Ю.* Діяльність науково-дослідних кафедр і секцій наукових працівників на Луганщині в 20-і роки XX ст. / Т. Ю. Анпілогова // Матеріали V Міжнародної науково-практичної конференції «Внесок молодих учених у розвиток науки регіону». — Луганськ: Знання, 2009. — С. 122—125.

2. *Анпілогова, Т. Ю.* Культурно-освітня діяльність гуманітарної інтелігенції Луганщини в період нової економічної політики / Т. Ю. Анпілогова // Вісник Луганського нац. пед. ун-ту імені Тараса Шевченка. Сер.: Історичні науки. — 2005. — № 14 (94). — С. 122—129.

3. *Анпілогова, Т. Ю.* Роль інтелігенції у вихованні молоді та зародженні піонерського руху в Донбасі в 20-і роки XX ст. / Т. Ю. Анпілогова // Інтелігенція і влада: громадсько-політичний наук. зб. — Вип. 6; Сер.: Історія. — Одеса: Астропринт, 2006. — С. 13—22.

4. Беларускае замежжа = Белорусское зарубежье / склад. Н. А. Голубева. — Мінск: Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2010. — 480 с.
5. Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. — Мінск: БелЭн, 2004. — Т. 18, кн. 1. — 472 с.
6. *Бельскі, А.* «З усімі правамі і перавагамі...» / А. Бельскі // Настаўн. газ. — 1991. — 30 студз.
7. *Бельскі, А.* Іх яднала літаратура і творчасць: [Ф. Бельскі і М. Зэраў] / А. Бельскі // Літ. і мастацтва. — 2011. — 16 верас.
8. *Бельскі, А. І.* Прафесар Ф. А. Бельскі як адзін з пачынальнікаў краязнаўства ва Украіне (дзейнасць і погляды) / А. І. Бельскі, Я. А. Бельскі // Краязнаўства як адзін з накірункаў вучэбна-выхаваўчай работы ў школе і ВНУ: матэрыялы рэсп. навук. канф., Брэст, 28—29 сак. 2008 г. / пад агул. рэд. У. А. Сенькаўца. — Брэст: Альтэрнатива, 2008. — С. 6—9.
9. *Бєльський, Ф.* Виявлення організаторів у групі та вимірювання організованості групи / Ф. Бєльський // Праці наукового товариства на Донеччині: наук. зб. — Луганськ, 1928. — Т. 1. — С. 39—57.
10. *Бєльський, Ф.* Педагогіка як наука: (до питання про методологію педагогіки) / Ф. Бєльський. — Луганськ, 1929. — 16 с.
11. Биография «дома Васнева» — биография Луганска // Сайт Луганского городского головы и городского совета. — [Электронный ресурс]. — Режим доступа: gorod.lugansk.ua/index.php?newsid=2771. — Дата доступа: 10.07.2011.
12. Від Юр'ївського вчительського інституту до Херсонського державного університету // Сайт официальной газеты ХДУ «Університетська панорама». — [Електронний ресурс]. — Режим доступу: www.ksuinfo.ks.ua/index.php?...- — Дата доступу: 12.05.2011.
13. Жизнь, отданная науке и Родине: сб. ст. о микологе П. Д. Ятеле; Життя, віддане науці й Батьківщині: зб. ст. про мiколога П. Д. Ятеля / сост. и примеч. Т. П. Ятель, А. И. Бельского. — Минск: Минкопринт, 2011. — 120 с.
14. *Ключнева, И. Н.* Краеведение на Луганщине (20—30-е гг.) / И. Н. Ключнева. — [Электронный ресурс]. — Режим доступа: www.library.lg.ua/.../izdaniya_materiali.php?...- — Дата доступа: 26.03.2008.
15. *Климов, А.* Історичні краєзнавчі розвідки: моногр. / А. Климов. — 2-ге вид., доп. — Луганськ: Вид-во ДЗ «ЛНУ імені Тараса Шевченка», 2010. — 368 с.
16. Памяць: Капыльскі раён: гіст.-дакум. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / уклад. А. А. Марціновіч; рэдкал.: Ф. К. Абрамчык [і інш.]. — Мінск: Беларус. навука, 2001. — 638 с.



17. Прафесар Фама Антонавіч Бельскі = Профессор Фома Антонович Бельский / уклад. А. І. Бельскі. — Мінск: Энцыклапедыкс, 2002. — 38 с.
18. *Пугач, А. В.* Проблеми підготовки вчителя до професійної діяльності в українській педагогічній періодиці (20-ті — початок 30-х років XX ст.): автореф. дис. ... канд. пед. наук: 13.00.01; Інститут педагогіки АПН України / А. В. Пугач. — Київ, 2008. — 20 с.
19. *Филипович, О.* Златопільські роки в житті М. К. Зерова / О. Филипович // Народне слово. — 1991. — 25 лип.

Алена БЕЛАЯ

# Станаўленне асобы Ф. А. Бельскага як вучонага-педагога

Калі б лёс быў больш літасцівы да гэтага чалавека, магчыма, ён мог бы быць і маім настаўнікам. Прафесар Фама Антонавіч Бельскі. Беларус. Руплівец на педагагічнай ніве Украіны. Не па сваёй волі безупынны вандроўнік. Чалавек сумлення, абавязку і гонару. Узіраюся ў аблічча на фотаздымку. Высокі лоб. Валявы абрыс вуснаў. Засяроджана ссунутыя бровы. Ва ўдумлівым позірку — глыбока схаваная журба. Спалучэнне напружанай думкі і стрыманага пачуцця. Партрэт чалавека і вучонага.

Часам кажуць, што інтэлігентам чалавек робіцца, маючы за плячыма тры ўніверсітэты: уласны, бацькі і дзеда. На жаль, не ўсё ў біяграфіі Ф. А. Бельскага вядома дакладна, акрамя, аднак, таго, што яго дзед, Сільвестр Бельскі, быў выпускніком Віленскага ўніверсітэта. Вылучаўся дапытлівасцю і веданнем некалькіх моў яго бацька Антон Бельскі, які «разам з маці па невядомых прычынах... прыехаў у Цімкавічы (былыя ўладанні князёў Радзівілаў), займаўся перш за ўсё сельскай гаспадаркай...» [6, с. 27].

У лёсе Фамы Бельскага яскрава адбіліся многія ўласцівыя часу і яго асяродку тэндэнцыі. На думку бацькі, адзіны сын у сям'і павінен быў застацца працаваць на зямлі. Аднак маці прытрымлівалася іншага меркавання. Паводле

ўспамінаў, Варвара Фамінічна Бельская марыла аддаць сына ў гімназію, каб ён змог потым атрымаць універсітэцкую адукацыю. Яе рашэнне пераважыла, у тым ліку і таму, што хлопчык у дзяцінстве цяжка хварэў, а слабае здароўе не гарантавала плённай працы ў сельскай гаспадарцы. Прагнозы вясковага фельчара ўвогуле былі далёкія ад аптымізму. Доля хлапчука складвалася паводле народнай думкі: ці не на доўгі век, ці будзе вялікі чалавек — што і спраўдзілася ў лепшы бок.

Фёдар Дастаеўскі пісаў, што прага адукацыі ёсць прага амаль арыстакратычная. Маці Фамы Антонавіча вылучалася не толькі прагрэсіўнымі поглядамі на будучыню свайго сына, а і надзвычайнай патрабавальнасцю да сябе ў розных жыццёвых варунках, што таксама ўласціва жанчыне шляхецкага саслоўя — і па духу, і па паходжанні. (І гэтую патрабавальнасць і годнасць пазней засведчыць неаднойчы сам Ф. А. Бельскі, цудоўна разумеючы ўласнае прызначэнне, як, да прыкладу, у сітуацыі, калі нават пасля цяжкай аперацыі ён не пагадзіўся пакінуць працу.)

Умовы выхавання ў сям'і, дзе шанаваліся кнігі, і грунтоўная адукацыя з'явіліся тым падмуркам, на якім адбывалася далейшае станаўленне і фарміраванне асобы вучонага-педагога. Калі чытаеш у біяграфічных матэрыялах згадку пра тое, што ў бацькоўскай хаце Фаму-падлетка «захаплялі сваімі ведамі адукаваныя госці-купцы» [6, с. 4], міжволі ўзнікае паралель з паходжаннем і дзяцінствам славутага Ф. Скарыны з Полацка: насуперак вульгарызаваным уяўленням пра купецтва, што склаліся і замацаваліся ў савецкі час, гэта менавіта той сацыяльны асяродак, у якім ад старадаўніх часоў былі запатрабаваны веды і шырокі погляд на свет, пры гэтым не толькі ў геаграфічным плане.

«Прафесар Бельскі менавіта з той інтэлігенцыі, якая ўсведамляла сваю кроўную знітаванасць з народам і аддала яму ўсе свае духоўныя сілы, творчую энергію, розум» [2, с. 3]. Так пісаў пляменнік вучонага, дырэктар Руднянскай васьмігадовай школы Анатоль Бельскі, адкрываючы нам на пачатку 1990-х гадоў забытае імя вучонага-педагога з Капыльшчыны. І гэта канстатацыя відавочнага, сутнаснага, галоўнага ў асобе Фамы Антонавіча Бельскага як інтэлігента і вучонага, у чым пераконвае азнаямленне з яго біяграфічнымі звесткамі і фактамі. Як і ўсе, хто ўступіў на дарогу дараслага,



самастойнага жыцця напярэдадні Першай сусветнай вайны, Ф. А. Бельскі не мог не быць уцягнены ў колаварот часу — трапіў на Каўказскі фронт. «Аднак пра тое, як ваяваў "за царя и отечество", ён у савецкі час не згадваў, бо падобныя звесткі маглі б яму каштаваць жыцця» [6, с. 5].

Дваццатыя гады XX стагоддзя, асабліва іх першая палова, характарызаваліся актыўнай рэалізацыяй нацыянальнай палітыкі ў рэспубліках СССР, што заканамерна стварала ўмовы для сацыяльнага аптымізму ў самых розных яго праявах. Аб'ектыўныя сацыякультурныя тэндэнцыі стымулявалі асабовую творчую актыўнасць. Менавіта ў 1920-я гады адбываецца станаўленне Ф. А. Бельскага як вучонага. Гэты перыяд яго жыцця і дзейнасці звязаны з Данеччынай, горадам Луганскам. У 1925 годзе яму было нададзена вучонае званне прафесара. Вынік дзейнасці прафесара Бельскага ў 1926—1927 гг. — больш за дзесяць навуковых артыкулаў. Публікацыі ў тагачаснай украінскай перыёдыцы мелі рознаскіраваны характар і ў цэлым вызначаліся тэарэтычнай, метадычнай і практычнай каштоўнасцю. Спецыфікай рэгіянальных педагагічных выданняў было асвятленне праблем адукацыі мясцовага ўзроўню, паведамленне пра розныя мерапрыемствы і захады ў адукацыйнай сферы, у тым ліку па павышэнні педагагічнай кваліфікацыі, арганізацыі асветы, дзейнасці навучальных устаноў, навуковых структур. Як паказвае тэматыка і праблематыка публікацый Ф. А. Бельскага, ён выявіў сябе не толькі актыўным суб'ектам педагагічнай навукі, а і яе глыбока кампетэнтным, удумлівым летапісцам. Побач з артыкуламі метадалагічнага характару з'яўляецца і шэраг інфармацыйных, якія маюць несумненную значнасць для гісторыкаў педагагічнай навукі і адукацыі: «Вынікі працы за год Луганскай секцыі навуковых работнікаў» (1926), «Два гады існавання Луганскай секцыі навуковых работнікаў» (1927) і інш. Лейтматывам праходзіць думка пра неабходнасць вывучэння рэгіёна не толькі як адміністрацыйна-эканамічнай адзінкі, а і як гісторыка-культурнай каштоўнасці. Так, у артыкуле «Мінулае нашага краю» (1928) ставіцца праблема «педагагічнага значэння краязнаўчай работы для выхавання ў вучняў любові да роднага краю» [6, с. 22]. Не толькі на тэарэтычным узроўні, але і сваёй практычнай дзейнасцю прафесар Бельскі настойліва, пераканальна

зацвярджаў думку пра тое, што стварэнне і асваенне культуры — гэта агульныя функцыі цэласнай супольнасці дзяцей і дарослых.

Папулярны на той час прынцып сувязі навучання з жыццём у прафесійнай падрыхтоўцы будучых настаўнікаў разглядаецца Ф. А. Бельскім не фармальна, пра што сведчаць артыкулы «Навукова-педагагічныя экскурсіі Данецкага інстытута народнай адукацыі» (1924), «Педагагічны музей, яго арганізацыя і культурна-асветная дзейнасць» (1926). Усведамленне таго, што прафесія настаўніка — адна з першых па сваёй гуманістычнай значнасці, рухала да асэнсавання педмузея як «гістарыёграфа асветы» ў пэўным населеным пункце ці рэгіёне.

Адной з дамінантных пазіцый у навуковай спадчыне Ф. А. Бельскага з'яўляецца праблема інавацыйнай арганізацыі навуковай працы — праз яе выхад за межы спецыяльных даследчых устаноў і стварэнне навуковых таварыстваў, якія «аб'ядноўваюць навуковых і практычных работнікаў розных галін вытворчасці» [6, с. 19]. Такая стратэгія дыктавалася, на думку вучонага, развіццём вытворчых сіл у Данбасе і ў цэлым у краіне. У 1927—1928 гг. выходзяць з друку тры артыкулы прафесара Бельскага з аналізам працэсу ўзнікнення і развіцця «Навуковага таварыства на Данеччыне» (НТД), якое арганізацыйна аформілася ў 1926 г. Ён адзначае дасягненні ў працы НТД, не абмінае цяжкасці і паказвае шляхі іх пераадолення.

У шэрагу публікацый, прысвечаных прафесару Ф. А. Бельскаму, прысутнічаюць звесткі пра тое, што ў канцы 1920-х гг. ён павінен быў паехаць у Германію, у творчую камандзіроўку, каб вывучыць замежны педагагічны вопыт. Ужо гэты факт гаворыць пра яго высокі статус у навуковым асяродку Данецкага інстытута народнай адукацыі і Луганска ў цэлым. Паездка за мяжу — на жаль ці на шчасце — не адбылася. Як цяпер вядома, многія з тых, хто пабываў у Германіі, пазней, у гады сталінскіх рэпрэсій, былі арыштаваны як «агенты нямецкай разведкі». Як заўважана яшчэ старадаўнімі мудрацамі, «побач з маёй вяршыняй строма мая расце». Пра гэта ж сказаў і У. Караткевіч: «У вяршыні самых вялікіх дрэў маланка заўсёды б'е...» У архіве Луганскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі захавалася машынапісная заява вучонага з просьбай даць яму трохмесячную камандзіроўку ў Германію. Гэты дакумент з дапамогай загадчыцы архіва В. М. Харунжай і ўводзіцца намі ўпершыню ў навуковы ўжытак.

Засяродзім увагу на асноўных момантах у заяве Ф. А. Бельскага (далей яна цытуецца ў нашым перакладзе ў адпаведнасці са зместам арыгінала).

На пачатку заяўнік канстатуе, што задачы культурнага будаўніцтва і адукацыі ў СССР патрабуюць вывучэння і выкарыстання ва ўмовах савецкай школы сучасных набыткаў педагагічнай думкі, як тэарэтычных, так і практычных. Ф. А. Бельскі выказвае думку, што перадавой у гэтых адносінах краінай Еўрапейскага кантынента з'яўляецца Нямеччына. Таму перш за ўсё, лічыць прафесар, трэба вывучаць вопыт нямецкіх вучоных-педагогаў, каб скарыстаць яго ў дзейнасці савецкіх школьных устаноў, ад ВНУ да дзіцячых садкоў. «Для вывучэння дасягненняў навуковай педагогікі... — піша ў сваёй заяве Фама Антонавіч, — прашу даць мне навуковую камандзіроўку ў Нямеччыну з 15.VI да 15.IX.1928, дзе я на працягу трох месяцаў буду вывучаць пытанні эксперыментальнай дыдактыкі ў праф. Лая, педтэхнікі і псіхатэхнікі, эксперыментальнай педагогікі ў праф. Шульцэ. Акрамя таго, для азнаямлення з педагагічнаю практыкаю маю на мэце наведаць вядомыя школы Нямеччыны... паказальныя дзіцячыя садкі, пляцоўкі і да т. п. У часе знаходжання за мяжой збіраюся вывучыць наступныя праблемы:

1) Арганізацыя заняткаў у школах розных тыпаў.
2) Віды і кантроль вывучэння вучэбнага матэрыялу.
3) Тэсціраванне і яго вынікі.
4) Комплексная сістэма за мяжой.
5) Прафесійны склад і адбор сярэдняй і вышэйшай школы.
6) Адоранасць і метады яе даследавання.
7) Вучэбныя планы і праграмы педВНУ і народных школ.
8) Сучасны стан народнай адукацыі ў Нямеччыне» [1].

Акрамя таго, Ф. А. Бельскі планаваў азнаёміцца з вопытам нямецкіх школьных устаноў у матэрыяльных і гаспадарчых адносінах. Вынікі сваёй працы ён меўся скіраваць на «паляпшэнне пастаноўкі педагагічнай працы» [1] перш за ўсё ў навуковых і навучальных установах свайго рэгіёна.

З гэтай жа мэтай прафесар Бельскі збіраўся прачытаць шэраг лекцый на розныя тэмы «педагагічнага жыцця», надрукаваць «некалькі артыкулаў па педагагічных пытаннях» [1]. У заяве таксама ёсць інфармацыя арганізацыйнага характару: заўвага пра ўзгадненне дазволу на выезд з нямецкім консулам у Харкаве і ўласнаручная прыпіска заяўніка: «Паколькі паездка за мяжу каштуе вельмі дорага, прашу выдаткаваць мне грашовую дапамогу ў памеры 150 карбаванцаў» [1].

Знаёмства са згаданым дакументам, які дайшоў да нас ад самага пярэдадня рэпрэсій, выклікае надзвычай складаныя пачуцці: хваляванне ад далучанасці да той эпохі праз пажаўцелыя старонкі заявы, глыбокую павагу да руплівага і адказнага, неабыякавага чалавека, якім паўстае ў сваіх грамадзянскіх клопатах заяўнік. Здзіўленне: нават праз такое віртуальнае знаёмства адчуваецца фенаменальная здольнасць, уменне ўладальніка навуковых ведаў, прафесійнага і жыццёвага вопыту не страціць аблічча нават за канонамі афіцыйнага стылю. І горыч: колькі талентаў звялося… І аптымізм: напісанае застаецца! І палёгку, што гэты дакумент не стварыў, як у многіх і многіх вядомых сёння выпадках, падставы для якога-небудзь абсурдна-трагічнага абвінавачвання… Хоць ужо толькі адна храналогія жыцця прафесара Бельскага дае ўяўленне аб тым, у якіх няпростых умовах рэалізоўваў вучоны свае даследчыцкія і педагагічныя памкненні ды задачы. Складанасць грамадска-палітычных абставін і звязаны з гэтым маральна-псіхалагічны дыскамфорт, пэўна, сталі найбольш важкімі прычынамі яго заўчаснага сыходу з жыцця.

Тое, што Ф. А. Бельскі скончыў у Слуцку гімназію і атрымаў у Кіеўскім універсітэце грунтоўную філалагічную адукацыю, было адной з умоў гуманітарнасці яго навуковага мыслення. Ён цудоўна ўсведамляў значнасць падтрымкі таленту, працы па развіцці творчых здольнасцей дзяцей. Яшчэ ў Златапальскай гімназіі Бельскі выкладаў прыгожую славеснасць, праводзіў заняткі па мастацкай дэкламацыі, а таксама арганізаваў літаратурны гурток, дзе рыхтаваліся інсцэніроўкі і ставіліся п’есы. З першых крокаў сваёй педагагічнай дзейнасці Фама Антонавіч выявіўся творчым педагогам, уважлівым да дзіцячай індывідуальнасці, не шкадаваў уласных сіл і часу для адораных навучэнцаў. Гэта, паводле згадак



А. П. Філіповіча, Т. П. Яталь і іншых, выклікала павагу вучняў і бацькоў, няўхільна павялічвала аўтарытэт маладога выкладчыка.

Самай першай публікацыяй Ф. А. Бельскага стаў артыкул паводле яго выступлення на Усерасійскім з’ездзе выкладчыкаў рускай мовы і славеснасці «Аб вывучэнні крытыкі» (1917), дзе выкладаюцца асновы методыкі ўключэння крытычных артыкулаў у кантэкст вывучэння твораў рускай класічнай літаратуры. Пачынаючы з гэтай друкаванай працы ён і далей клапаціўся пра арганізацыю і практычнае забеспячэнне адукацыйнага працэсу. Больш за тое, ён досыць эфектыўна распрацоўваў канцэпцыю развіццёвага навучання, імкнучыся даць выкладчыку канкрэтныя метадычныя рэкамендацыі і парады. У анатацыі да артыкула «Да пытання аб рэжыме эканоміі пры арганізацыі школьнай працы» (1926) Фама Антонавіч адразу зазначае, што гэта, канечне ж, пытанне не пра грашовыя зберажэнні, а пра навуковую арганізацыю і рацыяналізацыю педагагічнай працы «ў канкрэтных умовах жыцця», якія ў максімальнай ступені павінны спрыяць «правільнаму выкарыстанню энергіі і ўвагі вучняў на ўроках», а таксама аптымальнаму спалучэнню вучэбнай дзейнасці з «разумнымі забавамі і адпачынкам» [6, с. 22].

Фармальна пачаткам нягод для сям’і Бельскіх лічыцца «няўдалае», па словах самога Фамы Антонавіча, выступленне на вучоным савеце Херсонскага інстытута народнай адукацыі аб метадзе політэхнізацыі. Але аналіз яго навукова-педагагічных поглядаў сведчыць пра больш небяспечнае для тагачаснай сістэмы «іншадумства» вучонага, больш глыбокую светапоглядную супярэчнасць, якую маглі разгледзець пільныя ідэолагі і ахоўнікі тагачаснай дзяржаўнай сістэмы: ён быў і заставаўся прыхільнікам варыятыўнага падыходу ў навучанні, які прадугледжвае разнастайнасць школьных устаноў і магчымасць іх выбару, існавання элітарнай адукацыі як асаблівага тыпу і асяродку навучання, які забяспечвае атрыманне высокага ўзроўню ведаў і адпаведнага выхавання юных талентаў. Ураўноўванне, аднатыпная рэгламентацыя і масавая стандартызацыя, якія прадугледжвалі супадзенне мэт, думак, ладу жыцця, устаноўка на ўсярэдненасць хутка запанавалі ў адукацыйнай палітыцы савецкага часу. У артыкулах «Арганізацыя школ для адораных дзяцей» (1927),

«Арганізацыя школ для звышадораных навучэнцаў» (1927) прафесар Ф. А. Бельскі выступаў супраць асабовай уніфікацыі, выказваў думку аб тым, што «зусім магчыма» стварэнне асаблівых школ для дзяцей, якія вылучаюцца «багаццем псіхічных працэсаў і поспехамі ў засваенні ведаў» [6, с. 21]. Але ў савецкім грамадстве ўжо пачынала ўсталёўвацца пагрозлівае перакананне ў перавазе народа над элітай. Між тым, у адэкватным разуменні эліта — гэта супольнасць прадстаўнікоў грамадства, найбольш выбітная па светапоглядзе, ведах, адукацыі, творчых здольнасцях. Вучоны-педагог разумеў, што пазбаўленае эліты грамадства асуджана на застой і хуткую пагібель. Гэтаму дэструктыўнаму стану ён проціпастаўляе паняцце «культурная рэвалюцыя» і выказвае надзвычай актуальную і сёння думку пра тое, што паскорыць ажыццяўленне «культурнай рэвалюцыі» дапамогуць менавіта адораныя людзі, якія ўжо ў школе атрымаюць «стымулы развіцця сваіх асаблівых талентаў» [6, с. 21]. Трэба толькі прадумаць адпаведную методыку і падабраць добрых настаўнікаў, якія здолелі б рэалізаваць не толькі «ўтылітарную» і «сацыяльную», але і «ідэальную» задачу — «выклікаць да жыцця ўсё найлепшае, найкаштоўнейшае, што ёсць у прыродзе чалавека, дзіцяці», для таго каб узвесці яго з ніжэйшага, недасканалага стану да вышэйшага, дасканалага, узняць «на культурную вышыню» [4, с. 4—5].

Сярод актуальных праблем, якія асэнсоўваў прафесар Ф. А. Бельскі, вылучалася пытанне аб прафесійнай падрыхтоўцы і ўдасканаленні педагагічнай дзейнасці настаўніка. Гэтае пытанне было прадстаўлена ў шэрагу педагагічных канцэпцый 1920—1930-х гадоў, у тым ліку і ў працах Ф. А. Бельскага. Вучоны меў свой погляд на тое, як забяспечыць прафесійны рост педагогаў, развіццё іх патэнцыялу і майстэрства, пры гэтым ён аддаваў перавагу творчаму падыходу да вырашэння метадычных і выхаваўчых задач. Дбаючы пра ўдасканаленне прафесійнай кампетэнтнасці настаўніцтва, Ф. А. Бельскі лічыў аб'ектыўна неабходнай арганізацыю «семінараў павышанага тыпу», аб чым гаворыцца ў аднайменным артыкуле, апублікаваным у 1927 годзе. Але не адмаўляў ён і ролі суб'ектнасці ў павышэнні адукацыйнага ўзроўню сваіх калег, што знайшло адлюстраванне ў змесце артыкула «Мэтанакіраванасць у самаадукацыі настаўніцтва»



(1927). Як і іншыя яго сучаснікі, вучоны-педагог акцэнтаваў увагу на атрыманні настаўнікамі грунтоўнай агульнай адукацыі, спецыяльных ведаў пра псіхафізічнае развіццё дзіцяці і ўмовы яго фарміравання.

Фама Антонавіч Бельскі «быў перакананы, што настаўнік — аснова ўсіх пачаткаў, чалавек, які ўласным прыкладам і ведамі здольны выхаваць патрыятычную і глыбока культурную, інтэлектуальную асобу» [6, с. 7], бачыў у педагогу дзейсны ўзор грамадзянскасці. Вядомы факт: перамогу ў Другой сусветнай вайне забяспечыла не толькі магутнасць савецкай зброі, але і маральны дух чалавека, яго трываласць і нязломнасць. А ў гэтым вялікая заслуга і тагачаснай даваеннай школы, якая здолела выхаваць Патрыёта і Грамадзяніна. У артыкуле «Фронту культуры і асветы патрэбны высокакваліфікаваныя кадры настаўнікаў», напісаным у 1943 годзе, прафесар Бельскі якраз і даводзіць выключную значнасць культуры і адукацыі для грамадства. Разам з тым ён прыводзіць прыклады мужнасці, адвагі, геройства настаўнікаў у барацьбе з фашыстамі на фронце і ў тыле ворага.

Педагагічным крэда Ф. А. Бельскага можа служыць наступны тэзіс К. Д. Ушынскага: калі педагогіка хоча выхаваць чалавека ва ўсіх адносінах, то і ведаць яго яна павінна ва ўсіх адносінах. Постаці вялікага педагога ва ўсёй яе агульначалавечай значнасці прафесар Бельскі прысвяціў артыкул, напісаны ў 1946 годзе. Праз амаль усе яго працы праходзіць думка пра неабходнасць вывучэння вучнёўскіх здольнасцей, пра сістэматычнае назіранне і эксперымент, у прыватнасці, у аспекце выяўлення арганізатараў з лідарскімі якасцямі ў школьных групах навучэнцаў. У артыкуле «Выяўленне арганізатараў у групе і вызначэнне арганізаванасці групы» (1928), аналізуючы ход эксперыменту па вывучэнні вучнёўскага самакіравання, ён засцерагаў: «Канстатуючы, што стыхійна вылучаюцца падчас правядзення эксперыменту нароўні з арганізатарамі і дэзарганізатары, мы спрабуем адрозніць першых ад другіх, хоць яны шмат у якіх адносінах маюць агульныя характэрныя рысы». Вучоны-педагог спадзяваўся, што эксперымент паспрыяе знікненню ў тагачасных школах прыкрых з'яў, калі часам «верхаводзяць асобы не з добрымі арганізатарскімі ўменнямі, а з пасрэднымі, ці часам і дэзарганізатары» [3, с. 56—57]. Цікавай і сучаснай

падаецца думка аб тым, што якасць сацыяльных навыкаў, сацыяльная актыўнасць «не знаходзіцца ў непасрэднай залежнасці ад узроўню адукацыі, а абумоўлена ўплывам іншых фактараў» [6, с. 23].

Цікавілі Ф. А. Бельскага рэальная асоба настаўніка і яго прафесійныя, маральныя, духоўныя якасці. Высновы аб педагагічным абліччы савецкага настаўніка зроблены вучоным на аснове матэрыялаў даследчай, вопытнай працы, аналізу яе вынікаў і абагульненняў. У аснову артыкула «Педагагічны воблік савецкага настаўніка» (1931) быў пакладзены эксперымент, праведзены ў 19 школах Херсоншчыны.

Сучасная педагогіка і прыватныя методыкі апелююць да многіх тагачасных набыткаў тэорыі і практыкі выхавання і навучання. Працуючы ў рэчышчы сучасных яму тэндэнцый, Ф. А. Бельскі разумеў меру так званай інфармацыйнай адказнасці, як даследчык крытычна ацэньваў дыдактычныя магчымасці прапанаваных падыходаў, чым можа служыць яго пазіцыя адносна метаду політэхнізацыі ці распаўсюджанага на той час тэсціравання. У артыкуле «Тэсціраванне і ацэнка паспяховасці навучэнцаў» (1926) ён разглядае тэст, з аднаго боку, як «адзін са спосабаў уліку засваення адукацыйнага матэрыялу кожным студэнтам», а з другога — ставіць задачу «дыферэнцаванага ўліку паспяховасці навучэнцаў у вышэйшай школе...» [6, с. 18].

Шырокі погляд на свет і грамадства — наколькі ён мог выявіцца ў педагагічных працах у той час — не выключаў цікавасці і ўвагі вучонага да канкрэтна-практычных, прыватных пытанняў навучання ў сярэдняй школе і ВНУ: ці то гэта было пытанне пра авалоданне тэхнікай вылічэнняў, ці пра арганізацыю падрыхтоўкі да заліковай сесіі, ці наладжванне студэнцкай педагагічнай практыкі. Безумоўна, не абыходзілася і без пэўнай ідэалагічнай заангажаванасці: у артыкуле Ф. А. Бельскага пра методыку арганізацыі педагагічнай практыкі «падкрэсліваецца неабходнасць... спалучэння выкладання студэнтамі асобных дысцыплін... з правядзеннем палітыка-асветнай працы сярод насельніцтва і бацькоў навучэнцаў» [6, с. 25]. Як сказаў класік, быў час, быў век, была эпоха...

Людзі, што блізка ведалі прафесара Ф. А. Бельскага, кантактавалі з ім ці вывучалі яго дзейнасць па архіўных матэрыялах



(А. П. Філіповіч, Т. П. Яталь, У. Д. Зянько, Т. Ю. Анпілогава і інш.), адзначалі такія яго асабовыя дамінанты, як прынцыповасць і патрабавальнасць, што, у сваю чаргу, спалучаліся з душэўнай далікатнасцю ў адносінах да людзей. Гэта і дало падставы для наступнага абагульнення: «...Па прызванні ён быў апантаным педагогам, выдатным лектарам, улюбёным у студэнцтва, свой прадмет» [6, с. 8]. Фама Антонавіч пакінуў пасля сябе не толькі навуковую спадчыну, але і ўдзячную памяць, якая адгукнулася ва ўспамінах былых вучняў і студэнтаў. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што як выкладчык і лектар ён быў прафесіяналам самага высокага ўзроўню, умеў стварыць у аўдыторыі камунікатыўную прастору, такі сацыяльна-асабовы кантэкст, у межах якога лягчэй арыентавацца, разумець сябе і іншых, выносіць свой каштоўнасна матываваны «вердыкт» таму, што спазнаеш і што адбываецца.

Прафесар Ф. А. Бельскі — педагог і вучоны ў адной асобе. Яго прафесійнае станаўленне адбывалася паспяхова менавіта па той прычыне, што ён арганічна спалучаў у сваёй дзейнасці гэтыя дзве ролі, дзве функцыі: педагагічную і даследчую, выступаючы перад студэнтамі і як вучоны, што непасрэдна займаецца навукай, і як выкладчык, што перадае атрыманыя навукова-педагагічныя веды. Сёння такая дзейнасць у вышэйшай школе разглядаецца як надзвычай плённая і перспектыўная: «У вышэйшай адукацыі надзвычай важным з'яўляецца навуковы складнік, належны ўзровень якога закліканы забяспечыць падрыхтоўку навукова-педагагічных кадраў, сумяшчаючы вучэбна-выхаваўчы працэс з навуковай дзейнасцю» [5, с. 9].

Сфера навуковых зацікаўленняў Ф. А. Бельскага ў псіхолага-педагагічнай сферы была шматаспектнай: тэорыя і гісторыя педагогікі, развіццё і рэалізацыя творчых здольнасцей дзяцей у асобных школах, арганізацыя навуковай працы, педагагічнае забеспячэнне вучэбнага працэсу, роля краязнаўства ў выхаванні асобы, фарміраванне маральнай культуры старшакласнікаў і інш. Прафесар Бельскі быў вучоным-даследчыкам шырокага дыяпазону з featнабаковымі інтарэсамі. Сваімі працамі ён пазначаў наватарскія тэндэнцыі ў развіцці педагагічнай навукі 1920 — пачатку 1930-х гг.

**Літаратура**

1. Архіў Луганскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі. — Ф. Р-416. — Воп. 1-л. — Адз. зах. 26. — С. 111, 111зв.

2. *Бельскі, А.* «З усімі правамі і перавагамі...» / А. Бельскі // Настаўн. газ. — 1991. — 30 студз.

3. *Бєльський, Ф.* Виявлення організаторів у групі та вимірювання організованості групи / Ф. Бєльський // Праці наукового товариства на Донеччині: наук. зб. — Луганськ, 1928. — Т. 1. — С. 39—57.

4. *Бєльский, Ф.* Педагогіка як наука: (до питання про методологію педагогіки) / Ф. Бєльський. — Луганськ, 1929. — 16 с.

5. *Кремень, В. Г.* Освіта і наука в України — інноваційні аспекти: Стратегія. Реалізація. Результати / В. Г. Кремень. — Київ: Грамота, 2005. — 448 с.

6. Прафесар Фама Антонавіч Бельскі = Профессор Фома Антонович Бельский / уклад. А. І. Бельскі. — Мінск: Энцыклапедыкс, 2002. — 38 с.

Алесь БЕЛЬСКІ, Яўген БЕЛЬСКІ

# Прафесар Ф. А. Бельскі як адзін з пачынальнікаў краязнаўчага руху на Луганшчыне (дзейнасць і погляды)

Сёння назіраецца адраджэнне цікавасці да гісторыі свайго роду, роднага кутка, пэўнага рэгіёна, зямлі бацькоў і продкаў. Рэгіяналізацыя — пазнанне сябе ў далучанасці да мінулага радзімы, яе традыцый і духоўнай спадчыны — тэндэнцыя, характэрная для літаратурнай адукацыі як у сучаснай Беларусі, так і ва Украіне. Відавочна, ёсць патрэба ў ведах пра гісторыю і культуру роднага краю, той мясцовасці, дзе мы «нарадзіліся і ўскормлены з ласкі Божай» [5, с. 45]. Краязнаўства ад самага свайго пачатку дапамагала прайсці школу радзімазнаўства, закладвала глыбокія асновы індывідуальнай памяці.



У Беларусі і ва Украіне на хвалі духоўна-культурнага адраджэння ў 20-я гады мінулага стагоддзя асабліва актыўна адбывалася станаўленне і развіццё краязнаўчага руху. Тады быў напрацаваны значны навукова-практычны вопыт, які вымагае далейшага паглыбленага вывучэння. Так, у даследаванні І. М. Ключневай «Краязнаўства на Луганшчыне (20—30-я гг.)» гаворыцца, што 1920-я гады — «зорны час для краязнаўцаў Украіны», тады «ў многіх гарадах і вёсках былі створаны і актыўна дзейнічалі цэнтры па даследаванні гісторыка-культурных і прыродных багаццяў роднага краю», «былі распрацаваны... асновы гісторыка-краязнаўчай дзейнасці, вызначаны асноўныя напрамкі работы» [3].

У працытаваным артыкуле называецца імя Фамы Антонавіча Бельскага, аднаго з пачынальнікаў краязнаўчага руху на Данеччыне. Ён прычыніўся да працы на культурнай ніве братняга народа, стаў актыўным арганізатарам сістэмнай навуковай краязнаўчай працы ў гэтым буйным рэгіёне Украіны.

Нарадзіўся Ф. Бельскі 31 кастрычніка 1890 года ў мястэчку Цімкавічы (цяпер Капыльскі раён) [гл.: 1, с. 350—351]. Бацька Фамы вёў гандаль і лічыўся выдатным майстрам-ткачом, быў сынам выпускніка Віленскага ўніверсітэта і Ганаровага грамадзяніна Расійскай імперыі Сільвестра Бельскага. З дзяцінства Фама шмат чытаў, у сям'і мелася багата кніг. Яго захапіла гісторыя тутэйшых мясцін: неаднойчы ён падыходзіў да царкоўнай брамы-званіцы і цаглянай капліцы ў гонар адмены прыгоннага права на вуліцы Нясвіжскай, захапляўся роспісамі мастака Францішка Бруздовіча ў касцёле св. Міхаіла Архангела, часта хадзіў у Бушылава, да святой крынічкі, наведваўся ў маёнтак Савічы — радавое гняздо Вайніловічаў, дзе існавала вялікая бібліятэка. Ён, паводле згадак сваякоў, вандраваў і занатоўваў свае ўражанні, пачутае ад людзей. Цікавасць да жыцця, побыту і мінулага краю ўзмацнілася падчас вучобы ў славутай Слуцкай гімназіі (1902—1909), там адбылося знаёмства з «Живописной Россией» і іншымі выданнямі па этнаграфіі, фальклоры, культуры.

Фама Бельскі закончыў Слуцкую гімназію са срэбным медалём і паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта (тады Імператарскага ўніверсітэта св. Уладзіміра). Пасля заканчэння гэтай установы (1913) ён злучыў

свой лёс з Украінай. Амаль дзесяць гадоў настаўнічаў у гімназіях былой Кіеўскай губерні. Самы плённы перыяд яго творчай дзейнасці прыпаў на другую палову 1920-х гадоў, калі Ф. А. Бельскі працаваў прафесарам Данецкага інстытута народнай адукацыі (г. Луганск). Ён далучыўся да працы Сацыяльнага музея Данбаса, удзельнічаў у працы яго навуковага савета, пра што паведамляе «Луганская правда» 22 мая 1928 года: «На пасяджэнні будзе прачытаны шэраг дакладаў навуковымі супрацоўнікамі музея і прадстаўнікамі навуковых таварыстваў і арганізацый. С. А. Локцюшаў зробіць даклад “Помнікі матэрыяльнай культуры і іх ахова”, Ф. А. Бельскі — даклад “Навуковае таварыства Данбаса, яго мэты і задачы”...»

Разам з С. Локцюшавым, С. Грушэўскім, У. Бураўцовым і іншымі вучонымі ён уключыўся ў працу па стварэнні «Навуковага таварыства на Данеччыне». «Пачало сваю дзейнасць як канчаткова сфарміраваная арганізацыя 20 верасня 1926 года. Важкі ўклад ў арганізацыю таварыства зрабілі праф. Ф. А. Бельскі, С. Р. Грушэўскі» [3], — адзначае І. М. Ключнева. Таварыства мела на мэце зрабіцца «адзіным культурна-аб’ядноўваючым навуковыя сілы цэнтрам Данбаса» і скіравалася ў сваёй дзейнасці на вывучэнне матэрыяльнай і духоўнай культуры рэгіёна [2, с. 90]. Уражвае зробленае за кароткі час: за паўтара года дзейнасці гэтай арганізацыі было надрукавана 45 артыкулаў. Таварыства наладзіла актыўнае супрацоўніцтва з Усеўкраінскай акадэміяй навук (ВУАН) і тагачаснымі дзяржаўнымі ўстановамі. Плённа працавалі секцыі: археалагічная, педагагічная, сацыяльна-гістарычная, украіназнаўчая, прыродазнаўчая і інш. Савет таварыства ў 1928 годзе складаўся з васьмі вучоных, у склад яго ўваходзіў прафесар Ф. А. Бельскі (сакратар). Ён удзельнічаў у працы педагагічнай і ўкраіназнаўчай секцый, толькі ў 1927 годзе выступіў з шасцю дакладамі: «Арганізацыя школ для звышадораных», «Школьнае самакіраванне і вымярэнне арганізаванасці школьных калектываў» і інш. Прафесар Бельскі быў летапісцам навуковай і краязнаўчай працы таварыства, сведчаннем таму — яго артыкулы «Да пытання пра арганізацыю Навуковага таварыства на Данеччыне», «З гісторыі дзейнасці навуковага таварыства на Данеччыне». У артыкуле «Мінулае нашага краю», надрукаваным



ў часопісе «Радянська школа» (1928, № 5), ён выказвае думку, якая не страціла сваёй актуальнасці, а менавіта гаворыць пра «неабходнасць весці... вывучэнне звестак краязнаўчага характару», уздымае «пытанне аб педагагічным значэнні краязнаўчай працы для выхавання ў вучняў любові да роднага краю» [4, с. 22].

Прафесар Ф. А. Бельскі асабліва значэнне надаваў музейнай справе. Ён быў адным з актыўных арганізатараў і першым загадчыкам педагагічнага музея пры Данецкім інстытуце народнай адукацыі. У 1926 годзе прафесар Бельскі надрукаваў артыкул «Педагагічны музей, яго арганізацыя і культурна-асветная дзейнасць» (1926). Ён абгрунтаваў неабходнасць стварэння музеяў такога тыпу для настаўнікаў, вучняў і «любога грамадзяніна, які цікавіцца пытаннямі выхавання, адукацыі, навучання» [4, с. 18], распрацаваў прынцыпы адбору экспанатаў і методыку іх дэманстрацыі з улікам інтарэсаў наведвальнікаў. Ф. А. Бельскі востра разумеў неабходнасць асветніцкай дзейнасці ў грамадстве і шырокай папулярызацыі ведаў пра родны край, бо быў прыхільнікам так званай культурнай рэвалюцыі. Ён лічыў, што без глыбокай прыналежнасці да Радзімы, яе мінулага і культуры немагчыма выхаваць сапраўдную асобу.

Фама Антонавіч Бельскі знаходзіўся ля вытокаў станаўлення адукацыі і педагагічнай навукі ў Данбасе. Сваімі даследаваннямі вучоны па сутнасці ствараў яе гісторыю, імкнуўся забяспечыць навуковымі распрацоўкамі дзейнасць сярэдняй і вышэйшай школы. Ён ва ўмовах арыентацыі на працоўна-прафесійную адукацыю ўздымаў праблему стварэння асобных школ для таленавітых дзяцей, вывучаў здольнасці розных груп школьнікаў, развіццё асобы, аналізаваў станоўчыя і негатыўныя бакі ў школьным самакіраванні, клапаціўся аб прафесійным і культурным узроўні настаўніка, неаднойчы выказваў рацыянальныя думкі пра арганізацыю працэсу навучання і выхавання, маральнае ўдасканаленне асобы вучня і педагога [4, с. 17—25]. Педагагічная секцыя «Навуковага таварыства на Данеччыне» дзякуючы найперш прафесару Ф. А. Бельскаму вяла актыўную даследчыцкую дзейнасць, якая мела інавацыйную скіраванасць як у галіне тэорыі, так і ў галіне практыкі. Асобныя палажэнні, назіранні і высновы са спадчыны вучонага 1920-х гг.,

актуальныя і сёння, былі рэалізаваны на розных этапах развіцця адукацыі ва Украіне і ў Беларусі: стварэнне навучальных устаноў новага тыпу — ліцэяў і гімназій, ідэя школьнага самакіравання і інш.

У сэрцы Фамы Антонавіча ніколі не слабела лучнасць з Беларуссю. Напярэдадні рэпрэсій у грамадстве ён непрацяглы час працаваў у Магілёўскім пединстытуце, загадваў кафедрай педагогікі і псіхалогіі (1935—1936). Часта ліставаў сваякам, зрэдку прыязджаў у родныя Цімкавічы. Тут пахаваны яго бацькі, сюды марыў прыехаць пасля вайны. Апрача Украіны, Ф. А. Бельскі жыў і працаваў у Расіі, ва Узбекістане, але родны край для яго заўсёды заставаўся самай дарагой і незабыўнай мясцінай.

**Літаратура**

1. Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. — Мінск: БелЭн, 2004. — Т. 18. — Кн. 1: Дадатак: Шчытнікі — ЯЯ. — 472 с.

2. *Бєльський, Ф.* До питання про організацію Наукового товариства на Донеччині / Ф. Бєльський // Праці Наукового товариства на Донеччині. — Луганськ, 1928. — Т. 1. — С. 90—94.

3. *Ключнева, И. Н.* Краеведение на Луганщине (20—30-е гг.) / И. Н. Ключнева. — [Электронный ресурс]. — Режим доступа: www.library.lg.ua/.../izdaniya_materiali.php?...- — Дата доступа: 26.03.2008.

4. Прафесар Фама Антонавіч Бельскі: бібліягр. паказальнік = Профессор Фома Антонович Бельский: библиогр. указатель / уклад. А. І. Бельскі. — Мінск: Энцыклапедыкс, 2002. — 40 с.

5. *Скарына, Ф.* Творы: прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія / Ф. Скарына; уступ. арт., падрыхт. тэкстаў, камент., слоўнік А. Ф. Коршунава. — Мінск: Навука і тэхніка, 1990. — 206 с.

Тетяна АНПІЛОГОВА

# Роль Ф. А. Бєльського у розвитку народної освіти та науки на Луганщині

Двадцяті роки XX ст. стали періодом справжнього культурного піднесення в Радянській Україні. Бурхливий розвиток культури й освіти, зокрема, був обумовлений цілим комплексом різноманітних причин. По-перше, цьому сприяла розпочата «згори» в 1923 році політика «українізації», яка стала одним із проявів загальносоюзної «коренізації». По-друге, потреба державної влади у швидкому відновленні зруйнованого революційними подіями народного господарства вимагала кардинальних змін у сфері освіти. На це була націлена політика ліквідації неписьменності та формування нової пролетарської інтелігенції, що було неможливим без реформування системи освітніх закладів і збільшення їх кількості. По-третє, іще непевна у своїх позиціях більшовицька влада розуміла, що миттєва культурна уніфікація й асиміляційні заходи можуть налаштувати проти неї широкі верстви населення й, у тому числі, стару інтелігенцію, без якої поки що обійтися не могла. Тому відносно вільні умови, в яких протікав розвиток культури й науки в Україні в ці роки, обумовлювали ту культурну поліфонію й свободу творчості, що сприяла новому етапу культурно-національного відродження.

Цей процес не оминув і регіон Луганщини, який здавна вважався «колискою пролетаріату» й, здавалося б, ніяк не міг стати центром культурного життя. Проте, завдяки зусиллям цілої когорти педагогів, учених-ентузіастів і провінційних аматорів, саме в 20-і роки тут було сконцентровано значний інтелектуальний потенціал усього Донбасу.

Вагомий внесок у розвиток освіти і науки на Луганщині здійснив відомий в Україні та поза її межами філолог, педагог, краєзнавець Фома Антонович Бєльський. З 1923 по 1929 рік професор Ф. А. Бєльський працював у Донецькому

інституті народної освіти (ДІНО) — першому вищому навчальному закладі Донбасу, що відкрився у 1923 році й об'єднав у своїх стінах освіту і науку [1].

У ДІНО працювали такі видатні українські вчені, як С. Г. Грушевський, Є. А. Равич-Щербо, С. О. Локтюшев та інші, які усіма силами намагалися здійснити мрію багатьох викладачів-науковців — відкрити дослідницьку кафедру в Луганську. У червні 1926 року на засіданнях правління інституту почалось обговорення питання, пов'язаного з утворенням при ДІНО краєзнавчої науково-дослідної кафедри Донбасознавства. 22 червня відбулося засідання оргкомітету із заснування кафедри, а 30 червня вже була складена доповідна записка до Укрголовнауки Наркомату освіти УСРР про її відкриття. Передбачалось заснування кафедри у складі таких секцій:

1. Секція соціально-історична (керівник — проректор ДІНО, професор С. Г. Грушевський), при якій мають діяти підсекції: археологічна (вчений-археолог С. О. Локтюшев) і підсекція освіти та культурної праці на Донбасі (професор Ф. А. Бєльський).

2. Секція вивчення природних багатств Донбасу (керівник — професор Є. А. Равич-Щербо).

3. Секція вивчення промисловості та електрифікації Донбасу (керівник — інженер, професор В. С. Буравцов) [2; 3].

31 липня 1926 року засідання президії Укрнауки Наркомату освіти УСРР розглянуло питання про утворення науково-дослідної кафедри вивчення Донбасу і констатувало, що «в Донбасі склалися сприятливі умови для проведення науково-дослідної роботи», а також визнало своєчасним організацію відповідних науково-дослідних інституцій [3, с. 402]. Для проведення підготовчої роботи зі створення науково-дослідної кафедри місцевим науковцям було запропоновано створити наукове товариство на Донеччині, яке б об'єднало всі наукові сили Донбасу.

Наукове товариство було створено наприкінці 1926 року. За півтори роки роботи товариства його членами було надруковано більше 45 наукових статей, заслухано низку доповідей з археології, педагогіки, історії, українознавства, суспільствознавства і природно-географічних дисциплін, налагоджено зв'язки з Українською академією наук і Укрдержпланом [4, с. 92].



Коштами, зібраними членами товариства, за допомогою Луганського окрвиконкому видавався збірник «Праці Наукового товариства на Донеччині». Та, незважаючи на плідну роботу членів товариства та особисто Ф. А. Бєльського зі створення кафедри, відкрити її тоді так і не вдалося.

Протягом своєї роботи в інституті народної освіти Фома Антонович Бєльський викладав такі дисципліни, як «Дидактика», «Педагогіка особи», «Педагогіка колективу», а також очолював науково-навчальну комісію з педагогічного циклу. Він був ініціатором створення при ДІНО досвідної школи, у якій студенти-практиканти могли б максимально ефективно проходити виробничу педагогічну практику [5]. Очолюючи інститутський гурток «Дитячий рух», Ф. Бельський проводив для студентів теоретичні та практичні семінари, зокрема з таких тем, як «Дитячий рух на Заході», «Червона романтика в піонерзагонах» та інші, що були вкрай актуальними, адже піонерський дитячий рух тільки починав розгортатися в середині 20-х років і вимагав досвідчених керівників.

Під час роботи Ф. А. Бєльського в ДІНО вийшли у світ такі його праці, як «Тести Кортіса та спосіб користування їми», «Організація наукової праці», «Питання з приводу економії при організації шкільної справи», «До питання про контрольний стандарт опанування технікою вираховування» та інші. Його жінка К. М. Бєльська також працювала у ДІНО. До сфери її наукових досліджень входили переважно питання зарубіжної історії педагогіки, зокрема «Розвиток учнів у народній школі Німеччини» [6].

На початку 1926 року при ДІНО було створено педагогічний музей — «навчально-допоміжну установу, що мала на меті сприяти вивченню проблеми педагогіки та педагогічних дисциплін» [7]. Його завідувачем став Фома Антонович Бєльський, лаборантом — викладач малювання Федір Миколайович Красильніков [8]. Основною функцією педмузею мало стати «поширення педагогічних ідей серед студентства, учнів, учителів трудових шкіл, широких мас працюючих» [9].

Експонати музею були розбиті по окремих відділах: «Педсистеми та портрети видатних педагогів», «НОТ в педагогіці», «ВУЗ, ПедВУЗ, трудшколи», «Помешкання шкіл, їх планування та обладнання», «Наочні посібники по різним

дисциплінам», «Шкільне законодавство», «Комдитрух», «Дошкільне виховання», «Політосвіта», «Трудове виховання», «Естетичне виховання», «Фізкультурне виховання», «Методи навчання», «Педологічні проблеми», «Проблема вчителя», «Історіографія ІНО, музея, Наросвіти в Луганському окрузі», «Організація шкільних музеїв», «Змичка педВУЗів, педмузеїв УСРР, СРСР» [10]. Тільки за перші два роки роботи музею в його стінах було прочитано 10 доповідей-лекцій, проведено 17 екскурсій, надано 32 педологічних консультації, організовано 6 виставок, 7 занять із фребелізму та 1 семінар із педологічного малюнку, складено 32 реєстри рекомендованої педагогічної літератури, видано низку книжок із проблем педології. Під час святкування Х річниці Жовтневої Революції працівниками педмузею було влаштовано виставку експонатів ІНО та інших установ соціального виховання [11]. Ф. А. Бєльський в рамках роботи музею читав лекції для вчителів трудшкіл і студентів ДІНО, присвячені таким проблемам: «Як можна виміряти обдарованість за тестами Біне-Симона», «Як вчаться діти місцевих трудшкіл за комплексами», «Які педагоги від стародавніх часів аж до теперішнього часу працювали найкращими методами навчання», «Що можна зробити при вивченні комплексів зимою та навесні», «Фребелівський та монтесорівський приклад для роботи з дошкільниками» [12].

У музеї було обладнано куточок «Наука та наукові робітники СРСР», у якому були представлені портрети видатних педагогів — Г. Сковороди, П. Юркевича, С. Миропольського та інших. При музеї працювала бібліотека. Музейні експозиції постійно збільшувались, у тому числі за рахунок приладів для досліджень окремих функцій людини — антропометру, динамометру тощо [13]. Щороку музейну установу відвідували кілька тисяч осіб.

Ф. А. Бєльський був ініціатором створення іще одного осередку наукового життя краю — Луганської секції наукових робітників, заснованої у травні 1924 року. До її складу увійшли провідні вчені Луганщини. Первинний склад секції був таким:

1. Єфремов Петро Федорович — голова секції (директор ДІНО з 1923 по 1926 рік; без вищої освіти, І категорія; член КП(б)У);



2. Єнішерлов Михайло Юрієвич — заступник голови (освіта вища; категорія І (а); кандидат у члени КП(б)У);
3. Бєльський Фома Антонович — секретар (освіта вища; категорія ІІ (б); безпартійний);
4. Буравцов Володимир Сергійович (освіта вища; категорія ІІ (в); безпартійний);
5. Войтенко Іван Андрійович (освіта вища; категорія 0; безпартійний);
6. Трикар Микола Антонович (освіта вища; категорія 0; безпартійний) [14].

Після вибуття з секції П. Ф. Єфремова наприкінці 1925 року окружне бюро секції очолить професор С. Г. Грушевський [15].

На 1925 рік склад СНР уже становив 29 осіб, із яких 14 — професори і викладачі ДІНО, 7 — викладачі кооперативного технікуму, 7 — викладачі сільськогосподарського технікуму та 1 — викладач індустріального робітфаку. Майже половина членів секції одночасно були членами Всеукраїнського комітету сприяння ученим (ВУКСУ). Серед них — В. Буравцов, Ф. Бєльський, С. Грушевський, С. Локтюшев тощо [16]. На 1928 рік кількість членів секції складала вже 35 осіб [17].

За об'єктом своєї діяльності СНР виділяла такі напрямки, як:

- робота серед робітників освіти;
- робота серед робітничо-селянської маси та жіноцтва;
- робота серед членів СНР;
- робота серед студентства вузів.

Першочерговими завданнями члени секції вважали допомогу науковцям у вирішенні їх професійних і побутових проблем, залучення колег до роботи товариства «Войовничих матеріалістів», організацію лекцій, екскурсій та інших культурно-освітніх заходів [18]. Члени СНР влаштовували теоретичні доповіді та «вечірки питань та відповідей» серед робітників освіти, організовували доповіді з питань фізики, хімії, астрономії у робочих клубах, читали лекції у навчальних закладах районів і міст Луганського округу [19]. Члени секції організовували урочисті заходи з приводу відзначення святкових дат — ювілею І. Франка, академіка Д. Багалія та інших культурних діячів України.

Значну увагу приділяли члени секції організації гуртків. Оскільки кожен із них був фахівцем у якійсь галузі науки, виникала можливість створення цілої низки гуртків. Так, члени секції І. Войтенко, М. Трикар і Є. Равич-Щербо організовували при Будинку освіти науково-природничий гурток для учителів масової школи. Ф. А. Бєльський як літературознавець керував літературним осередком «Забой», І. О. Войтенко очолював гурток «Авіохем» при ДІНО, А. І. Глядківська очолювала партклуб, С. С. Зімін вів курси з сільського господарства у селах, В. В. Кіменталь керував гуртком «Вивчення книги», С. О. Локтюшев, що викладав географію та краєзнавство в ДІНО, проводив заняття у краєзнавчому гуртку, займався організацією археологічних розкопок краю, завідував Луганським краєзнавчим соціальним музеєм.

Крім того, членів СНР, що працювали у вищих навчальних закладах, активно залучали до виробничої та сільськогосподарської пропаганди серед робітників і селян свого району, передвиборчої кампанії до міської ради тощо [20, с. 270; 21]. 1926 року при бюро секції було створено експертну комісію з кваліфікації наукових робітників у кількості п'яти представників луганських вишів.

На своїх засіданнях члени секції обговорювали і питання, пов'язані з проблемою продуктивності праці педагогів, їх матеріально-побутовими умовами життя. З цього приводу на одному із засідань проф. Ф. А. Бєльський прочитав цілу лекцію за темою «Чи можливо притягати викладовця ВУЗу до 44-тижневої безперервної праці з точки зору фізіології, гігієни та раціоналізації праці?». СНР дбала про стан здоров'я та організацію дозвілля своїх членів, надаючи їм путівки до курортних місць і організовуючи екскурсії по Донбасу [22]. По можливості із фонду СНР виділялися кошти на здійснення наукових відряджень науковців до архівів, бібліотек і лабораторій Москви, Ленінграду, Харкова та інших культурних центрів. У 1928 році професору Ф. Бєльському навіть було вирішено виділити матеріальну допомогу у сумі 200 крб. на наукове відрядження за кордон, яке утім так і не відбулося [23].

Члени СНК неодноразово піднімали питання про наявність у Донбасі власного інтелектуального потенціалу і необхідність у зв'язку з цим створення науково-дослідної кафедри в місті. З цього приводу 7 квітня 1928 року С. Грушевському було доручено «знестись з професором Багалієм щодо питання організації в Луганську секції Харківської кафедри історії української культури при ІНО» [24]. Питання про створення в місті потужного науково-культурного центру — кафедри, для чого існували усі об'єктивні умови, буде і надалі підніматися науковими і педагогічними працівниками до кінця 20-х рр. Але, не зважаючи на величезні зусилля членів СНР зі створення при ДІНО такої кафедри, відкрити її так і не вдасться.

Аналізуючи результати активної діяльності в 20-і роки науковців із СНР, працівників ДІНО та інших вузів, членів профспілки робітників освіти, якісний склад науково-освітніх організацій і культурних закладів, можна стверджувати, що в певних культурно-наукових галузях регіон Донбасу накопичив величезний інтелектуальний потенціал і, як стверджував у 1928 році на Луганському окружному з'їзді спілки робітників освіти професор Є. А. Равич-Щербо, саме Луганськ був «культурним осередком Донбасу» [25]. Отже, завдяки таким науково-педагогічним працівникам і ентузіастам своєї справи як Ф. А. Бєльський, С. Г. Грушевський, В. С. Буравцов, М. М. Холоділін, Є. А. Равич-Щербо, С. О. Локтюшев, І. І. Ліщина-Мартиненко протягом 20-х років вдалося, хоча і не повністю, подолати стереотипну суспільну думку про Донбас як про регіон «культурно відсталий від інших», що є суто «пролетарською колискою».

### Література та джерела


1. Державний архів Луганської області (далі — ДАЛО). — Р. 401. — Оп. 1. — Спр. 456. — Арк. 2—3.
2. ДАЛО. — Р. 401. — Оп. 1. — Спр. 240. — Арк. 143—157.
3. Репресоване краєзнавство 20—30 рр. — Київ: Хмельницький ред.-вид. відділ, 1991. — 492 с.
4. *Бєльський, Ф.* До питання про організацію Наукового товариства на Донеччині / Ф. Бєльський // Праці Наукового товариства на Донеччині: наук. зб. — Луганськ, 1928. — Т. 1. — С. 90—94.
5. ДАЛО. — Р. 416. — Оп. 1. — Спр. 96. — Арк. 2, 7.
6. ДАЛО. — Р. 416. — Оп. 1. — Спр. 70. — Арк. 7—8-зв.

7. ДАЛО. — Р. 416. — Оп. 1. — Спр. 70. — Арк. 62.
8. ДАЛО. — Р. 416. — Оп. 1. — Спр. 70. — Арк. 17—18.
9. ДАЛО. — Р. 416. — Оп. 1. — Спр. 92. — Арк.15.
10. ДАЛО. — Р. 416. — Оп. 1. — Спр. 92. — Арк. 17.
11. ДАЛО. — Р. 416. — Оп. 1. — Спр. 96. — Арк. 8.
12. ДАЛО. — Р. 416. — Оп. 1. — Спр. 96. — Арк. 14.
13. ДАЛО. — Р. 416. — Оп. 1. — Спр. 92. — Арк. 15.
14. Центральний державний архів вищих органів влади та управління України (далі — ЦДАВОВУ). — Ф. 331. — Оп. 1. — Спр. 151. — Арк. 3, 22, 26.
15. ЦДАВОВУ. — Ф. 331. — Оп. 1. — Спр. 258. — Арк. 12—14.
16. ЦДАВОВУ. — Ф. 331. — Оп. 1. — Спр. 189. — Арк. 4.
17. ЦДАВОВУ. — Ф. 331. — Оп. 1. — Спр. 258. — Арк. 12.
18. ДАЛО. — Р. 165. — Оп. 1. — Спр. 13. — Арк. 208.
19. ДАЛО. — Р. 165. — Оп. 1. — Спр. 13. — Арк. 214.
20. ДАЛО. — Р. 165. — Оп. 1. — Спр. 11. — Арк. 9.
21. Культурне будівництво в Українській РСР. Важливіші рішення Комуністичної партії і Радянського Уряду: 1917—1959 рр.: зб. док. — Київ: Держполітвидав УРСР, 1959. — Т. 1: 1917 — червень 1941 рр. — 884 с.
22. ДАЛО. — Р. 165. — Оп. 1. — Спр. 13. — Арк. 236.
23. ДАЛО. — Р. 165. — Оп. 1. — Спр. 13. — Арк. 221.
24. ДАЛО. — Р. 165. — Оп. 1. — Спр. 13. — Арк. 235.
25. ДАЛО. — Р. 165. — Оп. 1. — Спр. 13. — Арк. 223—227.
26. ДАЛО. — Р. 165. — Оп. 1. — Спр. 13. — Арк. 55.

Інна НАГРИБЕЛЬНА, Тетяна ПУЧИНСЬКА

# Життя і діяльність професора педагогіки Ф. А. Бєльського в Херсоні (1929—1932)

В енциклопедії «Білоруське зарубіжжя» (2010) серед відомих учених України першої половини XX століття білоруського походження виокремлюється ім'я професора педагогіки Фоми Антоновича Бєльського, уродженця містечка Тимковичі Слуцького повіту Мінської губернії (нині це



Копильський район Мінської області) [1, с. 176]. У 1909 р. він зі срібною медаллю закінчив добре відому в Білорусі Слуцьку гімназію, потім Київський університет з дипломом I ступеня. Під час роботи в Донецькому інституті народної освіти (м. Луганськ) Державним науково-методичним комітетом Наркомпросу Української РСР йому було присвоєно звання професора педагогічних наук (1925) [8, с. 15].

Навчальний 1929/1930 рік для Ф. А. Бєльського почався в Херсонському інституті народної освіти, в якому він працював упродовж двох з половиною років, до лютого 1932 р. (до серпня 1930 р. це був інститут народної освіти, до 1933 р. — інститут соціального виховання) [10]. Тут Фома Антонович спочатку працював штатним професором, потім протягом півроку був завідувачем кафедрою дидактики (1930—1931), а у зв'язку зі скороченням кафедри продовжував викладати як професор кафедри педагогіки [2], [4], [5], [8, с. 13], [10], [13, с. 53].

Харківський інститут народної освіти (ХІНО) був створений в 1921 р. і в той час складався з двох факультетів: професійної освіти і соціального виховання, а згодом, в 1925/1926 навчальному році, був відкритий факультет політосвіти [7]. Факультет професійної освіти був орієнтований на підготовку вчителів для різних типів шкіл і викладачів технікумів. Факультет соціальної освіти в основному готував фахівців для роботи в дитячих дошкільних установах. Факультет політосвіти, крім навчання ідеологічних працівників, вів підготовку бібліотечних кадрів. З плином часу гостро постало питання про розробку програмно-методичних документів нового типу, що визначають зміст освіти в інституті. У зв'язку з цим було підготовлено проекти навчальних програм: «Велика робота була проведена у цей час зі складання програм навчальних дисциплін. Необхідність їх розробки зумовлена тим, що нових програм ще не було, а старі дореволюційні не відповідали вимогам, що висувалися перед новою школою. Особливістю нових навчальних програм було "пов'язання всіх видів занять між собою, а також зв'язок із життям". Перші навчальні плани ХІНО були розроблені та затверджені на засіданні правління у складі директора інституту, історика, професора К. Ю. Гревізірського, професора Х. А. Бєльського, викладача М. В. Катинського та інших» [13, с. 27].

Створені навчальні програми були зорієнтовані на ґрунтовну психолого-педагогічну підготовку майбутніх фахівців у сфері народної освіти, у чому є значна заслуга Ф. А. Бєльського.

На початку нового 1930/1931 навчального року він був призначений завідувачем кафедрою дидактики. У той час інститут нараховував 13 кафедр, в архівному списку кафедра дидактики, очолювана професором Бєльським, значиться першою [5], [13, с. 53]. Посвідчення, видане вченому в Узбецькому педагогічному інституті ім. Молотова в 1938 р. (№ 3191), є доказом того, що «професор Бєльський Ф. А. був ударником з 1930/31 навчального року по теперішній час, тобто впродовж восьми років» [11]. У цьому тексті є посилання на представлений офіційний документ — посвідчення Херсонського міському спілки робітпроса від 3.IX.1931, № 9. Цей факт є свідченням високої якості професійної діяльності професора Ф. А. Бєльського в ХІНО. Він був біля витоків становлення кафедри дидактики на новому етапі, зробив значний внесок у якісне забезпечення навчального процесу з психолого-педагогічних дисциплін. Напрацьований досвід був в подальшому використаний в роботі кафедри педагогіки, на якій професор Бєльський ще викладав якийсь час.

У період проживання на Херсонщині вчений продовжував свої педагогічні дослідження, хоча його творчі результати були не такими значними і відчутними, як в попередні роки (раніше вийшли з друку його роботи «Педагогіка як наука», «Організація наукової роботи», «Організація шкіл для обдарованих дітей», «Вивчення здібностей дітей» та ін.) Зі вступом на посаду завідувача кафедрою Ф. А. Бєльський основну увагу зосередив на навчально-методичному забезпеченні процесу навчання студентів. Заохочуючи співробітників кафедри до написання педагогічних статей практико-орієнтованої спрямованості і методичних рекомендацій, він і сам досяг успіху в роботі, виконанні нагальних завдань і вимог, що стоять перед кафедрою в організаційно-методичному плані. Ф. А. Бєльським були підготовлені статті «Педагогічна практика студентства та методика її здійснення», «Організація підготовки до залікової сесії», які вийшли до друку у 1931 році. У своїх роботах попередніх років вчений займався питанням ефективної професійної підготовки



студентів до майбутньої педагогічної діяльності. Ці статті в контексті основних напрямків навчально-освітньої та виховної роботи були своєчасними та корисними. Рекомендації методичного, організаційного характеру спрямовані на надання допомоги студентам у їх практичній роботі в школі, ефективній підготовці до здачі сесії, створення належних адаптивних умов для успішного навчання. У тому ж напрямі, що і Ф. А. Бєльський, працювали й інші вчені-практики. На це вказує у своїй роботі А. В. Пугач: «У ході дослідження встановлено, що поняття професійного вдосконалення педагога як складової його підготовки було представлено в досліджуваний період у педагогічних концепціях В. Арнаутова, Ф. Бєльського, А. Владимирського, О. Грабарова, М. Заріцького, М. Зотіна, Я. Мамонтова, О. Попова, М. Розенштейн, Ю. Самброса, І. Соколянського, Є. Равич-Щерби, Я. Чепігі» [9, с. 19].

Фома Антонович Бєльський у ті роки був задіяний до процесу реформування вищої та середньої школи. Вчений-педагог поступово входив у новий освітньо-виховний простір і розширював своє дослідне поле. Він як представник старої школи прагнув зрозуміти, осмислити, що відбувається, свідомо стати учасником нової політичної та освітньої дійсності. Про це свідчить його робота «До питання про політехнізацію школи» (1930). Значні зміни відбулися в концептуальному моделюванні та структурі народної освіти. У той довоєнний час діяльність як середньої, так і вищої школи отримала політехнічну спрямованість. Цей процес трансформації набував всеосяжний характер. Як відомо, наприкінці 1920-х — початку 1930-х рр. був узятий курс на індустріалізацію країни і колективізацію сільського господарства. У зв'язку з цим виникла потреба у підготовці великої кількості кваліфікованих фахівців для різних галузей народного господарства та виробництва. Політехнічному навчанню та трудовому вихованню відводилася пріоритетна роль у подальшому розвитку радянської освіти. У нових умовах учні повинні були засвоювати знання основ наук, набувати трудові уміння та навички, від них вимагалося опанування певної професії. Вчений-педагог Ф. А. Бєльський прекрасно усвідомлював роль праці в навчанні та вихованні, розумів цю роль, виходячи в першу чергу з педагогічних положень К. Д. Ушинського,

учащихся. Поиски форм проведения экзамена, учёта знаний активно велись ещё в 1920-е гг., в чём убеждает ряд научно-педагогических исследований профессора Ф. А. Бельского. Его занимала проблема создания педагогических тестов, поиск оптимальной модели экзамена и введения его в образовательную практику. В статье «Выявление успеваемости учащихся по стандартизированным тестам» (1926) учёным актуализируется «вопрос о создании системы учёта успеваемости по стандартизированным для учащихся всех республик Советского Союза билетам». Автор сам отмечал, что единая система учёта и контроля знаний в конечном итоге была разработана и внедрена в практику, только «не в 1926 году, когда была напечатана... статья, а значительно позже — в 1945/46 уч. г. и 1946/47 уч. г.». Профессор Бельский изложил основные положения и принципы создания стандартизированных тестов, разработал методику их проведения. В ходе экспериментальных исследований он весьма эффективно применил научный инструментарий обработки и анализа результатов. Работая в Донецком институте народного образования, он успешно использовал тестовую форму контроля знаний при изучении студентами педагогики. В статье «Тестирование и оценка успеваемости учащихся» (1926) итог этого педагогического эксперимента учёный оценил положительно, отмечая, что «сравнительно правильно поставлен вопрос о дифференцированном учёте успеваемости учащихся в высшей школе по дисциплинам педагогического цикла». Уже в 1920-е гг. Ф. А. Бельский рассматривал «тестирование... как один из способов учёта усвоения образовательного материала», подчёркивал, что образовательный уровень должен оцениваться «по определённым, установленным вопросам», т. е. учёный ставил вопрос о создании единой, унифицированной формы контроля для аттестации учащихся и студентов.

До настоящего времени появляются публикации о статусе педагогики как отрасли научного знания. Некоторые представители научной общественности отстаивают точку зрения о том, что философия образования может претендовать на статус теоретической науки, а педагогика есть прикладное, инструментальное знание. С нашей точки зрения, особое место в ряду публикаций Ф. А. Бельского занимает



работа «Педагогика как наука (к вопросу о методологии педагогики)», изданная в 1929 году. В ней автор убедительно показывает статус педагогики как отрасли научного знания, имеющей теоретический и прикладной уровни, анализирует её научный аппарат, методы педагогического исследования. Ф. А. Бельский показывает, что нормы и суждения о должном, ценностях без объяснения законов и закономерностей, без научных доказательств есть либо высказывания оракула, либо пустые слова, но не научные положения. Автор убедительно показывает, что педагогика не может быть отнесена к чисто нормативным наукам, таких наук вообще не существует, всякая нормативная наука есть в то же время и объясняющая. Значительная часть тех фактов педагогической реальности, которые необходимо объяснить педагогике как отрасли научного знания, имеет характер норм или ценностей.

Нами выделено несколько важных аспектов в осмыслении творческого наследия профессора Ф. А. Бельского. Однако сфера его научных интересов, проблематика статей и исследований впечатляет, поскольку она разнообразна. В равной мере заслуживают внимания работы по истории педагогики («Великий русский педагог К. Д. Ушинский»), использованию возможностей музейно-педагогических форм деятельности («Научно-педагогические экскурсии Донецкого института народного образования», «Педагогический музей, его организация и культурно-просветительная деятельность»), ученическому самоуправлению и выявлению наиболее активных лидеров («Выявление организаторов в группе и определение организованности группы»), организации учебного процесса в средней школе и вузе («К вопросу о режиме экономии при организации школьной работы», «Организация семинаров повышенного типа», «Нормативные элементы педагогики при преподавании её в педвузах»), проблеме подготовки учителя к будущей профессиональной деятельности («Педагогическая практика студенчества и методика её осуществления», «Целеустремлённость в самообразовании учительства»), внедрении в образовательную практику исторического и педагогического краеведения («Прошлое нашего края»). Уже этот краткий обзор опубликованных работ Ф. А. Бельского свидетельствует о широте его научных

интересов и творчества, глубоком понимании задач и проблем педагогической науки. Избранная им тематика во многом определяла перспективные направления и тенденции развития педагогики в последующие десятилетия.

В творческом наследии профессора отражена его высокая компетентность в постановке того или иного вопроса, глубина научного мышления, анализа и экспериментальной работы, ценный педагогический опыт. Безусловно, учёный был в авангарде научной педагогической мысли. Он имел свою позицию и представления о развитии советской школы и педагогики, о чём высказался в докладе на заседании учёного совета Херсонского института народного образования в 1932 году. Это выступление имело критическую направленность, а потому обернулось для учёного резко негативными оценками и угрозами, могло стать началом заката научно-педагогической карьеры и окончиться арестом, настоящей катастрофой. Долгие годы профессор Ф. А. Бельский должен был спасаться от репрессивной сталинской системы. Он уцелел благодаря вмешательству судьбы и стечению ряда обстоятельств, хотя в первую очередь должное нужно отдать предвидению и интуиции его жены Екатерины Михайловны, которая понимала весь драматизм происходящего.

В то время трудно было научной мысли не оказаться в плену у времени. Безусловно, под влиянием идеологических подходов и требований Ф. А. Бельский также исходил из новых мировоззренческих представлений, руководствуясь постулатами официальной науки. Очевидно, невозможно назвать учёного-педагога той эпохи, который находился бы вне советского контекста и не был связан определёнными политико-идеологическими рамками.

«Человек может найти смысл в жизни, какой бы короткой и опасной она ни была, только посвятив себя обществу», — писал Альберт Эйнштейн. Профессор Ф. А. Бельский вплоть да самого ухода из жизни продолжал работать на педагогическом поприще, преподавал в студенческой аудитории. И, что очень важно, напрасно не потерял время, нашёл путь служения людям и обществу. Многим в этом мире он помог «стать умнее, лучше, зрелее и совершеннее» (Т. Манн). Фома Антонович Бельский исполнил своё высокое предназначение как педагог и человек.



**Литература**

Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. — Мінск: БелЭн, 2004. — Т. 18, кн. 1. — С. 350—351.

*Бельскі, А.* «З усімі правамі і перавагамі...» / А. Бельскі // Настаўн. газ. — 1991. — 30 студз.

*Бєльський, Ф.* Педагогіка як наука: (до питання про методологію педагогіки) / Ф. Бєльський. — Луганськ, 1929. — 16 с.

*Бєльський, Ф.* Тестування та оцінка успішності засвоєння навчального матеріалу / Ф. Бєльський // Рад. шк. — 1926. — № 5. — С. 34—36.

Государственный архив Могилёвской области. — Ф. 927. — Оп. 3.

Прафесар Фама Антонавіч Бельскі = Профессор Фома Антонович Бельский / уклад. А. І. Бельскі. — Мінск: Энцыклапедыкс, 2002. — 38 с.

Алена БЕЛЬСКАЯ

# Нам засталася спадчына

## *Агляд архіва прафесара Ф. А. Бельскага*

Прафесар педагогікі Фама Антонавіч Бельскі жыў у складаную эпоху, на якую прыпалі вельмі драматычныя і складаныя падзеі: Першая сусветная вайна, змена дзяржаўнага ладу ў 1917 годзе, сталінскія рэпрэсіі, Вялікая Айчынная вайна, нястачы першых пасляваенных гадоў. Так атрымалася, што ён, можна сказаць, быў увесь час у руху. Часта мяняў месца жыхарства і працы, асабліва пасля 1932 года, калі яго выступленне з крытыкай політэхнізацыі школы магло закончыцца арыштам.

Геаграфія жыцця прафесара Ф. А. Бельскага пазначана наступнымі гарадамі: Кіеў, Златапаль, Наваміргарад, Херсон (Украіна), пасля Краснадар (Расія), Магілёў (Беларусь), Самарканд, Фергана, Каканд (Узбекістан), далей Чарнігаў (Украіна), затым Бухара (Узбекістан), Сімферопаль, Ленінград (Расія) і, урэшце, зноў Кіеў. Зразумела, усё гэта не магло

спрыяць захаванню яго творчай спадчыны, асабліва рукапіснай. Далёка не ўсё ацалела ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Фама Антонавіч з жонкай Кацярынай Міхайлаўнай ратаваліся ад фашысцкай бамбёжкі ў Чарнігаве, маёмасць і многія каштоўныя дакументы згарэлі ў полымі ваеннай навалы. Аднак сёе-тое ўсё ж захавалася, дайшло да нашага часу. І найперш дзякуючы сястры вучонага Яўгеніі Антонаўне Яталь (Бельскай), яе дзецям Тамары і Георгію, якія доўгі час зберагалі спадчыну свайго дзядзькі. Тамара Яталь (дарэчы, вучоны-мікрабіёлаг) прыклала намаганні для таго, каб гэтая спадчына вярнулася на радзіму Фамы Антонавіча. Большую частку асабістага архіва прафесара Ф. А. Бельскага яна ў 1999 годзе перадала на захаванне ў Беларусь, даручыла апекавацца матэрыяламі роднаму пляменніку вучонага і свайму стрыечнаму брату доктару філалагічных навук Алесю Бельскаму. У сям'і Бельскіх да гэтага захоўвалася частка эпісталярнай спадчыны вучонага, асобныя выданні яго прац. На сёння беларуская частка архіва Ф. А. Бельскага істотна ўзбагацілася і налічвае больш за 60 адзінак. Яна, уласна кажучы, і стане прадметам нашага сціслага агляду.

Найбольш каштоўная ў архіве вучонага яго кніжка «Педагогіка як наука» (1929; на ўкр. мове). Ёсць два асобнікі гэтага выдання. На апошняй старонцы кніжкі змешчаны пералік прац вучонага ў раздзелах «Надруковані статті та розвідки проф. Ф. А. Бєльського», «Надруковані статті проф. Ф. А. Бєльського по науково-організаційним питанням». У спіс публікацый рукой Фамы Антонавіча дапісаны іншыя друкаваныя працы, а таксама зроблена пазнака: «Имеются в рукописях: "Воспитание мужества и геройства у советских школьников", "Воспитание стойкости и инициативы у учащихся старшего школьного возраста"...» і інш. На жаль, названыя ў спісе чатыры працы не захаваліся. У архіўным зборы ёсць і адзін асобнік зборніка «Праці Наукового товариства на Донеччині» (1928) з надрукаванымі ў ім артыкуламі Ф. А. Бельскага «Виявлення організаторів у групі та вимірювання організованості групи», «До питання про організацію Наукового товариства на Донеччині». На с. 94 у інфармацыйным матэрыяле «Друковані праці членів Наукового товариства на Донеччині. За 1926 та 1927 р.» пазначана трынаццаць публікацый прафесара Данецкага інстытута народнай адукацыі Ф. А. Бельскага. З рукапісных тэкстаў вучонага



найбольшую цікавасць уяўляе праца «Как... работать с книгой?».

У архіве прафесара Бельскага з арыгіналаў маюцца дыплом I ступені аб заканчэнні Імператарскага ўніверсітэта св. Уладзіміра (1913), працоўная кніжка «Трудовой список», якая дае дастаткова поўнае ўяўленне пра педагагічную дзейнасць вучонага, асабовыя лісткі па ўліку кадраў (1947, 1951), складзеныя ўласнаручна ў 1947 годзе два спісы надрукаваных даследаванняў і артыкулаў, аўтабіяграфія (тры варыянты). Усе гэтыя і некаторыя іншыя дакументы ўтрымліваюць дакладныя звесткі і факты. Вось запіс у асабовым лістку па ўліку кадраў, які датычыць беларускага перыяду дзейнасці вучонага: «1935—1936. Профессор педагогики, психологии Могилёвского пединститута, зав. кафедрой, НКП БССР». Гэта пацвярджае, што Ф. А. Бельскі з'яўляецца першым загадчыкам кафедры педагогікі і псіхалогіі названай вышэйшай навучальнай установы. Дарэчы, тое засведчана на афіцыйным сайце Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова (гл.: msu.mogilev.by/index.php?... -). Да прыезду ў Беларусь прафесар плённа працаваў у вышэйшых педагагічных установах Луганска і Краснадара. Прывядзём аўтабіяграфічныя звесткі, якія дазваляюць меркаваць пра арганізацыйную і практычную накіраванасць яго дзейнасці: «Кроме научно-преподавательской работы, я выполнял и другие обязанности: был замдиректора по научно-учебной части в пединституте (1932—1935), зав. аспирантуры, деканом факультета, общевузовским организатором педпрактики, директором научной библиотеки». З працоўнай кніжкі, аўтабіяграфіі можна даведацца пра ўзнагароды вучонага, граматы, прэміі, а ўсё гэта было прызнаннем высокай якасці яго навукова-педагагічнай працы.

Некалькі дакументальных матэрыялаў расказваюць пра дзейнасць прафесара ў час Вялікай Айчыннай вайны. Ён сам сведчыць пра зведанае ў першыя дні ваеннага ліха, пра свой далейшы лёс: «...Мне с большим трудом удалось выбраться из Черниговского огненного кольца и добраться до г. Бухары, где я работал профессором педагогики и психологии с 1941 по 1946 г., причём приказом Всесоюзного Комитета по делам высшей школы при СНК СССР 8/II 1943 г. был утверждён зав. кафедрой педагогики Бухарского пединститута». З копіі «Акта по учёту ущерба, причинённого

немецко-фашистскими захватчиками гражданину СССР — профессору педагогики Черниговского педагогического института Бельскому Фоме Антоновичу...» мы даведваемся наступнае: «Немецко-фашистские захватчики 23 и 24 августа 1941 года, сбросив бомбы на г. Чернигов, сожгли его до тла, превратив его в груду руин. В огне от сброшенных... зажигательных бомб уничтожено имущество, принадлежавшее мне...». І далей вучоны піша: «...Мне удалось добраться, вырваться из черниговского огненного ада». Менавіта сюды, у Чарнігаў, на самым пачатку вайны, 2 ліпеня 1941 года, паслаў Фаму Антонавічу свой франтавы ліст яго брат Антон. Гэты ліст, які разам з іншай захопленай карэспандэнцыяй быў вывезены нацыстамі ў Аўстрыю, адшукаўся амаль праз семдзесят гадоў. Яго за адрасата атрымала пляменніца вучонага Тамара Яталь. Яна пераслала ліст у Мінск, і ён на сёння стаў апошнім дакументам у беларускім архіве прафесара Ф. А. Бельскага*.

Як сведчаць дакументальныя матэрыялы, Фама Антонавіч у гады вайны ва Узбекістане вёў актыўную педагагічную і навуковую дзейнасць. Ён выступаў таксама з лекцыямі і гутаркамі, у тым ліку ў шпіталях, пісаў артыкулы і інш. Вучоны быў адзначаны медалём «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.».

Педагагічнай дзейнасці ва Узбекістане Ф. А. Бельскі аддаў амаль дзесяць гадоў: 1936—1940, 1941—1946. У Бухары Фама Антонавіч працягваў працаваць яшчэ пэўны час пасля вайны. У даведцы ад 14 сакавіка 1946 г. адзначаецца, што выкладчыцкую і даследчую працу ён «выполняет добросовестно и на высоком теоретическом уровне. За участие в работе III научной конференции Бухарского пединститута, состоявшейся с 3/I па 6/I 1946 г., где проф. Бельский Ф. А. выступил

* Пра непрачытаныя лісты 1941 года, якія былі перададзены Нацыянальнаму музею Вялікай Айчыннай вайны ў Кіеве, шмат пісалася ва ўкраінскім і беларускім друку. Яшчэ адзін ліст Антон Антонавіч Бельскі (1919—1942) адаслаў маці Фядоры Паўлаўне і малодшаму брату Івану ў мястэчка Цімкавічы Капыльскага раёна. Гэты ліст быў уручаны здымачнай групай тэлевізійнай праграмы «Жди меня» напярэдадні Дня Перамогі ў 2010 годзе (сюжэт паказаны па тэлебачанні ва Украіне, Беларусі і Расіі). Капітан Антон Бельскі загінуў у 1942 годзе пад Сталінградам. Падрабязней пра непрачытаныя лісты 1941 года гл.: *www.warmuseum.kiev.ua/.../uvaga_poshuk.sht...* - Або: *ru.wikipedia.org/.../Непрочитанные_письма_1...* -



с двумя докладами: “Мировое значение К. Д. Ушинского” и “К. Д. Ушинский как теоретик педагогического образования”, ему объявлена благодарность». Гэтая даведка за № 10 выдадзена ў Бухары пад грыфам «УзССР. Союз вузов и научно-исследовательских учреждений».

Наступную катэгорыю дакументаў складаюць розныя даведкі і пасведчанні з вышэйшых навучальных устаноў аб месцы працы вучонага, займаных ім пасадах і сумах атрыманых заробкаў, прэміраванні, узнагароджанні граматамі інстытутаў. Большасць гэтых даведак збіралася для органаў сацыяльнага забеспячэння падчас налічэння пенсіі. Вось некаторыя з іх: «Дана БЕЛЬСКОМУ Фоме Антоновичу в том, что он действительно с 1-го августа 1923 г. по 31-е марта 1925 г. был лектором, а с 1-го апреля 1925 по 1-е сентября 1929 г. был профессором педагогики Донецкого института народного образования (ныне Ворошиловградский педагогический институт)» (выдадзена 5.IV.1950 г., № 192 за подпісам дырэктара Варашылаўградскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Т. Р. Шаўчэнкі); «Дано настоящее профессору педагогики БЕЛЬСКОМУ Ф. А. в том, что он читал лекции по педагогике с 1-го июня 1932 года и является заместителем директора по учебной части с 3-го октября 1932 года и по настоящее время. К выполнению возложенных на него обязанностей относится добросовестно, по-ударному. За выполнение учебно-производственной и общественной работы профессор БЕЛЬСКИЙ Ф. А. 30-го июня 1934 года дирекцией и общественными организациями был премирован грамотой» (выдадзена 25.VIII.1934 г., № 10/382 за подпісам дырэктара Краснадарскага педагагічнага інстытута імя 15-годдзя ВЛКСМ); «Дано настоящее профессору педагогики и психологии Фоме Антоновичу БЕЛЬСКОМУ в том, что он в 1935/36 учебном году проводил академические занятия в Могилёвском педагогическом институте, получая персональную ставку по договору, утверждённому НКП БССР. За высокое качество проведённой учебно-производственной и общественной работы дирекцией и общественными организациями педининститута признан одним из лучших ударников среди научных работников Могилёвского пединститута» (выдадзена 1.VII.1936 г., № 973 за подпісам дырэктара Магілёўскага педагагічнага інстытута імя М. М. Пакроўскага); «Выдана настоящая профессору педагогики Бухарского

педагогического (учительского) института тов. БЕЛЬСКОМУ Фоме Антоновичу в том, что он работает в вышеуказанном институте с 10 октября 1941 года и по настоящее время, читая лекции по педагогике и заведуя кафедрой педагогики» (выдадзена 10.XII.1942 г., № 3117 за подпісам дырэктара Бухарскага педагагічнага і настаўніцкага інстытута імя С. Арджанікідзе). Падобныя даведкі былі ў розны час атрыманы прафесарам Ф. А. Бельскім з Херсонскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Н. К. Крупскай, Узбекскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Молатава, Какандскага дзяржаўнага настаўніцкага інстытута і некаторых іншых вышэйшых навучальных устаноў. Сярод гэтых дакументаў ёсць ліст на афіцыйным бланку Народнага камісарыята асветы УзССР за подпісам наркама Бабаджанава ад 8 снежня 1938 г., накіраваны Народнаму камісару сацыяльнага забеспячэння УзССР. Вось яго тэкст:

Ознакомившись с материалами и заявлением профессора Ферганского госпединститута им. Молотова тов. Бельского Ф. А. об установлении ему академической пенсии за 25-летнюю педагогическую деятельность, — Наркомпрос УзССР ходатайствует о назначении ему пенсии.

Тов. Бельский работает в Ферганском пединституте с октября месяца 1936 года профессором психологии и педагогики, одновременно читает эти дисциплины в Кокандском вечернем пединституте и, по отзывам дирекции, прекрасно владеет своим предметом, являясь в то же время активным общественником.

З іншай даведкі вядома, што Камісія па прызначэнні персанальных і акадэмічных пенсій Рэспубліканскага значэння пры Саўнаркаме УзССР прыняла наступнае рашэнне: «...академическому пенсионеру профессору т. БЕЛЬСКОМУ Фоме Антоновичу установлена пенсия до 500 руб. с 1/III-1945, на основании постановления СНК УзССР от 19/II-45» (выдадзена 5.III.1946 г., № 6/336, г. Ташкент). Пазней, у 1951 годзе, Фама Антонавіч атрымаў пасведчанне «Пенсионная книжка работника науки» за нумарам 2341-рн (кніжка выдадзена за подпісам намесніка міністра сацыяльнага забеспячэння). Пра што, уласна кажучы, сведчыць змест усіх гэтых дакументаў? Безумоўна, найперш пра статус самога прафесара Ф. А. Бельскага, яго працоўныя дасягненні і прафесійныя якасці. Аднак разам з тым гэтыя пасведчанні яскрава сведчаць пра прэстыж працы вучонага, яе высокую ацэнку і прызнанне ў тагачасным грамадстве.



Эпісталярый у спадчыне вучонага складае каля двух дзясяткаў лістоў. Усе яны адрасаваны Фядоры Паўлаўне Бельскай, другой жонцы яго бацькі (некалькі з іх яшчэ і малодшаму брату Івану), у мястэчка Цімкавічы. Цікава, што асобныя лісты пачынаў Фама Антонавіч, а заканчвала яго жонка Кацярына Міхайлаўна, або наадварот: ён дапісваў ліст, штосьці паведамляючы ці задаючы пытанні наконт таго, што яго цікавіла, хвалявала, непакоіла. Ліставанне раскрывае асобу прафесара Бельскага як чалавека чулага, інтэлігентнага, клапатлівага. Яно сведчыць, што вучоны падтрымліваў цёплыя адносіны з роднымі і блізкімі людзьмі, да апошняга захоўваў духоўную сувязь з радзімай. Першы ліст датаваны 20.X.1944 г., апошні — 30.III.1951 г. Прывядзём фрагменты з паваеннага эпісталярыю прафесара, якія красамоўна гавораць нам пра ўнутраны воблік Фамы Антонавіча:

* * *

20.X.1944 г.

Здравствуйте, дорогие Федора Павловна и Ваня!

<...> Как идут ваши дела? Выдал ли колхоз что-либо к 7 ноября? Ходит ли поезд на ст. Тимковичи?

Будьте здоровы! Всего хорошего!

Целуем крепко. Ф. Б.

* * *

10.V.1945 г.

Дорогая Федора Павловна!

С чувством глубокой радости мы отпраздновали День Победы над гитлеровской Германией. Приветствуем Вас с этим радостным днём, желаем здоровья, счастливой удачи в Ваших жизненных обстоятельствах. <...>

В связи с окончанием мировой войны народ ликует, ожидает заметного улучшения условий существования. <...>

Каково Ваше здоровье? Посеяли огород? Каковы всходы озимого посева? Возвращаются ли с фронта мобилизованные тимковчане? Как часто проходят пассажирские поезда через станцию Тимковичи? Уцелел ли лесок Бушилово? Где расположены школа-десятилетка и почта?

Мы подумываем поближе к Вам перебраться, не знаем, как удастся. <...>

Наладится скоро жизнь, станет легче... Будем надеяться на лучшее.

Целуем Вас крепко.

* * *

6.V.1947 г.

Дорогая Федора Павловна!

Поздравляем Вас с праздником Победы над немецко-фашистскими захватчиками, которые причинили Вам такие большие разрушения и страдания. Желаем Вам доброго здоровья и успеха в Ваших делах. <...>

Дела наши идут обычным порядком; в мае месяце мы заканчиваем наши занятия со студентами и в июне начнём понемногу уже отдыхать.

Как идут Ваши дела? Начали ли Вы отстраивать дом? Как засеян огород? Каковы виды на урожай озимых хлебов? Приезжал ли на первомайские праздники Ваня к Вам в гости? Как часто приходится весной выполнять работу в колхозе?

Мы здоровы; хоть работа и сложна, но всё мы выполняем с честью. <...>

Будьте здоровы! Всего хорошего! Целуем Вас.

* * *

VI.1948 (?).

Здравствуйте, дорогая Федора Павловна!

Лето добралось и до Ленинграда: хорош был май солнечный и две недели июня, а сейчас частенько дождит. На базаре появилась земляника... <...>

Как живёте? Всё ли у Вас продаётся? Здесь магазины полны. В чём нуждаетесь? Напишите. <...>

В каком состоянии построенный дом? Есть ли при нём сарай? Посадили ли какие-либо деревья? Каково Ваше здоровье? Мы здоровы, живём вполне сносно. Будьте здоровы.

Всего хорошего! Целуем.

* * *

27.XII.1949 г.

<...> С Новым годом! Милая Федора Павловна! Как живёте? Мы работаем понемногу. И рад бы побольше взять работы, да сил нет.

Только два последних дня немного похолодало, а так всё оттепель была. Вчера и сегодня 6 градусов мороза. Легче станет со всякими заболеваниями, как, например, с гриппом.

Целуем Вас крепко. Желаем здоровья и удачи в делах. <...>

* * *

5.III.1950 г.

Милая Федора Павловна!

<...> Пишет ли Вам Ваня? Там ли он находится, где раньше был, или его перевели? Пишите подробнее о себе. Будьте здоровы.

Целуем Вас крепко, желаем здоровья.



* * *

4.XI.1950 г.

Милая Федора Павловна!

<...> Писал ли Тоня? Почему нам не пишет?

Какой номер Вашей обуви? Сообщите.

Мы помаленьку работаем, хотя уже трудновато. Погода у нас ещё довольно тёплая. <...>

Всего доброго, будьте здоровы. Целуем крепко.

Любящие Ф. и Е. Бельские.

* * *

16.III.1951 г.

Дорогая Федора Павловна!

Международный женский день 8 Марта мы встретили радостно. Екатерине Михайловне, Лизе и Ирочке я подарил по коробке шоколадных хороших конфет. <...>

10 марта Екатерина Михайловна была на вечере в Техникуме и вернулась домой около 11 часов вечера, прихрамывая, так как у неё заболели нервы ноги. Перед сном я поставил грелку, чтобы утишить боль, но к утру 11 марта болезнь усилилась. Одновременно с этим началась боль в области сердца, которая особенно усилилась 12 марта. <...>

Я сидел за столом и работал до 1 часа ночи 13 марта... В три часа ночи я проснулся от стонов Екатерины Михайловны, которая жаловалась на сильные сердечные боли. <...>

Дорогая Федора Павловна! Я осиротел, потеряв любимую жену Екатерину Михайловну, которую 15 марта 1951 года похоронил на Серафимовском кладбище. Вечная ей память!

Скорбящий муж Фома Бельский.

* * *

30.III.1951 г.

Дорогая Федора Павловна!

Нить жизни горячо мною любимой Екатерины Михайловны внезапно оборвалась.

Стараясь объяснить себе причину такой внезапной смерти Екатерины Михайловны, я продумал обстановку жизни двух последних перед смертью Екатерины Михайловны недель. <...>

Хотя на дворе была снежная буря, однако все провожающие в последний путь дорогую, горячо любимую Екатерину Михайловну шли за гробом более пяти вёрст...

Много сочувствия высказали мне студенты и преподаватели, что облегчило моё горе. Ваше сочувствие, дорогая Федора Павловна, также облегчает моё горе. Чтобы это горе скорее стало меньшим, я с 19 марта приступил к работе. От всей души благодарю Вас, дорогая Федора Павловна, за выражение мне сочувствия.

Целую крепко. Ф. Бельский.

Перапіска Фамы Антонавіча з роднымі людзьмі сведчыць пра яго глыбокую чалавечнасць і высокую ўнутраную культуру. Эпісталярная спадчына прафесара Бельскага — частка жыцця шматграннай асобы. Пададзенае вышэй ліставанне арганічна дадае яркія, выразныя штрыхі да партрэта вучонага-педагога.

Алесь БЕЛЬСКІ

## Вяртанне ў восень
### *(урыўкі з эсэ)*

На схіле беларускай зімы, калі зыркае сонца прарвала заслону шэрані і заліло цеплынёй свет, прасвятліла сэрца надзеяй на скон завей і маразоў, вяртаюся ў мінулагоднюю кіеўскую восень. Вяртаюся, зразумела, у думках і згадках, бо жыву ў прадчуванні новай сустрэчы з горадам, куды выпраўляюся штогод пагасцяваць да сваёй стрыечнай сястры Тамары Пракопаўны.

Першы дзень кіеўскай восені для мяне зноўку пачаўся ад Сафіі. Уваходзячы на яе тэрыторыю, на гэты раз не пачуў, як летась, грання бандуры і задушэўнага голасу сівавалосага немаладога мужчыны ў нацыянальнай кашулі-вышыванцы, які, цярэбячы струны, тужліва-сумна спяваў пра сокала. Зрэшты, сваім выглядам ён нагадваў мне чымсьці купалаўскага гусляра. У Сафійскі сабор на гэты раз я не зайшоў, доўга не затрымаўся, як летась, пасядзеў крыху на лаўцы ў одуме пад старымі разгалістымі каштанамі і падаўся назад, каб у гэты ж дзень наведаць Кіева-Пячэрскую лаўру. Мой дзядуля Антон двойчы здзяйсняў паломніцтва ў гэты горад да святыняў, але было гэта даўным-даўно ці, як казала бабуля Ганна з матчынага боку, за царскім часам. <...>

Лёс з'яднаў маіх блізкіх, сваякоў з Кіевам. Бацькаў брат Фама Антонавіч Бельскі ў 1913 годзе скончыў тут Імператарскі ўніверсітэт імя св. Уладзіміра. Ён вучыў дзяцей у гімназіях Кіеўскай губерні, працаваў ва Украіне і ў Расіі ў розных вышэйшых навучальных установах. У даваенны час,



ратуючыся ад пераследу за іншадумства (на вучоным савеце Херсонскага інстытута народнай адукацыі раскрытыкаваў метад політэхнізацыі), прафесар Бельскі вярнуўся на радзіму, узначаліў кафедру педагогікі і псіхалогіі ў Магілёўскім педінстытуце. Затым былі выкладчыцкая праца ў Бухары, Чарнігаве. Апошняе месца працы Фамы Антонавіча — загадчык кафедры педагогікі Кіеўскага інстытута фізічнай культуры. Бацькава сястра Яўгенія да выхаду на пенсію працавала выхавальніцай украінскай дзятвы. Яна па сутнасці здзейсніла мацярынскі подзвіг — пасля гібелі мужа на фронце ў 1941 г. адна гадавала дваіх дзяцей, рупілася і ахвяравала ўсім, каб даць ім адукацыю. Здавалася, перад вайной лёс абяцаў зусім іншую, больш шчаслівую будучыню ёй і яе сям'і: муж Пракоп Данілавіч за навуковае адкрыццё быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, у ліку першых ардэнаносцаў яго віталі ў Акадэміі навук Украіны, мелася адбыцца абарона кандыдацкай дысертацыі, за якую, паводле меркавання шэрагу аўтарытэтных навукоўцаў, міколагу Яталю магла б быць адразу прысуджана ступень доктара навук. Вядома, улічваючы тое, наколькі выключна важнае значэнне мела гэтае адкрыццё... Яго дзеці таксама звязалі свой жыццёвы шлях з навукай. Дачка Тамара больш трыццаці гадоў адпрацавала ў Кіеўскім інстытуце інфекцыйных хвароб Міністэрства аховы здароўя Украіны, падрыхтавала дысертацыю кандыдата медыцынскіх навук, якую паспяхова абараніла ў Маскве ў далёкім 1955 г. Георгій, сын Пракопа і Яўгеніі Яталяў, гэтак, як і сястра Тамара, з адзнакаю закончыў Кіеўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Т. Р. Шаўчэнкі, толькі філалагічны факультэт (аддзяленне англійскай мовы і літаратуры). Як вучоны-філолаг ён набыў высокі аўтарытэт і прызнанне, прэзентаваў свае лінгвістычныя ідэі і адкрыцці на міжнародных навуковых канферэнцыях і кангрэсах у розных краінах свету: Венгрыі, Францыі, Канадзе, Іспаніі, Расіі, Эстоніі і інш.* <...>

* Праз усё жыццё Фама Антонавіч і Яўгенія Антонаўна захавалі пачуццё глыбокай роднасці, шчырай чалавечай дружбы і вялікага сяброўства. Старэйшы брат апекаваўся сястрою, дапамагаў і спрыяў яе сям'і. Калі надышла цяжкая хвіліна ў жыцці брата, Яўгенія запрасіла яго жыць у Кіеў. Яна разам з дзецьмі Георгіем і Тамарай клапацілася пра цяжкахворага Фаму Антонавіча. Скончыўся яго зямны шлях у кватэры № 44 па вуліцы Леніна, 9 (цяпер гэта вуліца Б. Хмяльніцкага).

Разам з Тамарай Пракопаўнай мы выдалі бібліяграфічныя даведнікі «Прафесар Фама Антонавіч Бельскі», «Прафесар Георгій Яталь» (абодва выйшлі ў Мінску ў 2002 г.), а восенню сустрэліся зноў, каб, апрача іншага, закончыць падрыхтоўчую працу над рукапісам кнігі пра міколага Яталя...

Назаўтра з Тамарай Пракопаўнай паехалі на Байкавыя могілкі, каб наведаць апошні прыстанак родных нам людзей. Старыя агромністыя клёны стулілі свае цёмна-зялёныя шаты, якія хавалі нас ад зыркіх і пякучых промняў сонца. Ускладаем вяночкі са штучных кветак на чорныя пліты пры помніках дзядзькі Фамы, Яўгеніі Антонаўны, Георгія Пракопавіча. Стаім колькі хвілін у одуме, а пасля гаворым пра Цімкавічы. <...>

Апошні мой дзень на Украіне прысвячаем наведванню Літаратурна-мемарыяльнага музея-кватэры Паўла Рыгоравіча Тычыны, што месціцца на вуліцы Цярэшчанкаўскай, 5, амаль побач з домам, дзе жыве Тамара Пракопаўна... Кажучы словамі аднаго са знаўцаў украінскага слоўнага мастацтва, маё знаёмства з вершаванымі кнігамі Паўла Тычыны зрабілася «адкрыццём цэлага космасу паэзіі», і пад гэтым уплывам я пачаў шукаць паралелі і аналогіі ў беларускай лірыцы. <...>

Прыгаданая кіеўская восень міжволі вяртае ў беларускую вясну, цяпло якой будзіць думку пра клопаты на зямлі, пра маё чарговае цімкавіцкае лета. Выходжу са свайго дома ў шчодра заліты святлом свет, крочу, удыхаючы вясновы водар талага снегу, і, згадваючы «сонечныя кларнеты» Паўла Тычыны, ува мне пачынае гучаць вясновая мелодыя:

Блакить мою душу обвіяла,
Душа моя сонця намріяла,
Душа причастилася кротості трав —
Добридень я світу сказав!

Дзень добры, свет! Вітаю цябе, Вясна — медыум паміж кіеўскай восенню і маім цімкавіцкім летам.



# Прафесар Фама Антонавіч Бельскі
## *(замест рэзюмэ)*

БЕЛЬСКІ Фама Антонавіч (31.10.1890, м. Цімкавічы Слуцкага павета Мінскай губерні, цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 2.03.1952, Кіеў), украінскі, беларускі і рускі вучоны ў галіне педагогікі і псіхалогіі.

Ф. Бельскі скончыў з сярэбраным медалём Слуцкую гімназію (1909), з дыпломам І ступені Кіеўскі ўніверсітэт (1913). З 1913 года выкладаў у гімназіях Украіны. Удзельнік Першай сусветнай вайны. У 1921—1923 гадах лектар на трохгадовых педкурсах у Наваміргарадзе, Інстытуце народнай адукацыі ў м. Златапаль на Кіеўшчыне. З 1925 года прафесар Данецкага, пазней — Херсонскага інстытутаў народнай адукацыі. У 1932 г. на вучоным савеце апошняга выступіў з крытыкай метаду політэхнізацыі, пасля чаго мусіў пакінуць інстытут і ратавацца ад рэпрэсій. З 1932 года загадчык кафедры педагогікі Краснадарскага інстытута, пазней, з 1935 — загадчык кафедры педагогікі і псіхалогіі Магілёўскага педінстытута, з 1936 — прафесар Ферганскага і Какандскага педагагічнага і настаўніцкага інстытутаў, з 1941 — Бухарскага педінстытута. Потым працаваў у Крымскім педінстытуце, Ленінградскім абласным настаўніцкім інстытуце. З 1951 года загадчык кафедры педагогікі Кіеўскага інстытута фізічнай культуры.

Навуковыя працы Ф. Бельскага прысвечаны метадалогіі і гісторыі педагогікі, праблемам кіравання школай, стварэння школ для адораных дзяцей, пытанням арганізацыі вучэбнага працэсу ў сярэдняй школе і ВНУ, распрацоўкі крытэрыяў ацэнкі ведаў навучэнцаў, маральнага выхавання вучняў старэйшага школьнага ўзросту, павышэнню кваліфікацыі кадраў і інш. Аўтар навуковых даследаванняў «Вымярэнне паспяховасці навучэнцаў па стандартызаваных тэстах» (1926), «Арганізацыя навуковай работы» (1926), «Арганізацыя школ для адораных дзяцей» (1927), «Арганізацыя школ для звышадораных навучэнцаў» (1927), «Вывучэнне здольнасцей дзяцей» (1928), «Педагогіка як навука» (на ўкраінскай мове. Луганск, 1929), «Нарматыўныя элементы педагогікі пры выкладанні яе ў педагагічных ВНУ» (1929), «Вялікі рускі педагог К. Д. Ушынскі» (1946) і інш.

Спадчыне вучонага прысвечаны даведнік «Прафесар Фама Антонавіч Бельскі: бібліягр. паказальнік = Профессор Фома Антонович Бельский: библиогр. указатель» (Мінск, 2002).

*Алесь Бельскі*

## Професор Фома Антонович Бєльський

***(замість резюме)***

БЄЛЬСЬКИЙ Фома Антонович (31.10.1890, м. Тимковичі Слуцького повіту Мінської губернії, нині Копильський р-н Мінської обл. — 2.03.1952, Київ), український, білоруський і російський вчений у галузі педагогіки і психології.

Ф. Бєльський закінчив зі срібною медаллю Слуцьку гімназію (1909), з дипломом І ступеня Київський університет (1913). З 1913 року викладав у гімназіях України. Учасник Першої світової війни. У 1921—1923 роках лектор на трирічних педкурсах в Новомиргороді, інституті народної освіти в м. Златополі на Київщині. З 1925 року професор Донецького, пізніше — Херсонського інститутів народної освіти. У 1932 р. на вченій раді останнього виступив із критикою методу політехнізації, після чого змушений був залишити інститут і рятуватися від репресій. З 1932 року завідувач кафедрою педагогіки Краснодарського педінституту, пізніше, з 1935 — завідувач кафедри педагогіки і психології Могилівського педінституту, з 1936 — професор Ферганського і Кокандского педагогічного та учительського інститутів, з 1941 — Бухарського педінституту. Після працював у Кримському педінституті, Ленінградському обласному учительському інституті. З 1951 року завідувач кафедрою педагогіки Київського інституту фізичної культури.

Наукові роботи Ф. Бєльського присвячені методології та історії педагогіки, проблемам управління школою, створення шкіл для обдарованих дітей, питанням організації навчального процесу в середній школі та вузах, розробці критеріїв оцінки знань учнів, морального виховання учнів старшого шкільного віку, підвищення кваліфікації кадрів тощо. Автор наукових досліджень «Вимірювання успішності учнів



за стандартизованими тестами» (1926), «Організація наукової роботи» (1926), «Організація шкіл для обдарованих дітей» (1927), «Організація шкіл для надобдарованих учнів» (1927), «Вивчення здібностей дітей» (1928), «Педагогіка як наука» (українською мовою. Луганськ, 1929), «Нормативні елементи педагогіки при викладанні її в педагогічних вузах» (1929), «Великий російський педагог К. Д. Ушинський» (1946) та ін.

Спадщині вченого присвячений довідник «Професор Фома Антонович Бєльський: бібліогр. покажчик» (Мінськ, 2002).

*Алесь Бєльський*

## Профессор Фома Антонович Бельский

***(вместо резюме)***

БЕЛЬСКИЙ Фома Антонович (31.10.1890, м. Тимковичи Слуцкого уезда Минской губернии, ныне Копыльский р-н Минской обл. — 2.03.1952, Киев), украинский, белорусский и русский учёный в области педагогики и психологии.

Ф. Бельский окончил с серебряной медалью Слуцкую гимназию (1909), с дипломом I степени Киевский университет (1913). С 1913 года преподавал в гимназиях Украины. Участник Первой мировой войны. В 1921—1923 годах лектор на трёхлетних педкурсах в Новомиргороде, Институте народного образования в м. Златополе на Киевщине. С 1925 года профессор Донецкого, позже — Херсонского институтов народного образования. В 1932 г. на учёном совете последнего выступил с критикой метода политехнизации, после чего вынужден был оставить институт и спасаться от репрессий. С 1932 года заведующий кафедрой педагогики Краснодарского пединститута, позднее, с 1935 — заведующий кафедрой педагогики и психологии Могилёвского пединститута, с 1936 — профессор Ферганского и Кокандского педагогического и учительского институтов, с 1941 — Бухарского пединститута. Потом работал в Крымском пединституте,

Ленинградском областном учительском институте. С 1951 года заведующий кафедрой педагогики Киевского института физической культуры.

Научные работы Ф. Бельского посвящены методологии и истории педагогики, проблемам управления школой, создания школ для одарённых детей, вопросам организации учебного процесса в средней школе и вузах, разработки критериев оценки знаний учащихся, нравственного воспитания учащихся старшего школьного возраста, повышению квалификации кадров и др. Автор научных исследований «Измерение успеваемости учащихся по стандартизированным тестам» (1926), «Организация научной работы» (1926), «Организация школ для одарённых детей» (1927), «Организация школ для сверходарённых учащихся» (1927), «Изучение способностей детей» (1928), «Педагогика как наука» (на украинском языке. Луганск, 1929), «Нормативные элементы педагогики при преподавании её в педагогических вузах» (1929), «Великий русский педагог К. Д. Ушинский» (1946) и др.

Наследию учёного посвящён справочник «Прафесар Фама Антонавіч Бельскі: бібліягр. паказальнік = Профессор Фома Антонович Бельский: библиогр. указатель» (Минск, 2002).

*Алесь Бельский*

## Professor Foma Antonovich Belsky
### *(in lieu of summary)*

BELSKY, Foma Antonovich (31.10.1890, the village of Timkovichi, Slutsky district of Minsk region, now Kopylsky district of Minsk region — 2.03.1952, Kiev) was a Ukrainian, Belarusian and Russian scientist in the field of pedagogy and psychology.

F. Belsky was awarded a silver medal when he finished Slutsky grammar school in 1909. He graduated from Kiev university with a diploma of the 1st degree in 1913. Since 1913 he taught in grammar schools in Ukraine. He was a participant of the First World War. In 1921—1923 F. Belsky worked as a lecturer for the three-year pedagogical course in Novomirgorod, in the National Education Institute in Zlatopol, Kiev province. Since 1925 he was a professor of Donetsk, and later on— Kherson Institutes of National Education. In 1932, during the meeting of the Scientific Board of the latter, he criticized the method of politechnization, after which he was forced to quit his post at the Institute and escape from repressions. Since 1932 F. Belsky was the head of the department of pedagogy of Krasnodar Teacher Training College, and later, since 1935 — the head of the department of pedagogy and psychology of Mogilyov Teacher Training Institute; since 1941 — Bukhara Teacher Training College. F. Belsky then worked in the Crimean Teacher Training College and Leningrad Regional Teacher Training Institute. Since 1951 he was the head of the department of pedagogy of Kiev Institute of Physical Training.

F. Belsky's research work and publications included the study of methodology and the history of pedagogy, problems of school management, issues of creation of schools for gifted children, organization of the educational process in secondary schools and higher educational establishments, development of criteria for pupils' knowledge assessment, moral education of senior school pupils, teachers' advanced training, etc. F. Belsky was the author of the following research works: "Assessment of Pupils' Progress by Standardized Tests" (1926), "Organization of Research Work" (1926), "Establishment of Schools for Child Prodigies" (1927), "Studying Children's Abilities" (1928), "Pedagogy as a Science" (in Ukrainian; Lugansk, 1929), "Standard Elements of Pedagogy Taught in Pedagogical Colleges" (1929), "The Great Russian Teacher K. D. Ushinsky" (1946), etc.

A directory *Professor Foma Antonovich Belsky: Bibliographical Index* (Minsk, 2002) is dedicated to the heritage of the scientist.

*Ales Belsky*

# Каментарыі

Гэты зборнік склалі артыкулы пра вучонага-педагога прафесара Ф. А. Бельскага (1890—1952), большасць з якіх надрукавана ў беларускіх навуковых і даведачных выданнях, перыядычным друку. Першыя публікацыі пра яго жыццё і навукова-педагагічную дзейнасць з'явіліся на радзіме, у Беларусі, у другой палове 1980-х — на пачатку 1990-х гг. Імя Фамы Бельскага было вернута з забыцця і ўключана ў кантэкст гісторыі адукацыі і педагогікі, пачала актыўна вывучацца біяграфія вучонага і асэнсоўвацца яго спадчына. У нашы дні жыццю і творчасці Ф. А. Бельскага прысвечаны новыя працы беларускіх і ўкраінскіх даследчыкаў, асобныя артыкулы напісаны спецыяльна для гэтага выдання.

***Кабуш Владимир*. Слово об учёном-педагоге Ф. А. Бельском (предисловие) (с. 3)**

*Кабуш Уладзімір Трафімавіч* (нар. у 1941 г.) — доктар педагагічных навук, прафесар, прафесар кафедры педагогікі і філасофіі адукацыі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, акадэмік Акадэміі педагагічных і сацыяльных навук (г. Масква), у 1970 г. скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага (цяпер — Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка), з 1972 г. у НДІ педагогікі, з 1978 г. у Рэспубліканскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў, у 1979—1992 гг. — загадчык кафедры гэтага інстытута, з 1992 года — дэкан факультэта, загадчык кафедры Інстытута павышэння кваліфікацыі кіруючых кадраў і спецыялістаў адукацыі, з 1997 г. у Акадэміі паслядыпломнай адукацыі — загадчык кафедры, а ў 1999—2003 гг. — прарэктар, на працягу 15 гадоў (1995—2011) з'яўляўся галоўным рэдактарам навукова-метадычнага часопіса «Праблемы выхавання», аўтар больш як 300 навуковых артыкулаў, 10 вучэбных дапаможнікаў, манаграфій, ім распрацаваны 2 праграмы выхавання школьнікаў, падрыхтаваў 10 кандыдатаў педагагічных навук, выдатнік народнай асветы БССР і інш.

Вучоны-педагог У. Т. Кабуш вядомы ў краінах СНД — Расія, Украіна, Казахстан, Кыргызстан, а таксама ў краінах блізкага і далёкага замежжа — Германія, Польшча, Эстонія і інш.

***Бельскі Алесь*. Бельскі Фама Антонавіч (з «Беларускай энцыклапедыі») (с. 5)**

Упершыню — Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. — Мінск: БелЭн, 2004. — Т. 18, кн. 1, с. 350.

*Бельскі Алесь Іванавіч* (нар. у 1963 г.) — доктар філалагічных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, галоўны рэдактар часопіса «Беларуская мова і літаратура», лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа, аўтар шматлікіх кніг і публікацый у друку.



***Бельскі Анатоль*. Прафесар з Цімкавіч (с. 6)**

Упершыню — газ. «Слава працы» (Капыль), 1987, 30 мая, с. 2.

*Бельскі Анатоль Іванавіч* (1949—1994) — настаўнік гісторыі, краязнавец, пасля заканчэння Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага (1971) настаўнічаў на заходнім Палессі, затым працаваў завучам Вялікараёўскай сярэдняй школы і дырэктарам Руднянскай базавай школы Капыльскага раёна, аўтар публікацый у раённым друку і рэспубліканскіх выданнях.

***Бельскі Анатоль*. «З усімі правамі і перавагамі...» (с. 9)**

Упершыню — «Настаўн. газ.», 1991, 30 студз., с. 3 у рубрыцы «Вернуты з забыцця».

***Бельскі Алесь*. Сніў сны пра Беларусь (с. 12)**

Упершыню — газ. «Чырв. змена», 2001, 11 студз., с. 5.

Дапрацаваны варыянт змешчаны ў выд.: Прафесар Фама Антонавіч Бельскі = Профессор Фома Антонович Бельский / уклад. А. І. Бельскі. — Мінск: Энцыклапедыкс, 2002, с. 3—10.

Артыкул таксама друкаваўся ў зб.: *Бельскі, А.* Экалогія душы: арт., нарысы, эсэ. — Мінск: УП «Тэхнапрынт», 2003, с. 88—93.

***Бельскі Алесь*. Інтэлігентнасць — скарб душы (с. 20)**

Упершыню — час. «Беларус. мова і літ. у шк.», 1990, № 9, с. 13.

Дапрацаваны варыянт змешчаны ў выд.: *Бельскі, А.* Экалогія душы: арт., нарысы, эсэ, с. 3—8.

***Ятель Тамара*. Мой дорогой дядя Фома (воспоминания) (с. 28)**

Упершыню — бібліягр. даведнік «Прафесар Фама Антонавіч Бельскі = Профессор Фома Антонович Бельский», с. 27.

Успаміны дапрацаваны спецыяльна для гэтага выдання.

*Ятaль Тамара Пракопаўна* (нар. у 1925 г.) — кандыдат медыцынскіх навук, скончыла аспірантуру Інстытута мікрабіялогіі і эпідэміялогіі імя Д. К. Забалотнага АН УССР (1949), з 1952 па 1985 г. працавала ў Інстытуце інфекцыйных хвароб Міністэрства аховы здароўя Украіны, аўтар больш як 120 навуковых прац, надрукаваных ва Украіне, Расіі, ЗША, Балгарыі і іншых краінах.

***Бельскі Яўген*. Мой род: лініі, пункціры, зігзагі лёсу (урыўкі) (с. 36)**

Упершыню — Мой радавод: лёс сям'і ў XX стагоддзі: зб. матэрыялаў і конкурсных прац / склад. І. Коваль; пад рэд. В. Арэшкі. — Мінск: ГА «Дыярыуш», 2001, с. 55.

Тэкст дапрацаваны спецыяльна для гэтага выдання.

*Бельскі Яўген Аляксандравіч* (нар. у 1986 г.) — журналіст, пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2008)

працуе ў рэспубліканскай газеце «Паляўнічы і рыбалоў», аўтар шматлікіх публікацый у друку.

***Ігнатчык Іван*. Настаўнік настаўнікаў (с. 41)**

Упершыню — газ. «Слава працы», 2010, 3 ліст., с. 3 у рубрыцы «Людзі зямлі капыльскай».

Тэкст дапрацаваны спецыяльна для гэтага выдання.

*Ігнатчык Іван Рыгоравіч* (нар. у 1941 г.) — журналіст, краязнавец, скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут (1973), быў загадчыкам Цэнтральнай фоталабараторыі г. Сяміпалацінска, звыш 30 гадоў працаваў у рэдакцыі капыльскай раённай газеты «Слава працы», аўтар шматлікіх публікацый у раённым і рэспубліканскім друку.

***Цішкевіч Васіль*. З гімназіі — у свет вялікі (с. 44)**

Упершыню — газ. «Слуцкі край», 2012, 20 студз., с. 6.

*Цішкевіч Васіль Васільевіч* (нар. у 1959 г.) — краязнавец, навуковы супрацоўнік Слуцкага краязнаўчага музея, пасля заканчэння гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1982) настаўнічаў на Случчыне, аўтар шматлікіх публікацый у раённым і рэспубліканскім друку.

***Бельскі Алесь*. Іх яднала літаратура і творчасць (с. 47)**

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 2011, 16 верас., с. 12.

***Бельскі Алесь*. І прызванне, і лёс: жыццё і дзейнасць вучонага-педагога прафесара Ф. А. Бельскага (с. 53)**

Упершыню — час. «Адукацыя і выхаванне», 2012, № 3, с. 58.

***Белая Алена*. Станаўленне асобы Ф. А. Бельскага як вучонага-педагога (с. 67)**

Тэкст друкуецца ўпершыню па аўтарскім арыгінале.

Артыкул напісаны спецыяльна для гэтага выдання.

*Белая Алена Іванаўна* (нар. у 1957 г.) — кандыдат педагагічных навук, дацэнт кафедры філалогіі Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта, пасля заканчэння Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова (1979; дыплом з адзнакай) настаўнічала ў Слоніме і Баранавічах, у 2009 г. скончыла дактарантуру пры БДУ, загадвала кафедрай філалогіі і методыкі выкладання Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта, аўтар вучэбна-метадычнага дапаможніка «Фарміраванне гісторыка-патрыятычнай свядомасці школьнікаў пры вывучэнні твораў Уладзіміра Караткевіча», манаграфій «Чалавек у плыні часу», «Людзі адной зямлі», «Герой. Асоба. Характар», шматлікіх прац па педагогіцы, методыцы выкладання і гісторыі беларускай літаратуры.



***Бельскі Алесь, Бельскі Яўген*. Прафесар Ф. А. Бельскі як адзін з пачынальнікаў краязнаўчага руху на Луганшчыне (дзейнасць і погляды) (с. 78)**

Упершыню — Краязнаўства як адзін з накірункаў вучэбна-выхаваўчай работы ў школе і ВНУ: матэрыялы рэсп. навук. канф., Брэст, 28—29 сак. 2008 г. / пад агул. рэд. У. А. Сенькаўца. — Брэст: Альтернатива, 2008, с. 6.

Тэкст дапрацаваны спецыяльна для гэтага выдання.

Гэтаму артыкулу папярэднічала публікацыя: *Бельскі, Я.* Беларус, пачынальнік краязнаўства на Луганшчыне // Краязнаўчая газ., 2006, № 36, верасень, с. 6.

***Анпілогова Тетяна*. Роль Ф. А. Бєльського у розвитку народної освіти та науки на Луганщині (с. 83)**

Тэкст друкуецца ўпершыню па аўтарскім арыгінале.

Артыкул напісаны спецыяльна для гэтага выдання.

*Анпілогава Таццяна Юр'еўна* (нар. у 1980 г.) — кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Украіны Луганскага нацыянальнага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі, член Нацыянальнага саюза краязнаўцаў Украіны, аўтар вучэбна-метадычных дапаможнікаў, навуковых артыкулаў па гісторыі Украіны.

Тэма кандыдацкай дысертацыі Т. Ю. Анпілогавай — «Гуманітарная інтэлігенцыя Данбаса ў перыяд новай эканамічнай палітыкі (1921—1928 гг.)».

***Нагрибельна Інна, Пучинська Тетяна*. Життя і діяльність професора педагогіки Ф. А. Бєльського в Херсоні (1929—1932) (с. 90)**

Тэкст друкуецца ўпершыню па аўтарскім арыгінале.

Артыкул напісаны спецыяльна для гэтага выдання.

*Нагрыбельная Іна Анатольеўна* (нар. у 1974 г.) — кандыдат педагагічных навук, дацэнт, загадчык кафедры філалогіі Херсонскага дзяржаўнага ўніверсітэта (з 2007 г.), скончыла Херсонскі дзяржаўны ўніверсітэт (1996; дыплом з адзнакай) і аспірантуру пры ім (2002), аўтар шматлікіх вучэбна-метадычных прац і навуковых артыкулаў у прафесійных украінскіх выданнях.

*Пучынская Таццяна Міхайлаўна* (нар. у 1974 г.) — кандыдат педагагічных навук, дацэнт, загадчык кафедры філалогіі Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта, пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (1996) выкладала ў Баранавіцкім філіяле Беларускага камерцыйнага ўніверсітэта кіравання, Баранавіцкім філіяле Беларускага

